3 сакавіка 2017 | № 8 (522)

Новы час

novychas.by

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

Ад палявання на вядзьмарак да палявання на Трампа

Стар.21





# Бітва за Курапаты

## Хто і навошта стаіць у Курапатах дзень і ноч?



Алесь КІРКЕВІЧ

Лагер пратэстоўцаў, які паўстаў каля будоўлі па Мірашнічэнкі, 53, побач з урочышчам Курапаты, стаўся цалкам унікальнай з'явай для беларускага палітычнага і сацыяльнага поля. Упершыню інтарэсы абаронцаў нацыянальнай памяці ды жыхароў спальных раёнаў аб'ядналіся, а чыноўнікі разам з інвестарам сустрэлі супраціў.

Каля Мірашнічэнкі, 53 мусіў паўстаць 5-павярховы бізнэс-цэнтр: зямля пад яго была спачатку здадзеная ў арэнду, а пасля прададзеная інвестару сталічнымі чыноўнікамі. Пры гэтым пад будаўнічы праект адмыслова ўрэзалі ахоўную зону мемарыялу ахвяраў сталінскіх рэпрэсіяў у Курапатах. Адначасна былі праігнараваныя галасы мясцовых жыхароў, з якімі ніхто нічога не ўзгадняў.

У выніку, пад самай сцяной МКАДу па дарозе да курапацкіх крыжоў з'явілася будаўнічая пляцоўка, дзе актывісты «Маладога фронту» на чале са Зміцерам Дашкевічам арганізавалі стыхійны пратэст. Пасля боек з будаўнікамі, за якімі з усмешкай назіралі супрацоўнікі МУС у цывільным, здымаючы ўсё на камеры, пратэстоўцы ўтварылі побач з будоўляй свой лагер — фарпост пратэсту супраць карупцыі ды знявагі нацыянальнай памяці.

Зараз, калі ўжо заканчваецца другі тыдзень супрацьстаяння, абаронцы Курапатаў кажуць, што тут "робіцца гісторыя ды гартуецца грамадзянскі чын". Чаму? Абарона Курапатаў–2017 — гэта не спроба рэвалюцыі, паўстання ці «трэніровачнага майдану». Не! Рэвалюцыя — гэта змена палітычнай улады, тут жа гаворка ідзе пра адстойванне сваіх правоў: як права на памяць ды вечны спакой забітых у 1930-я гады, так і правоў сучасных жыхароў Зялёнага Лугу.

«Прабачце, але канкрэтна на гэтым месцы нікога не расстрэльвалі!» — скажуць апаненты. Магчыма, хаця, ці ёсць там парэшткі, дакладна пакажуць толькі даследаванні археолагаў. Але гаворка не пра гэта. Гаворка пра сістэматычнае скарачэнне ахоўнай зоны вакол Курапатаў: спачатку «расстрэльны лес» разрэзалі напалову МКАДам, пасля дзялянку зямлі аддалі пад пабудову «Бульбаш-холу», зараз — яшчэ адзін кавалак адыходзіць пад бізнэс-цэнтр... Колькі можна?

Справа не ў касцях непасрэдна, а ў прынцыпе: «Пакіньце Курапаты ў спакоі!» Да таго ж ёсць панятак гістарычнага ландшафту. Скажам, ці можна ўпрытык да Кургана Славы пабудаваць казіно, альбо сценка-ў-сценку да царквы XVI стагоддзя — «Макдональдс»? Мабыць, можна, але што ўбачаць нашы суайчыннікі ды турысты ў выніку? Бязгусціцу, якая мяжуе з хамствам.

«Прабачце, — працягнуць недобразычліўцы, — а якая справа «маладафронтаўцам» ды іншым да праблемаў жыхароў Зялёнага Лугу?» Вельмі трапная заўвага, але няслушная. «Маладафронтаўцы» ніколі не змогуць вырашыць праблемаў мясцовых жыхароў без саміх жыхароў. Яны могуць толькі дапамагчы.

Падаецца, што жыхары раёна гэта таксама разумеюць: таму дапамагалі і дапамагаюць і падчас супрацьстаяння з рабочымі, і падчас функцыянавання лагеру пратэсту — гарачай гарбатай, ежай, цёплымі рэчамі на халодныя ночы. Падыйсці і наўпрост паразмаўляць — гэта таксама дапамога. Асабліва пад ранак, калі пратэстоўцаў менее, а імавернасць паўтарэння нападаў з боку адмыслова нанятых «гопнікаў», як у ноч з 22 на 23 лютага, павялічваецца.




Фота www.kp.by

**Сімвалічна, што мы згадваем Курапаты праз 80 гадоў пасля пачатку «вялікага тэрору»**

«Прабачце, — ужо зусім раздражнёна спытаюць крытыкі, — але навошта ўсё палітызаваць?» Зноў жа, цікавая думка, але — міма. Калі Курапаты і «палітызавалі», то акурат у мінулыя дзесяцігоддзі, калі шэсці сюды ладзіла адна палітычная партыя. Калі падчас шэсцяў не давалі слова нікому, апроч прадстаўнікоў згаданай партыі. Калі нават шпакоўні ў курапацкім лесе, вывешаныя «няправільнымі актывістамі» збіваліся, а «няправільныя помнікі» (як помнік забітым палякам) — нішчыліся. Гэта акурат і была спроба «палітызацыі» ды «прыватызацыі» Курапатаў.

Зараз жа ў лагеры абаронцаў ёсць і актывісты, і мясцовыя, і наўпрост неабыякавыя грамадзяне з розных раёнаў Мінска ды нават іншых гарадоў Беларусі (Гродна, Орша, Баранавічы, Жодзіна, Светлагорск і г.д.). Тут няма партыйных сцягоў ці «антыдзяржаўных лозунгаў». А самае галоўнае — пытанне, якое тут вырашаецца, тычыцца выключна карупцыі ды знявагі памяці продкаў.

Калі ж у лагер на паўгадзінкі прыязджаюць некаторыя апазіцыйныя палітыкі, каб паціснуць хлопцам закопчаныя ля вогнішчаў рукі, гэта ўжо пытанне іхнага сумлення. Бо любы сумленны чалавек не можа застацца ўбаку ад таго, што сёння робіцца ля Курапатаў.

Сімвалічна, што мы зноў згадваем Курапаты праз 80 гадоў пасля пачатку «вялікага тэрору». Мабыць, Бог падкідвае нам такія каменьчыкі, каб не забыліся на нешта важнае ды не збіліся са шляху. Безумоўна, Курапаты павінны яднаць нацыю, а не рабіцца нагодай для спрэчак, палітычных разборак ды міфатворчасці.

Адначасна, Курапаты працягваюць заставацца агаленым нервам народу, які турбуе і не дае спаць па начах у самыя складаныя для краіны часы.

# На Дзень Волі магчымы прарасійскія правакацыі

Алесь КІРКЕВІЧ

**Аргкамітэт па святкаванні Дня Волі распавёў журналістам пра свае планы і асцярогі.**

Прэс-канферэнцыя прайшла з удзелам старшыні Руху «За Свабоду» Юрася Губарэвіча, старшыні АГП Анатоля Лябедзькі, старшыні БНФ Аляксея Янукевіча, сустаршыні БХД Віталя Рымашэўскага ды намесніцы кіраўніка Руху салідарнасці «Разам» Алены Талстой.

Першапачаткова аргкамітэт па святкаванні Дня Волі збіраўся на пачатку года, падаў заяўку на правядзенне вулічнай акцыі, але яна «згубілася». Арганізатары патлумачылі гэта тым, што ўлады не захацелі даваць адказ загадзя, выпрашыўшы прасачыць за развіццём падзеяў. Пасля была пададзеная паўторная заяўка. Адказ на яе павінен прыйсці за 5 дзён да акцыі.

Паводле плана арганізатараў, удзельнікі Дня Волі збяруцца 25 сакавіка а 14.00 каля Акадэміі Навук. Далей калона пройдзе шэсцем па праспекце Незалежнасці ў бок Кастрычніцкай плошчы.

«Патэнцыял пратэсту ёсць, — адзначыў Юрась Губарэвіч, — ён не можа быць прыватызаваны адной структурай ці лідарам. Толькі супольная праца дасць станоўчы эфект. Разам з тым, Дзень Волі нельга зводзіць выключна да пратэсту супраць дэкрэту №3. Абарона незалежнасці Беларусі і небяспека з боку РФ — вельмі вострыя пытанні сёння».

Зараз ідуць перамовы паміж суб'ектамі аргкамітэту ды БНК разам з Міколам Статкевічам, Уладзімірам Някляевым ды Генадзем Фядынічам наконт агульнага сцэнару акцыі. Аднак пра пэўнае супольнае рашэнне можна будзе казаць толькі 8–9 сакавіка.

«Спробы сутыкнення сацыяльнага і нацыянальнага пратэсту недарэчныя, — заўважыў Янукевіч. — 25 сакавіка заўжды было днём абароны незалежнасці, у 2017-м будзе таксама. Грамадзяне, незадаволеныя сацыяльна-эканамічнай палітыкай дзяржавы, упэўнены, далучацца да акцыі. Роўна як і ў Курапатах, дзе сёння сацыяльны пратэст аб'яднаўся з нацыянальным».

Янукевіч таксама нагадаў пра правакацыі ў Віцебску падчас маршу супраць дэкрэту №3 з боку прарасійскіх актывістаў, а таксама дэбош прадстаўнікоў НБП падчас пасяджэння кантактнай групы па Украіне нядаўна ў Мінску. Падобныя эксцэсы могуць адбыцца і 25 сакавіка. З гэтай нагоды лідэр БНФ заклікаў нейтралізоўваць правакатараў ды здаваць іх супрацоўнікам МУС.

# Рыцарам года названы Генадзь Федыніч

Арцём ЛЯВА

**Грамадскі рух імя Юрыя Захаранкі «Абаронцы Айчыны» абвясціў лаўрэата штогадовай прэміі за праяву смеласці, волі і самаахвярнасці ў барацьбе за адраджэнне свабоды і дэмакратыі ў Беларусі.**

Прэмію «Рыцар года: З адкрытым забралам» за 2016 год атрымаў старшыня прафсаюза РЭП Генадзь Фядыніч. Так адзначана яго актыўная дапамога грамадзянам у абароне іх правоў у сувязі з дзеяннем скандальнага дэкрэта №3 пра «сацыяльнае ўтрыманства». Таксама адзначана шматгадовая плённая праца прафсаюза, які, па словах Алега Волчака, спагнаў праз суды з працадаўцаў на карысць працаўнікоў каля ста тысяч новых рублёў.

Цырымонію ўзнагароджання праводзілі лідар грамадскага руху імя Юрыя Захаранкі «Абаронцы Айчыны», кіраўнік праваабарончай арганізацыі «Прававая дапамога насельніцтву» Алег Волчак, кіраўнік Беларускага дакументацыйнага цэнтра Раіса Міхайлоўская, праваабаронцы Аляксандр Камароўскі і Мікалай Аўтуховіч.

Падчас імпрэзы Раіса Міхайлоўская і Алег Волчак распавялі пра стан расследавання па справе зніклых палітыкаў: фактычна, апошнія гады ніякіх следчых дзеянняў не праводзіцца, мае месца імітацыя расследавання. З іншага боку, улады, спасылаючыся на тое, што следства працягваецца, адмаўляюцца прызнаваць былога міністра ўнутраных спраў Юрыя Захаранку памерлым.

Паводле Раісы Міхайлоўскай, у Камітэт ААН накіроўваецца скарга маці зніклага міністра Ульяны Захаранкі на адмову ў правасуддзі. Алег Волчак адзначыў, што менавіта дзякуючы розгаласу ў грамадстве «эскадроны смерці» згарнулі сваю дзейнасць, а санкцыі супраць чыноўнікаў, падазраваных у знікненнях апазіцыйных палітыкаў, працягнутыя.

Нагадаем, прэмія заснаваная ў 2004 годзе і ўручаецца штогод. Рыцарамі года з таго часу сталі апазіцыйны дэпутат Палаты прадстаўнікоў генерал Валеры Фралоў, праваабаронца Гары Паганяйла, былы кандыдат у прэзідэнты на выбарах 2006 года, палітвязень Аляксандр Казулін, ваўкавыскі прадпрымальнік і палітвязень Мікалай Аўтуховіч, экс-кандыдаты на выбарах у прэзідэнты 2010 года Уладзімір Някляеў і Мікола Статкевіч, журналіст газеты «Новы Час» Зміцер Галко і іншыя.

# Зміцер Захарэвіч: такой салідарнасці ў 2001-м не было

Алена ЛЯШКЕВІЧ

**Апошні вечар зімы. Лагер абаронцаў Курапатаў. Цёпла, толькі каля дзясятай вечару ўсхадзіўся вецер, і народ стаў туліцца да бочак з вогнішчам. Шкварчаць кілбаскі, грэецца гарбата.**

Я не была ў лагеры з ранку суботы, ездзіла на Палессе здымаць Масленку. За гэты час акультураная пляцоўка паболела дзякуючы новым паддонам, з'явілася сцэна, новыя намёты. Лагер выглядае лепш арганізаваным, акуратным.

Часта падыходзяць мясцовыя жыхары. Адна жанчына прынесла тэрмас гарбаты, тару паабяцала забраць ранкам, ідучы на працу. Назвала нумар кватэры і запрасіла: «Заходзьце, калі што». Другая прынесла каструлю з чымсьці гарачым, вераготна, катлеты, я не паспела пагледзець.

Сярод абаронцаў — бард Зміцер Захарэвіч. Ён удзельнічаў у васьмімесячнай абароне Курапатаў у 2001-м.

Я спытала ў Захарэвіча, чым падобная і адрозная абарона Курапатаў 2001-га і 2017 гадоў.

«Падабенства найперш у тым, што менавіта моладзь і тады, і цяпер стала ў авангардзе супраціву навват не тое што праваому бязмежжу, а, я б сказаў, блюзнерству ўладаў. Я сам у 2001-м быў прыкладна ў тым жа ўзросце, што і хлопцы, якія сёлета распачалі пратэст. Я і зараз не тое каб ужо сівы стары дзядзька, але ўсё ж значна старэйшы за ініцыятараў супраціву. Адрозненні ў тым, што сітуацыя тады значна даўжэй вырашалася ў параўнанні з тым, што мы назіраем цяпер. Мы бачым, што тэма Курапатаў загучала нават у дзяржаўных СМІ, і да таго ж вельмі хутка пасля пачатку пратэсту.

У 2001 годзе, канечне, такога не было. Адыграла сваю ролю і тое, што кальцавая дарога — гэта ўсё ж сацыяльна значны аб'ект, яна патрэбная для інфраструктуры горада. Яе, безумоўна, трэба было перабудоўваць, рабіць сучаснай. І таму людзі, асабліва ад пачатку, ставіліся да пратэсту скептычна. У выніку кальцавая пабудаваная, але аднесеная далей ад мемарыялу, чым планавалася ад пачатку.

Зараз праблема будаўніцтва офіснага цэнтра пад вокнамі жылых дамоў закранула непасрэдныя інтарэсы мясцовых жыхароў, зачапіла іх за жывое. Я не бяру пакуль аспект маралі і закону, бо пляцоўка была перададзеная забудоўцу ў той час, калі гэта яшчэ была ахоўная зона.

Акрамя таго, цяпер у нашай дзяржаве назіраецца глыбокі сацыяльна-эканамічны крызіс. А 2001 год быў адносна «сытым». Таму зараз пратэстны настрой у грамадстве больш адчувальны. Мы гэта бачым праз падтрымку мясцовых, і не толькі мясцовых жыхароў: прыносяць і прывозяць дровы, ваду, катлеты, тэрмасы з гарачай гарбатай. Я не скажу, што ў 2001-м мы не мелі падтрымкі ад мясцовых людзей: запрашалі памыцца, пабыць у цяпле, папіць гарбаты і пагутарыць. Але гэта былі адзінкавыя выпадкі, падтрымка не мела такога масавага характару, як цяпер. Такой салідарнасці не было.

Больш за тое, 19 красавіка наш намет падпалілі. Адзін з абаронцаў, Алесь Поклад, вельмі моцна абгарэў, трапіў у рэанімацыю. Мы здавалі для яго крoў, яму рабілі перасадку скуры… Усё абышлося, твар не пацярпеў, хаця на целе засталіся сляды ад апёкаў. У міліцыі справа аб падпале засталася вісяком, як і справы аб нападах на абаронцаў, якія па адным позна вярталіся на аўтобус.

У 2001-м мы стаялі 250 дзён, спадзяюся, што зараз усё вырашыцца раней. Можа, у мяне пэўная эйфарыя, але веру: ніякіх эксцэсаў гэтым разам не здарыцца. Галоўнае, каб тут былі людзі, асабліва ўначы і ранкам, калі на будаўнічую пляцоўку можа вярнуцца тэхніка. Таму прыходзьце!»

***

Дамоў з лагеру я выпраўляюся на гадзіну пазней, чым планавала, вельмі ўжо ўтульна. Прыемна проста прыйсці, пагутарыць з людзьмі, хоць неяк падтрымаць. Для ахвочых нешта зрабіць праца заўжды знойдзецца: можна збіваць мэблю, парадкаваць ежу, падкідаць дровы ў вогнішча.

# Ці пачуюць улады бізнесоўцаў?

Сяргей ПУЛЬША

**Вынесенае ў назву пытанне — бадай, ключавое для 18-й Асамблеі дзелавых колаў Беларусі, якая праходзіла ў Мінску ў першы дзень вясны.**

Арганізатарамі форума выступілі Рэспубліканская канфедэрацыя прадпрымальнікаў, Мінскі сталічны саюз прадпрымальнікаў і працадаўцаў, Беларускі фонд фінансавай падтрымкі прадпрымальнікаў пры падтрымцы Міністэрства эканомікі.

Форум атрымаўся прадстаўнічым. Сярод выступоўцаў былі міністр эканомікі Уладзімір Зіноўскі, міністр антыманапольнага рэгулявання і гандлю Уладзімір Калтовіч, старшыня Дзяржкаммаёмасці Андрэй Гаеў і іншыя не самага нізкага рангу дзяржслужбоўцы.

Магчыма, гэта і дало падставы аднаму з арганізатараў Асамблеі, Уладзіміру Карагіну спадзявацца, што размова на форуме пойдзе прадметная, скіраваная на вырашэнне прадпрымальніцкіх праблем.

«Сённяшняя Асамблея адрозніваецца тым, што яе падтрымліваюць усе галіны ўлады. Міністэрства эканомікі, дэпартамент па развіцці прадпрымальніцтва нават накіравалі сваіх прадстаўнікоў у нашу рабочую групу па падрыхтоўцы Нацыянальнай платформы бізнесу Беларусі», — зазначыў Карагін.

Па яго словах, задума Асамблеі ў тым, каб не прадпрымальнікі выслухоўвалі прадстаўнікоў ураду, а каб гэтыя прадстаўнікі распавядалі пра тое, як яны бачаць развіццё бізнесу ў Беларусі, і што яны павінны для гэтага зрабіць.

Пэўныя захады ў паляпшэнні дзелавога клімату ў краіне ўжо здзейсненыя. Гэта, напрыклад, мараторыі на праверкі з боку Міністэрства па надзвычайных сітуацыях і органаў антыманапольнага рэгулявання. З 300 санітарных нормаў і правілаў для малога і сярэдняга бізнесу ліквідаваныя 167. Створаная таксама міжведамасная група па дэкрыміналізацыі эканамічных рызыкаў.

Пры гэтым Карагін дадаў, што зараз ідзе тая праца, якую прадпрымальніцкія структуры і саюзы прапаноўвалі зрабіць 10 гадоў таму. То бок, калі доўга грукацца ў дзверы, хто-небудзь калі-небудзь цябе і пачуе.

Сённяшні праект платформы бізнесу Беларусі ўключае 86 пунктаў, кожны з якіх, па словах Карагіна, «працуе на бізнес». У платформу ўключаныя пытанні па рэгуляванні бізнесу, па даверным кіраванні прадпрыемствамі («Мы прапануем мадэль беларускай прыватызацыі, стварэння слою прыватнай прамысловасці», — патлумачыў Карагін), шмат іншых прапаноў.

Але, як зазначыў кіраўнік бізнес-саюза, «платформу трэба рэалізаваць — паразмаўляць пра гэта мала».

З гэтым усё ж праблемы будуць. Выступаючы перад журналістамі дырэктар дэпартамента па прадпрымальніцтве Мінэканомікі РБ Пётр Арушаньянц зазначыў, што «справа не ў праверках бізнесу, справа ў заканадаўстве». «Недзе яно забюракратызаванае, недзе патрабаванняў зашмат, недзе яно незразумелае. Калі нам тут удасца змяніць, найперш, заканадаўства, зрабіць яго больш простым і больш зразумелым, тады і праводзіць праверкі не будзе неабходнасці», — адзначыў ён.

І хаця паднятыя на Асамблеі пытанні выклікаюць усё ж пэўны скепсіс, магчыма, форум павялічыць колькасць прыхільнікаў рэформаў ва ўладзе. Асабліва калі яны даведаюцца, што страшнага ў гэтых рэформах нічога няма. І тады бізнес-асацыяцыі да чаго-небудзь дагрукаюцца.

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Зноў назад у будучыню?

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Маленечкія зрухі ў розных галінах соцыуму даюць падставы для спадзеваў, што ў краіне нешта зменіцца. Эксперты ўжо пачалі задумвацца: можа быць, у Беларусі пачынаецца перабудова?**



Фота www.thinktanks.by

Як вядома, для таго, каб вырашыць праблему, трэба яе акрэсліць і асэнсаваць. Да гэтага шчыльна падышоў не хто іншы, а наш любімы Белстат. Днямі ён апрылюдніў вынікі даследавання хатніх гаспадарак Беларусі, праведзенае па вызначэннях Міжнароднай арганізацыі працы і метадыцы Сусветнага банку.

Даследаванне ахоплівае 7 тысяч хатніх гаспадарак штоквартальна, або 28 тысяч хатніх гаспадарак у год — ні адна арганізацыя, якая займаецца вывучэннем грамадскай думкі ў Беларусі, не робіць нічога супастаўнага па ахопу. Менавіта на аснове гэтых дадзеных праводзяцца даследаванні рынку працы і рыхтуюцца рэкамендацыі для сацыяльна-эканамічнай палітыкі ва ўсім свеце.

У выніку высветлілася, што беспрацоўных, насамрэч, у мінулым годзе быў не 1%, а 5,8% ад эканамічна актыўнага насельніцтва. Так здарылася менавіта з-за выкарыстання вызначэння МАП. Паводле яго, беспрацоўным лічыцца той, хто, па-першае, сам называе сябе беспрацоўным, па-другое, актыўна шукае працу і, па-трэцяе, гатовы прыступіць да працы ў самыя кароткія тэрміны (у бліжэйшыя 2 тыдні). Паколькі ў Беларусі на біржу працы становяцца далёка не ўсе такія людзі, дык колькасць фактычных беспрацоўных у нас вышэй, чым колькасць зарэгістраваных беспрацоўных.

Але больш дасведчаных грамадзян, асабліва эканамістаў і іншых экспертаў, узварушыла зусім не лічба беспрацоўя. Справа ў тым, што эканамічна актыўнага насельніцтва ў Беларусі, згодна з тым жа Белстатам, на студзень гэтага года налічвалася 4 мільёны 404 тысячы 800 чалавек. Шляхам няхітрых падлікаў высвятляецца, што 5,8% ад гэтай колькасці — 255 тысяч 478 чалавек.

Адсюль і ўзнікае пытаннечка. Як вядома, падатковыя органы краіны разаслалі «лісты шчасця» прыкладна 470 тысячам «дармаедаў». Гэта значыць «лішніх» — недзе 215 тысяч лістоў. Не дзіва, што атрымлівалі такія «падарункі» і памерлыя, і студэнты, і тыя, хто служыць у войску...

Калі «лішнія» 215 тысяч мы памножым на кошт перасылкі аднаго ліста (36 капеек), дык атрымаем суму ў 77 тысяч 400 рублёў, альбо, па сённяшнім курсе, каля 42 тысяч долараў. Гэта без уліку працы, кошту паперы і капэртаў. Такім чынам, з-за хібнай статыстыкі падатковыя органы нанеслі краіне страты, якія Крымінальным кодэксам фармулююцца як «у асабліва буйных памерах».

Незвычайным чынам на тыдні выявіў сябе і айчынны кіраўнік. Наведваючы Рэспубліканскі навукова-практычны цэнтр трансплантацыі органаў і тканак, Лукашэнка чамусьці размаўляў пра распрацоўкі, суісканне Дзяржаўнай прэміі ў галіне навукі і тэхнікі. Адна з навуковых распрацовак — цыкл навуковых прац «Вытокі беларускай дзяржаўнасці: Полацкая і Віцебская землі ў IX—XVIII стагоддзях». У іх па-новаму раскрываецца працэс фармавання тэрыторый усходнеславянскіх раннедзяржаўных утварэнняў і іх цэнтраў.

Лукашэнка нечакана заявіў, што сёння ідзе праца над новымі падручнікамі, і гэтыя моманты станаўлення беларускай дзяржавы ў іх абавязкова трэба адлюстраваць. «Трэба прапісаць і ўкараніць у розуму нашых людзей праўду, — падкрэсліў ён. — Тут калі і ёсць нейкі нацыяналізм, то гэта нацыяналізм здаровы».

Кіраўнік дзяржавы таксама правёў паралель з сучаснасцю. «Мы сапраўды сябе стварылі, і з намі лічыліся тады. Усё гэта сугучна і актуальна цяпер, — звярнуў увагу Аляксандр Лукашэнка. — Сёння нярэдка пад выглядам «дармаедства», яшчэ нечага спрабуюць гэты човен разгайдаць і даказаць нам, што гэта не нашы землі, а чыесьці. Таму для нас гэта вельмі актуальна. «Дармаеды» павінны ведаць, што іх проста спрабуюць сёння выкарыстоўваць у самых карыслівых мэтах, каб разбурыць тое, што ёсць, знішчыць на корані тое, што мы адрадзілі, каб не даць нам замацавацца. І яны будуць выкарыстоўваць усё».

То бок, Аляксандр Рыгоравіч ускосна прызнаў, што сам стварыў праблему, якая можа «разгайдаць човен», і не толькі ў эканамічным плане. Зараз ён заклікае «дармаедаў» да нацыянальнай свядомасці.

Па-першае, заўважу, што праблема вырашаецца вельмі проста. Варта адмяніць гэты бязглузды «дармаедскі збор» — і «разгойдваць човен» ужо не будзе каму. Па-другое, можна крыху супакоіць Аляксандра Рыгоравіча: на акцыі супраць дэкрэта ў Віцебску толькі трое чалавек паспрабавалі выгукваць: «Слава Расіі!». Але гэтыя воклічы ніхто не падтрымаў.

Канешне, тэмай не толькі гэтага тыдня для неабыякавых грамадзян ёсць і чарговае супрацьстаянне ва ўрочышчы Курапаты, — месцы масавых расстрэлаў у 1930-я гады пад Мінскам. Гісторыя дзіўная: забудоўшчыку аддалі зямлю, якая ўваходзіла ў ахоўную зону Курапатаў, а потым межы гэтай зоны змянілі так, каб будоўля ў яе не трапляла. Актывістам пакуль удалося прыпыніць працу будаўнікоў.

Цікава, што шмат дзяржаўных асоб дэ-факта падтрымалі пратэст. Газета «СБ. Беларусь сегодня» зладзіла «круглы стол» з гэтай нагоды. На ім галоўны рэдактар выдання Павел Якубовіч заявіў, што мае намер звярнуцца да кіраўніцтва Адміністрацыі прэзідэнта з просьбай падтрымаць ідэю стварэння агульнанацыянальнага мемарыяла ва ўрочышчы Курапаты. Ідэю ўхваліў дырэктар Дэпартамента па архівах і справаводстве Міністэрства юстыцыі Беларусі Уладзімір Адамушка і ўпаўнаважаны па справах рэлігій і нацыянальнасцяў Леанід Гуляка. А дэкан факультэта міжнародных адносін БДУ доктар гістарычных навук Віктар Шадурскі ўвогуле выказаў думку, каб на «талаку» па ўпарадкаванні ўрочышча (гэтыя мерапрыемствы рэгулярна ладзіць грамадскасць) дасылалі студэнтаў, у тым ліку з БРСМ.

Карацей, высокія службовыя асобы вярнуліся ў часы «махровага нацыяналізму», і нават раней — у часы «гарбачоўскай перабудовы». Рашэнне пра мемарыял у Курапатах было прынятае яшчэ ў БССР у 1989 годзе.

Хвалюе толькі адно: куды падзеліся 25 гадоў?

ФІГУРЫ ТЫДНЯ

## Ганна Канапацкая



**Дэпутатка Палаты прадстаўнікоў па Кастрычніцкай выбарчай акрузе №97 ад АГП на некаторы час выпадзе з актыўнай працы.**

Ганна Канапацкая зламала нагу на выхадзе са свайго дому.

Як распавяла сама дэпутатка, раніцай яна выходзіла з пад'езду, паслізнулася і павалілася. Дактары канстатавалі ў яе пераломы ў двух месцах, але без зрушэння. Канапацкай наклалі гіпс, і прыкладна шэсць тыдняў яна павінна правесці дома.

Старшыня АГП Анатоль Лябедзька сказаў, што гэтае здарэнне перашкодзіла Ганне злятаць у Вашынгтон на сусветны форум жанчын-дэпутатаў, якія абраліся ў парламент у першы раз.

## Ігар Шуневіч



**Міністр унутраных спраў напярэдадні прафесійнага свята раздаў шмат інтэрв'ю, у якіх расказаў багата чаго цікавага.**

Напрыклад, пра прыярытэты яго ведамства. «Цяпер унутраная, калі хочаце, рэлігія МУС — навязденне парадку ва ўласных шэрагах. Па-сапраўднаму. Не фрагментарна, эпізадычна, а на сістэмнай аснове, з улікам пагрозы, якую тоіць у сабе злачыннасць у пагонах, і наступстваў, якія надыходзяць ад утойвання такіх выпадкаў або непрафесійнага рэагавання на іх», — заявіў Шуневіч у інтэрв'ю «СБ. Беларусь сегодня».

Распавёў пра тое, што форму НКУС, у якой ён з'яўляецца на розных парадах, у тым ліку 9 мая, рэканструяваў: пашытая яна паводле сапраўдных лякалаў, гузікі адліў манетны двор, які адліваў іх у гады сталінізму.

У той жа час выгляд міліцыянтаў яго не задавальняе, і хацеў бы ён бачыць сваіх супрацоўнікаў «больш падцягнутых, спартыўных, больш дагледжаных, і каб не толькі форма, стрыжка, выправа, але яшчэ і выраз твару адпавядалі». Адназначу, што міліцыя занепакоеная сваім іміджам.

І адразу ж нанёс па гэтым іміджы моцны накаўтуючы ўдар. З-за рэпетыцыі маштабнага адзначэння міліцэйскага свята, у сталіцы 1 і 2 сакавіка ўвечары закрылі для праезду некаторыя цэнтральныя вуліцы і змянілі расклад руху транспарту. Ну і як пасля гэтага будуць называць міліцыянтаў шараговыя грамадзяне, якім ні прайсці, ні праехаць?

## Вольга Корбут



**Шматразовая пераможца Алімпійскіх гульняў і аўтарка ўнікальнага элементу — «пятлі Корбут» вырашыла прадаць праз аўкцыён свае пяць алімпійскіх медалёў.**

Гэтая навіна ўсхвалявала каляспартыўную супольнасць рэспублікі (нягледзячы на тое, што Корбут даўно і стала жыве ў ЗША). Адразу ўзнікла шмат плётак і чутак: нібыта, цяжка жыць у Штатах, і ў Корбут — фінансавыя праблемы. Насамрэч усё не так.

Як кажа былы муж Вольгі, Леанід Барткевіч, прадаваць медалі на аўкцыёнах — для Амерыкі норма. Гэта ў нас падобныя навіны сустракаюцца ў штыкі. «Вольга кажа, што калі цяжка працавала для гэтых медалёў, столькі не плацілі. Ды ўвогуле не плацілі, а цяпер можна прадаць. Некалькі гадоў таму, напрыклад, за паўтара мільёна долараў быў прададзены залаты медаль Алімпіяды — 36, якую знакаміты амерыканскі лёгкаатлет Джэсі Оўэнс заваяваў у скачках у даўжыню», — адзначыў Барткевіч.

«Корбут кажа пра гэта так: «Кожны чалавек мае права распараджацца сваімі рэчамі так, як лічыць патрэбным. У мяне ёсць медаль, я яго магу прадаць. Бо гэтыя жалязякі ў мяне ляжаць», — працітаваў ён знакамітую спартоўцу.

Канешне, выстаўляць на аўкцыён узнагароды, каб вызваліць месца, і называць алімпійскія медалі «жалязякамі», — беларусы пакуль што да такога не дараслі.

Тым не менш, 61-гадовая зорка спартыўнай гімнастыкі жыве з мужам, які маладзейшы за яе і заможны — атрымаў спадчыну ад бацькі. Яна не працуе, але дагэтуль перыядычна дае майстар-класы. За медалі яна атрымала 230 тысяч долараў.

Марат ГАРАВЫ




# Курапаты: што згубіў і прыдбаў нацыянальны некропаль?

**Усё больш і больш беларусаў усведамляюць Курапаты як нацыянальны некропаль. А як ставіцца да яго Міністэрства культуры, адной з функцый якога якраз і зʼяўляецца ахова і зберажэнне гісторыка-культурнай спадчыны?**

Дзякуючы шматгадовым высілкам беларускай грамадскасці, 1 снежня 2014 года Міністэрства культуры ўрэшце зацвердзіла сталыя межы зон аховы Курапатаў. Як гэта адбылося? Што прыдбаў і што згубіў нацыянальны некропаль ад новых межаў зон аховы? Якім чынам гэтыя межы могуць паўплываць на захаванне велічнага помніка трагедыі беларускага народа і сітуацыю вакол яго?

## З гісторыі пытання

Курапаты былі ўзятыя пад ахову дзяржавы яшчэ ў 1993 годзе, калі Міністэрства культуры зацвердзіла скарочаныя (у параўнанні з вызначанымі навукоўцамі) межы тэрыторыі гэтай матэрыяльнай нерухомай каштоўнасці міжнароднага значэння.

Паводле заканадаўства, аб'ект, які ахоўваецца, мусіць мець яшчэ і зоны аховы, якія рэгламентуюць рэжымы ўтрымання тэрыторый помніка і прылеглых абшараў.

Але цягам больш за 20 гадоў для Курапатаў не зацвярджаўся Міністэрствам культуры праект зон аховы гэтай каштоўнасці. Замест такога сталага праекту 10 гадоў дзейнічала часовая (на перыяд да распрацоўкі горадабудаўнічага праекту стадыі «Дэтальны план») схема зон аховы Курапатаў, зацверджаная пастановай Міністэрства культуры №15 ад 12 мая 2004 года.

Прычыны зʼяўлення гэтага дакумента — у падзеях 2001–2002 гадоў, звязаных з пашырэннем МКАД і супрацьстаяннем у Курапатах. Менавіта гэтыя падзеі падштурхнулі да падрыхтоўкі праекту зон аховы ўрочышча. У 2003 годзе па заказу Беларускай асацыяцыі ахвяр палітычных рэпрэсій архітэктары Таццяна Косціч і Вольга Кукуня са сталічнага інстытуту «Праектрэстаўрацыя» распрацавалі гістарычна абгрунтаваны праект ахоўнай зоны Курапатаў з мемарыялізацыяй урочышча. Гэты праект заслугоўвае высокай ацэнкі, бо ён улічвае інтарэсы ўсіх бакоў — Курапатаў, грамадскасці і дзяржавы.

20 мая 2003 года праект быў аднагалосна ўхвалены сябрамі Беларускай рэспубліканскай навукова-метадычнай рады па пытаннях гістарычна-культурнай спадчыны пры Міністэрстве культуры (далей — Рада). Прычым, сябра Рады, намеснік дырэктара дэпартамента па ахове гістарычна-культурнай спадчыны і рэстаўрацыі Мінкультуры Ігар Чарняўскі назваў подзвігам працу спецыялістаў, якія навукова абгрунтавалі праект, зыходзячы з сусветнага вопыту ў падыходзе да помнікаў такога ўзроўню.

На думку аўтараў праекту, мяжа новай забудовы павінна праходзіць на адлегласці не менш за 300 метраў ад Курапатаў. Гэта годная ахоўная зона для нацыянальнага некропалю. Разам з тым, Косціч






**На схемах бачна, як мяняліся межы зон аховы Курапатаў паводле: праекту Таццяны Косціч і Вольгі Кукуні 2003 г.; пастановы Мінкультуры ад 12 мая 2004 г. №15; пастановы Мінкультуры ад 1 снежня 2014 г. №70**

і Кукуня ўбачылі мемарыял у выглядзе парослага збажыною поля — поля жалобы і смутку, па якім віецца апошняя дарога бязвінных ахвяр — дарога за небакрай. Дарэчы, гэты шлях — так званая «Дарога смерці», па якой у 1930-я гады людзей вазілі на «чорных варанках» з Мінска ў Курапаты на расстрэл, — не толькі тапаграфічна вызначаны, але і дагэтуль бачны з космасу на полі паміж урочышчам і «Экспабелам».

У 2003 годзе на гэтым полі з усходняга боку Курапатаў распачалася пабудова катэджнага пасёлку «Сонечны» з праваслаўнай царквою. Прычым, першую пачалі ўзводзіць менавіта царкву. Але пад ціскам грамадскасці Мінкультуры прымусіла суб'ектаў гаспадарання і забудоўцаў адмовіцца ад гэтых планаў. Спынілася ўзвядзенне царквы, яе фундамент быў разабраны, а катлаван засыпаны. Трэба аддаць належнае дэпартаменту па ахове гісторычна-культурнай спадчыны і рэстаўрацыі Мінкультуры, кіраўніцтва якога знайшло ў сабе мужнасць абараніць недатыкальнасць прылеглай да Курапатаў тэрыторыі.

Урэшце толькі пасля гэтых падзей Мінкультуры зацвердзіла не прадугледжаную заканадаўствам часовую схему зон аховы Курапатаў, якая ўключае зоны ахоўную, рэгулявання забудовы і аховы ландшафту. Прычым, Мінкультуры насуперак рашэнню Рады ад 20 мая 2003 года значна скараціла прапанаваную спецыялістамі «Праектрэстаўрацыі» плошчу ахоўнай зоны помніка з яго ўсходняга боку. Свае дзеянні чыноўнікі матывавалі тым, што праект Косціч і Кукуні не адпавядае існуючым нормам, але так і не змаглі адказаць на пытанне, якім канкрэтна.

Тым не менш, няпэўны — часовы — статус зон аховы Курапатаў і ласыя кавалкі зямлі, што атачаюць урочышча, спакусілі забудоўцаў да незаконнага новага будаўніцтва ў ахоўнай зоне помніка.

Першай тут з'явілася СТАА «БелРэстІнвест», якое ў ахоўнай зоне з заходняга боку Курапатаў пабудавала чатыры дамкі модульнага тыпу, частку будынку рэстарацыі і дзіцячую пляцоўку аб'екту прыдарожнага сервісу з першапачатковай назвай «Бульбаш-хол». І хоць 27 лістапада 2012 года Генеральная пракуратура накіравала Мінскаму аблвыканкаму адпаведнае прадстаўленне аб неабходнасці цягам месяца ліквідаваць гэтыя парушэнні заканадаўства, вышэйназваныя пабудовы стаяць і да гэтага часу — праз 50 месяцаў.

Пачаўся наступ і на паўночную частку ахоўнай зоны Курапатаў з боку катэджнага пасёлку «Сонечны», былі агучаныя планы будаўніцтва Міжнароднага выставачнага комплексу паміж урочышчам і «Экспабелам» на полі, частка якога ўваходзіць у ахоўную зону помніка.

Паколькі грамадскасць разумела небяспеку гэтых выклікаў для народнага мемарыялу і найперш лічыла недапушчальнымі любыя праектна-вышукальніцкія і будаўнічыя працы на тэрыторыі ахоўнай зоны Курапатаў, бо такія працы ствараюць пагрозу існавання асяроддзя помніка, у тым ліку і «Дарогі смерці», напрыканцы 2013 года была створана грамадзянская ініцыятыва «Эксперты ў абарону Курапатаў».

Яе рознабаковая дзейнасць, у тым ліку шэраг ініцыяваных экспертамі судовых працэсаў, прыпыніла праектаванне забудовы ахоўнай зоны каштоўнасці. Урэшце, Міністэрства культуры пастановай №70 ад 1 снежня 2014 года зацвердзіла сталы праект зон аховы Курапатаў, што 29 снежня ўнесены ў Нацыянальны рэестр прававых актаў Рэспублікі Беларусь.

## У чым плюсы і мінусы новых межаў?

Плошча самога помніка павялічылася на 3,3 га — з 23 да 26,3 га, аднак значна скарацілася плошча ахоўнай зоны Курапатаў, дзе забаронена ўсялякае новае будаўніцтва, — на 13,4 га (з 45,87 да 32,47 га). Прычым плошча ахоўнай зоны не толькі скараціліся, але і страцілі сваю цэласнасць.




(I) Тэрыторыя гісторыка-культурнай каштоўнасці «Месца згубы ахвяр палітычных рэпрэсій 30–40 гадоў XX ст. ва ўрочышчы Курапаты (г. Мінск, Мінская вобл.)

(II) Ахоўная зона каштоўнасці

■ ■ ■ Участак межаў ахоўнай зон. Будзе ўдакладнены пры распрацоўцы дэтальнага плану

(III) Зона рэгуляванай забудовы
1 — Участак 1
2 — Участак 2

(IV) Зона аховы ландшафту

З ахоўнай зоны выключана частка МКАД і тэрыторыя на поўдзень ад яе.

З заходняга боку плошча ахоўнай зоны скарацілася прыкладна на 1,1 га за кошт тэрыторыі, незаконна забудаванай аб'ектам прыдарожнага сервісу з былой назвай «Бульбаш-хол».

З паўночнага боку народнага мемарыялу плошча ахоўнай зоны скарацілася на 4,6 га. Апроч таго, на гэтай тэрыторыі насуперак заканадаўству была выпрастаная гістарычная дарога на вёску Драздава і ўзведзены ачышчальныя збудаванні з вадаёмам.

З усходняга боку Курапатаў зацверджаная плошча ахоўнай зоны на 1,97 га меней за прадстаўленую грамадскасці 27 лістапада 2013 года на пасяджэнні Беларускай рэспубліканскай навукова-метадычнай рады па пытаннях гістарычна-культурнай спадчыны пры Міністэрстве культуры і 17 красавіка 2014 года на прэзентацыі праекту дэталёвага планавання забудовы тэрыторыі вакол Курапатаў. Аднак нават у гэтых варунках зацверджаная плошча ўсходняй часткі ахоўнай зоны ўсё ж такі большая за ранейшую згодна часовай схеме зон аховы помніка. Бо раней пад аховай знаходзілася толькі частка «Дарогі смерці», а зараз — уся. І гэта — важкае дасягненне грамадскасці. Менавіта яе дзеяннямі парушаныя планы аддаць пад Міжнародны выставачны комплекс поле паміж Курапатамі і вуліцай імя Пятра Мірашнічэнкі і, такім чынам, забудаваць амаль усю ўсходнюю частку ахоўнай зоны каштоўнасці.

Разам з тым, распрацоўшчык праекту прапанаваў усталяваць мяжу на адлегласці ў 240 метраў ад ускрайку Курапацкага лесу. Такая адлегласць гарантавала захаванасць дарогі, дазваляла яе будучую мемарыялізацыю і стварала дастатковую буферную зону паміж дарогай і сучаснай забудовай з усходняга боку. У зацверджанай Мінкультуры ахоўнай зоне яе ўсходняя мяжа прывязана да адсутнай сёння «Дарогі смерці» і праходзіць у 6 метрах на ўсход ад гэтай дарогі. Пры гэтым пакінута прыблізная прывязка да лесу ў 240 метраў. Але рэальна зацверджаная мяжа будзе бліжэй да лесу на 20–50 метраў. Атрымліваецца, што ўсходняя мяжа ахоўнай зоны дакладна не прывязаная, што стварае пагрозу непаразуменняў.

З катэджнага пасёлку «Сонечны» зняты статус зоны рэгуляванай забудовы і, такім чынам, гэтая зона, дзе нельга будаваць прамысловыя прадпрыемствы і шматпавярховікі, скарацілася прыблізна на 12,5 га.

Нягледзячы на ўсе гэтыя хібы, дзякуючы высілкам грамадскасці працэс забудовы тэрыторыі каля ўрочышча ўпершыню ў гісторыі ўведзены ў прававое поле, бо ўся праектная дакументацыя па будаўніцтве Міжнароднага выставачнага комплексу будзе распрацоўвацца адпаведна зацверджанага праекту зон аховы народнага мемарыялу.

## Хто стаіць за «БелРэстІнвестам»?

Разам з тым, новыя межы зон аховы аніяк не вырашылі сітуацыю вакол цэнтру адпачынку з былой назвай «Бульбаш-хол».



**На гэтым месцы ў маі 1988-га вучань 8 класа Мінскай СШ №171 Алесь Макрушын (на здымку 2016 г.) і яго сябры Віктар Пятровіч і Ігар Бага дапамаглі беларускім археолагам адкрыць таямніцу Курапатаў.**

Пад сціплай назвай аб'екту прыдарожнага сервісу каля самых Курапатаў насамрэч узведзены сапраўдны рэстаранна-забаўляльны комплекс з рэстарацыяй на 100 пасадачных месцаў, лазняй, чатырма дамкамі модульнага тыпу і дзіцячай пляцоўкай. Прычым значная частка гэтага комплексу, збудаваная ў ахоўнай зоне Курапатаў, згодна пастанове Мінкультуры ад 1 снежня 2014 года, апынулася па-за межамі ахоўнай зоны.

Усе спробы грамадскасці вырашыць пытанне з гэтай незаконнай забудовай праз звароты ў Генеральную пракуратару і скаргі ў суд пакуль не даюць аніякіх вынікаў. Адзінае, што з-за пазіцыі грамадскасці гэты цэнтр адпачынку яшчэ не пачаў працаваць. А калі адчыніцца? Гэта нават немагчыма ўявіць, што пад самым мемарыяльным лесам, дзе ляжаць парэшткі дзясяткаў, а можа і сотняў тысяч ні ў чым не вінаватых людзей — нашых продкаў, адбываюцца гулянкі і вяселлі, удзельнікі якіх выпіваюць, смажаць шашлыкі, спяваюць, танчаць і парацца ў лазні...

Любы нармальны чалавек, які ставіцца да Курапатаў як да народнай святыні, добра разумее, што так быць не павінна. Тым больш, як сведчыць гісторыя, забавы на касцях заўсёды заканчваюцца кепска.

У гэтай сітуацыі цалкам лагічным выглядае пытанне да кіраўніцтва дзяржавы: чаму не выконваецца прадпісанне Генеральнай пракуратуры ад 27 лістапада 2012 года, чаму Міністэрства культуры, якое павінна каардынаваць дзейнасць у сферы аховы гісторычна-культурнай спадчыны іншых рэспубліканскіх органаў дзяржаўнага кіравання, а таксама ажыццяўляць кантроль за выкананнем заканадаўства ў названай галіне, сваёй пастановай ад 1 снежня 2014 года №70 увяло ў прававое поле незаконнае будаўніцтва ў ахоўнай зоне Курапатаў?

Ад гэтага кроку Мінкультуры (які ўзмацняе антрапагенны ціск на ўрочышча і пагражае яго знішчэнню, бо шырыня ахоўнай зоны з заходняга боку каштоўнасці скарацілася з 120 да 50 метраў) пацярпелі Курапаты, ушчэмленыя правы грамадзянаў, а ў выгадзе засталося толькі СТАА «БелРэстІнвест» — заказчык работ па будаўніцтве рэстаранна-забаўляльнага комплексу.

Хто стаіць за «БелРэстІнвестам», пад інтарэсы якога падганяецца айчыннае заканадаўства?

Пакуль на гэтае пытанне няма адказу. На жаль, далёкая ад свайго вырашэння і сама праблема звужэння ахоўнай зоны Курапатаў.

Пра гэта сведчаць спробы ўнітарнага прадпрыемства «Праектны інстытут Белгіпразем» атрымаць дазвол на адвядзенне зямель для ўзвядзення ў ахоўнай зоне Курапатаў гаспадарча-бытавой каналізацыі для аб'екту «Будаўніцтва лагістычнага цэнтру з пад'язной дарогай да яго, а таксама са складскімі, адміністрацыйнымі і сервіснымі памяшканнямі» каля вёскі Драздава Мінскага раёна.

У адказ на пісьмовы зварот Міністэрства культуры патлумачыла заяўніку, што станоўчае заключэнне аб адвядзенні зямель можа быць падрыхтавана пасля ўнясення адпаведнай змены ў дзеючы праект зон аховы Курапатаў з улікам «навукова-метадычнага абгрунтавання» гэтай змены.

Такім чынам, Міністэрства культуры дапускае магчымасць далейшага звужэння ахоўнай зоны каштоўнасці праз «навукова-метадычнае абгрунтаванне» чарговых зменаў у праекце зон аховы.

Аднак здаровы сэнс падказвае, што навуковымі метадамі можа быць абгрунтаваны толькі адзін памер шырыні ахоўнай зоны Курапатаў — прынамсі 300 метраў. Меншая шырыня ахоўнай зоны каштоўнасці вызначаецца ўжо не навуковымі метадамі.

У цяперашняй сітуацыі чарговага супрацьстаяння каля Курапатаў з-за пачатку будаўніцтва пяціпавярховага офіснага цэнтру побач з нацыянальным некропалем Міністэрства культуры можа зняць праблему ахоўных зон народнага мемарыялу адным крокам — аднаўленнем і зацвярджэннем гістарычна абгрунтаванага і адпаведнага беларускаму заканадаўству Праекту ахоўнай зоны Курапатаў шырынёй у 300 метраў ад 20.05.2003 г., які быў аднагалосна ўхвалены Радай.

Менавіта такі крок чыноўніцтва засведчыць дзяржаўнае стаўленне Міністэрства культуры да Курапатаў як да святыні, а таксама знакавасць гэтага народнага мемарыялу ў найноўшай гісторыі Беларусі.

# Лябедзька: «Мы дапамагаем вырашаць канкрэтныя пытанні»

Алесь КІРКЕВІЧ

**Старшыня Аб'яднанай грамадзянскай партыі Анатоль Лябедзька сёння з'яўляецца ці не самым вопытным з апазіцыйных палітыкаў. Сёння ён рапсавядае пра тое, як глядзіць на бягучыя палітычныя праблемы ды выклікі як для апазіцыі, так і для ўсёй краіны.**



***— Часта кажуць пра адсутнасць перамогаў апазіцыі апошнімі гадамі. Вы з гэтым згодны?***

— Калі глядзець на сітуацыі не з пункту гледжання аднаго дня ці тыдня, я б фіксаваў перамогі. Па-першае, Беларусь ёсць і мае перспектыву — гэта заваёва апазіцыі. У сярэдзіне 90-х людзей саджалі ў турмы за плакаты «Беларусь — незалежная краіна». Сёння ўвесь Мінск у білбордах, прысвечаных незалежнасці. І Лукашэнка, і яго атачэнне ўсё часцей кажуць пра суверэнітэт.

Яно ж не прыйшло само па сабе: было змаганне цэлага пакалення ў апазіцыі за гэта. Наша стратэгічная перамога ў тым, што зараз гэта пасланне не толькі апанентаў улады, але і кіраўніцтва дзяржавы. Так, чыноўнікі часам укладаюць адрозны ад нас сэнс у гэтыя паняцці, але, тым не менш, гэта робіцца пляцоўкай для аб'яднання нашых суайчыннікаў. Гэта — перамога.

***— А што наконт эканомікі?***

— Гэтак жа. Увесь час ішло змаганне паміж ідэяй рынкавай эканомікі ды жорсткім планаваннем. Гэта таксама стратэгічны выбар для краіны. Большасць у апазіцыі — прыхільнікі рынкавай сістэмы: прыватная ўласнасць, канкурэнцыя, заканадаўства, якое стымулюе развіццё прыватнай ініцыятывы. Улада казала, што ўсё трэба кантраляваць на 100%, прывязваць людзей да дзяржавы, каб яны стаялі ў адной вялікай чарзе, і ўсё было адрэгулявана.

Няма яшчэ нашай абсалютнай перамогі ў гэтым пытанні, але ўсё часцей з'яўляюцца спікеры ва ўладзе, як той жа Руды, якія сыходзяць з той альтэрнатывы, якую прапаноўвалі мы. Раней адмахваліся, а зараз нават асобныя пункты з праграмы АГП «Мільён новых працоўных месцаў» улада рэалізуе на практыцы.

***— Па логіцы, трэці пункт тычыцца геапалітычнага выбару...***

— Менавіта, гэта выбар паміж Захадам і Усходам. Змаганне за гэты выбар таксама трывала гадамі, былі выдаткаваныя намаганні аргамаднай колькасці людзей. Калі раней улада мела наўпрост шлагбаум на заходнім накірунку, то сёння яна перамае шмат што з празаходняй рыторыкі апазіцыі.

Я не кажу, што гэтыя тры перамогі канчатковыя, але гэта перамогі па трэндах, па скіраванасці, па той колькасці людзей, якія кажуць «так» суверэнітэту, рынкавай эканоміцы ды еўрапейскаму выбару. Мы былі інвестарамі ўсіх гэтых трох трэндаў.

***— Ці можна сказаць, што ў пытанні суверэнітэту, рынкавай эканомікі і празаходняга курсу апазіцыя — саюзнік уладаў?***

— Я б не сказаў, што мы такія ўжо саюзнікі, бо па кожным пытанні застаецца дыскусійнасць. Але мы гаворым, што ўлада нават супраць сваёй волі і перакананняў змушаная прымаць нашы аргументы, часткова робячы іх сваімі. Здзяйсняе яна гэта вельмі марудна, часам робячы два крокі наперад і крок назад, то бок непаслядоўна. Для Лукашэнкі суверэнітэт — найперш інструмент утрымання ўлады, а для нас — гэта каштоўнасць. Тым не менш, мы рухаемся ў адным накірунку. Таму саюз можа быць вымушаным, але гэта добра для краіны.

***— Гэта глабальна, а што наконт маленькіх перамогаў?***

— Мы дапамагаем людзям вырашаць канкрэтныя пытанні і праблемы. Цягам апошняй выбарчай кампаніі шмат хто даведаўся пра праграму «Мільён працоўных месцаў» і падтрымаў яе. Штодня мяне сустракаюць на запраўцы, у кавярні, на вуліцы і ціснуць руку. Гэта — таксама маленькія перамогі.

Тое, што ўлада аддала дэпутацкі мандат Ганне Канапацкай, якая прадстаўляе АГП, — таксама перамога. Безумоўна, перамога прыйдзе тады, калі адбудуцца свабодныя выбары, а не прызначэнні дэпутатаў. У выпадку Канапацкай мы лічым, што гэта было прызначэнне, разам з тым, у яе была добрая выбарчая кампанія, і калі б выбары былі сумленнымі, мы мелі б акрамя мандата Канапацкай яшчэ як мінімум 15 мандатаў чальцоў АГП.

***— Вы часта «ходзіце ў народ» падчас выбараў і збораў подпісаў. Што кажаце людзям, як матывуеце?***

— Сапраўды, у сваім кабінеце я знаходжуся для кропкавых сустрэчаў, а так стараюся мець з людзьмі як мага больш камунікацыі. Сённяшні час для гэтага надзвычай добры. Адначасна, камунікацыя з людзьмі — адна з найбольшых праблемаў апазіцыі. Размаўляць з людзьмі сёння нескладана, для мяне «паходы ў народ» — гэта падзарадка пазітыўнай энергетыкай.

Я не кажу людзям пра партыю і дэмакратыю. Кажу, што дзеянні ўлады няслушныя, прыняцце дэкрэту №3 — гэта тупік, тлумачу суразмоўцам, што яны не «дарамеды», бо ходзяць у краму і купляюць тавар ды сплачваюць, такім чынам, падатак на дадаяную вартасць. Тое самае з аплатай праезду альбо аплатай збору на дарогі — так людзі прымаюць удзел у фармаванні бюджэту. Калі кажу, што няма аніякай бясплатнай адукацыі і медыцыны, то суразмоўцы мне яшчэ прыклады падкідваюць, што яны аплачваюць і як.

Напрыканцы гутаркі я выводжу да важнасці права выбару. А адкуль гэтыя праблемы ў нас? І мы разам прыходзім да высновы, што такі стан рэчаў — вынік таго, што мы не выбіраем прэзідэнта, дэпутата, кіраўніка рэгіёну. А калі не выбіраем, то і не ўплываем, наш голас нічога не варты. Вельмі важна даводзіць сувязь паміж эканамічнымі і сацыяльнымі праблемамі з адсутнасцю права выбару, то бок праблемай палітычнай.

Вельмі часта на вуліцы ці ў кавярні сустракае абсалютна не знаёмы чалавек, ціснe руку і далей кажа: «Ну і калі ВЫ ўжо зменіце ўладу?» Я адказваю: «Ніколі. Сітуацыя зменіцца, калі ВЫ падыдзеце і спытаеце, калі МЫ разам нешта зробім?». Важны пункт у працы з людзьмі ў тым, каб прывіваць адказнасць за тое, што адбываецца ў краіне.

Напрыклад, праблема з дэкрэтам №3 асабіста мяне ніяк не тычыцца. Але я разумею, што пакуль улада займаецца «дармаедамі», дык не будзе рэалізоўваць праграму «Мільён новых працоўных месцаў». Таму я кажу людзям: «Мала таго, што вы паставілі свой подпіс, дзякуй! Але вазьміце аркушы, прайдзіцеся па суседзях і прынясіце нам. Гэта будзе ваш унёсак!»

> **Вельмі часта абсалютна не знаёмы чалавек, ціснe руку і кажа: «Ну і калі ВЫ ўжо зменіце ўладу?» Я адказваю: «Ніколі. Сітуацыя зменіцца, калі ВЫ падыдзеце і спытаеце, калі МЫ разам нешта зробім?»**

***— Калі чалавек арыентуецца ў сітуацыі, чытае незалежныя СМІ, выходзіць на акцыі, навошта яму быць чальцом партыі, у прыватнасці АГП?***

— Калі з офіса мы ідзем на Камароўскі рынак на збор подпісаў, мы не ставім задачы далучыць кагосьці да партыі. Чалавек павінен сам убачыць у нас тых людзей, якія дбаюць пра перамены да лепшага. Мы запрашаем прыйсці на каву-гарбату на партыйны офіс: прыйдзі, паглядзі, падумай. Калі чалавек саспее — запросім на нашу партыйную школу Чарнова. І калі чалавек зразумее, што падзяляе кансерватыўна-ліберальныя погляды АГП, тады ўжо прыме рашэнне аб уступленні.

Найгоршае — гэта на эмоцыях уцягнуць чалавека ў партыю, а пасля ён пачне разбірацца. Ён жа можа быць і прыхільнікам мадэлі, якую прапануе ўлада, але пры гэтым пакрыўджаным у нейкай канкрэтнай сітуацыі. Калі такі чалавек прыйдзе, ён усё адно будзе слабым месцам у партыі, немінуча вынікне канфлікт. Таму важна, каб людзі ішлі свядома, а не на эмоцыях.

***— Які ён, шараговы чалец АГП?***

— Гэта вялікая праслойка малога і сярэдняга бізнэсу, інтэлігенцыя, выкладчыкі, моладзь... Асобная група — гэта людзі з абвостраным пачуццём справядлівасці. Ім падабаецца, што структура мае прынцыповую пазіцыю, ёсць платформа і ідэалогія, якой тут трымаюцца. Шмат працуем з жанчынамі, бо калі ў беларуса ў прынцыпе слабая матывацыя ўдзельнічаць у палітыцы, то ў жанчыны — традыцыйна яшчэ меншая. Але па здольнасцях жанчына не саступае ні ў якім разе, таму гэта перспектыўны напрамак.

***— Вы сказалі, што дэкрэт №3 вас не тычыцца...***

— Мая працоўная кніжка ў партыі, я плачу падаткі. Не было ніводнага дня, калі я быў нават па фармальных прычынах дармаедам. Наогул, свой першы рубель я зарабіў у класе 4–5-м, калі пайшоў з бацькам памочнікам камбайнёра і падчас жніва зарабіў 1000 долараў па курсе 1970-х (тады — 1000 рублёў). Хай гэтыя грошы пасля і не ляжалі ў маёй кішэні, але я быў заможным падлеткам па тых часах.

Пасля, будучы студэнтам, я меў стыпендыю 100 рублёў, улетку ездзіў у будатрады, пазней на «шабашкі», на лесасплаў у Пермскі край і г.д. Пазней працаваў у школе, пазней — дэпутацтва, пасля — партыя, таму я ўвесь час плачу падаткі.

***— Вас не засмучае, што апазіцыя не змагла дамовіцца наконт супольнага «Маршу недармаедаў»?***

— Я не лічу, што трэба ствараць адзін цэнтр і казаць, што каму рабіць. Мяне цешыць іншае: кожны дзень я ад 15 да 40 хвілін вылучаю на тое, каб адпісаць людзям у сацыяльных сетках па гэтай праблеме. Камусьці я даю каардынаты нашай юрыдычнай службы, камусьці перасылаю бланкі для збору подпісаў. Гэта важна! Важна таксама, што зараз у розных рэгіёнах з'яўляюцца новыя людзі, валанцёры, якія хочуць нешта рабіць па гэтым пытанні.

Некаторыя рэчы варта рабіць разам, кааліцыйна. Таму, датычна Маршу 15 сакавіка, на Дзень Канстытуцыі, мы звярнуліся да ўсіх, уключна са Статкевічам, Някляевым, Фядынічам: давайце збярэмся разам і прагаворым, як зладзіць акцыю. Атрымалася тое, што атрымалася: яны палічылі, што змогуць асобны марш арганізаваць. Я не бачу ў гэтым вялікай праблемы, бо ад пачатку арганізатары закладалі розны фармат.

***— Навошта патрэбная заяўка на правядзенне акцыі, якую і так не задаволяць?***

— Калі ты выходзіш без заяўкі, улада можа сказаць: «Глядзіце, гэта ж правакатары! Замест таго, каб дазвол прасіць, яны адразу наперад лезуць майдан задзіць...» Таму мы падавалі заяўкі. І ў Гомелі, і ў Магілёве, і ў Брэсце, і ў Гродне былі адмовы. Мы пройдзем гэта, каб пасля сказаць: «Мы спрабавалі зрабіць усё легальна, нам адмовілі». Марш 15 сакавіка ўсё адно адбудзецца, незалежна ад дазволу ці забароны ўладаў. Маршрут будзе: Акадэмія Навук — плошча Бангалор.

***— Што думаеце наконт ідэі круглага стала?***

— Кожны палітык скажа, што ён не супраць круглага стала. Разам з тым, я быў удзельнікам спробы арганізаваць некалькі круглых сталоў у 1990-я гады. Штораз усё заканчвалася тым, што нічога не змянялася. Таму трэба акрэсліцца з некаторымі момантамі: павестка дня, удзельнікі, задачы, тэрміны выканання. Тады будзе пра што казаць.

Ёсць пытанні, якія мелі быць абмеркаванымі яшчэ на круглых сталах 90-х гадоў: свабодныя выбары і доступ апазіцыі да дзяржаўных СМІ. Гэта вельмі канкрэтныя рэчы, давайце абмяркоўваць.

Але, калі збяруцца прадстаўнікі апазіцыі, прыйдзе Лукашэнка і 8 гадзін будзе размаўляць сам з сабой, то ў гэтым няма сэнсу.

# Літаратурная Беларусь

Выпуск №2 (126) (сакавік)

КУЛЬТУРНА-АСВЕТНІЦКІ ПРАЕКТ
Грамадскага аб'яднання «Саюз беларускіх пісьменнікаў» і «Новага Часу»

lit-bel.org
novychas.by

## Змест



# Незалежнасці сіла



**Мець незалежную краіну — гэта вялікае шчасце для кожнай нацыі, самая лепшая ўмова напоўніцу рэалізаваць свой разумовы і фізічны патэнцыял**

**Пра сілу і магчымасці беларускай незалежнасці даводзілася дыскутаваць яшчэ ў 60-х гадах мінулага стагоддзя з песімістамі ў студэнцкім інтэрнаце.**

Памятаю таксама хвалюючыя гаворкі са старэйшымі сябрамі, выдатнымі айчыннымі літаратарамі В. Быкавым, У. Караткевічам, П. Панчанкам, Г. Бураўкіным. Але пасля распаду СССР народнага абмеркавання важнай тэмы, выпрацоўкі стратэгіі развіцця краіны і нацыі так і не адбылося. Жывем нашармака…

Мець незалежную краіну — гэта вялікае шчасце для кожнай нацыі, самая лепшая ўмова напоўніцу рэалізаваць свой разумовы і фізічны патэнцыял. У свеце ёсць народы, якія пераўзыходзяць беларусаў па колькасці, але яшчэ не знайшлі сталага прытулку на планеце, не стварылі ўласную дзяржаву. Такі стан — вельмі драматычны. А наша галоўная мэта нарэшце спраўдзілася, і гэтай неацэннай радасцю трэба даражыць да апошняга ўдару сэрца ўсім суайчыннікам.

Для беларусаў надзвычай важна — не страціць дзяржаўнай незалежнасці, якая здабыта велічнай працай нацыянальнага розуму і незлічонымі ахвярамі. Толькі мясцовым манкуртам, у тым ліку і высокапастаўленым, якія сквапна карыстаюцца ёю ва ўласных меркантыльных і амаральных мэтах, здаецца, што вынік прыйшоў сам сабою. Але да незалежнасці яны не маюць абсалютна ніякага дачынення.

У мінулым яе кавалі гераічнымі памкненнямі да свабоды, доўгімі пакутамі, адважна пралітай крывёю і пакладзенымі жыццямі лепшыя прадстаўнікі ўсіх пакаленняў беларусаў. Цэлы шэраг мужных стваральнікаў і абаронцаў незалежнасці выявіла XX стагоддзе. Імі сталі арганізатары Беларускай Народнай Рэспублікі, самаахвярныя ўдзельнікі Слуцкага паўстання, смелыя змагары са сталінскай тыраніяй у 20–50-я гады, свядомая інтэлігенцыя, якая пастаянна адстойвала родную мову і іншыя чыннікі нацыі.

Незалежнасць адкрывае шырокі прастор для выдатных дасягненняў ва ўсіх сферах эканомікі, навукі, культуры. Але яна вымагае ад краіны і ад кожнага грамадзяніна актыўнай самастойнасці, ініцыятыўнасці, прадпрымальніцтва і, безумоўна, сумленнасці, прыстойнасці, бо на новую дзяржаву звяртае пільную ўвагу свет.

Нам трэба ўсведамляць адказнасць за незалежнасць, за яе эфектыўнае выкарыстанне для ўмацавання і развіцця нацыі. На жаль, такога адчування ў большасці насельнікаў Беларусі няма. У нас нават інстынкт самазахавання катастрафічна прытуплены.

Доўгатэрміноваму правіцелю незалежнасць падабаецца за тое, што можна маніпуляваць мільёнамі людзей, жыць у вялікай раскошы, дагаджаць усім сваім прыхамацям, па-султанску забаўляцца, лётаць па свеце, хадзіць па дывановых дарожках, прымаць рапарты ганаровай варты, лічыць сябе «роўным Богу і нават вышэй». Службоўцам і прыўладным бізнесоўцам яна дапамагае хутка і беспакарана абагачацца незаконнымі спосабамі. А замбаваныя прапагандай маладыя «патрыёты» проста кайфуюць ад удзелу ў тусоўках, арганізаваных чыноўнікамі, дзе можна пабегаць з чырвона-зялёнымі сцягамі і пакрычаць: «Мы — беларусы!», «Я люблю Беларусь!», і прымервацца да сваіх будучых высокіх крэслаў.

А хто будзе рэалізоўваць важнейшую стратэгію незалежнасці? Краіне патрэбны дэмакратычная палітычная сістэма і эфектыўны эканамічны курс, а нацыі — адраджэнне, найперш вяртанне роднай мовы на законнае месца, бо яна — галоўны абярэг беларусаў. Гэтая праграма патрабуе канкрэтных намаганняў, разлічаных на перспектыву. Але сённяшнія наменклатурныя дачаснікі не ўмеюць працаваць на доўгатэрміновае стабільнае развіццё, яны жывуць паводле выслоўя: «З плеч — і ў печ!». Колькі нагаворана, наабяцана і не выканана за 22 гады аўтарытарнай улады! Колькі высмактаных з пальца планаў і праектаў пакінута ў сметніцу!

Упэўненая сіла нашай незалежнасці не супадае з хранічнымі хістаннямі, з мітуслівымі скачкамі аўтарытарызму. Лёсам, будучыняй Беларусі павінны займацца не А. Лукашэнка з кампаніяй ліслівых лёкаяў, якія толькі ўмеюць стаяць з працягнутай рукой і чужымі грашыма затыкаць дзіркі, а само грамадства ў асобе лепшых спецыялістаў розных сфер. Яшчэ ў 1909 годзе геніяльны Янка Купала заклікаў:

*Шчаслівы ты ці нешчаслівы,*
*Будзі сыноў сваёй зямлі,*
*Над беларускай соннай нівай*
*Нязгаслы светач распалі!*

У нас ёсць падрыхтаваныя эканамісты, фінансісты, прадпрымальнікі, канструктары, інжынеры, працаўнікі навукі і культуры, якія здольныя вызначыць і рэалізаваць паспяховае развіццё краіны. Разумным дзеяннем прафесіяналаў патрэбна толькі адпаведнае палітычнае і грамадзянскае забеспячэнне…

Я не пагаджаюся з тым, што пры аўтарытарызме можа мець добрыя вынікі ідэя ліберальных пакрокавых захадаў. На любы, самы маленечкі крок да дэмакратыі ўлада адказвае інтэнсіўным закручваннем гаек. Яна занятая не развіццём эканомікі, не паляпшэннем жыццёвага ўзроўню народа, а пошукам незадаволеных і іх ізаляцыяй у турмах.

Ніякага аптымізму не прыбаўляе сацыяльная незадаволенасць, якая віруе ў грамадстве. Вядомы пісьменнік Джорж Оруэл у рамане «1984» справядліва сцвярджаў: «…Гэтая незадаволенасць ні да чаго не вядзе, таму што з-за адсутнасці агульных ідэй звернута яна толькі супраць дробных канкрэтных непрыемнасцяў».

Тым не менш, сіла незалежнасці змагла ўцягнуць у сваю арбіту ўзурпатара і «вялікага інтэгратара». Ён яшчэ расказвае казкі пра «адзіны народ», пра беларусаў, якія — «рускія толькі са знакам якасці», але паралельна на ўсе лады славіць незалежнасць і заклікае яе берагчы!..

Незалежнасць перацягвае да сябе нават сваіх нядобразычліўцаў і ворагаў, якіх хапае. Прыхільнікам аўтарытарызму і беларусафобам няма куды дзецца, бо іхні кумір раптам стаў апантаным незалежнікам. Яны тут жа ўспомнілі, што ёсць дзяржаўная беларуская мова, і пачалі асцярожненька ўціскаць яе ў рэкламу, выносіць на агітацыйныя шчыты.

Нехта пляскае ў ладкі і радуецца слабенькаму павароту да беларускасці. А я ніколі, хоць забіце мяне, не паверу ў шчырую любоў да Беларусі чыноўнікаў-флюгераў, якія ад макаўкі да пят падпарадкаваны кан'юнктуры. Сёння — адно, а заўтра — іншае. У іх няма адчування роднасці з дабраслаўлёнай зямлёй, з яе гісторыяй, палітымі потам і крывёю шматпакутных продкаў.

Здзек з нацыянальнай гісторыі — гэта не толькі хлуслівыя школьныя і ўніверсітэцкія падручнікі або вандалізм у стаўленні да мемарыяльных знакаў, прысвечаных памятным падзеям і датам. Я лічу здрадай і абразай любімай Айчыне тое, што да гэтага часу ў нас няма нацыянальнай і грамадзянскай еднасці, жадання жыць па-чалавечы.

Пакуль што сіла незалежнасці не задзейнічана на карысць пабудовы дэмакратычнай, прававой, цывілізаванай Рэспублікі Беларусь, лепшага жыцця для ўсяго грамадства. Яна служыць толькі вузкаму колу людзей, якія выкарыстоўваюць яе дзеля задавальнення амбіцый, фінансава-матэрыяльнага абагачэння, піяру.



Але я веру, што навечна захаваная беларусамі незалежнасць абавязкова прынясе чаканы плён, што яе сіла — магутная. Як жорны перацІраюць збожжа на муку, каб спячы неўміручы, жыццядайны хлеб, так і яна перамеле аўтарытарную сістэму, дзікунскія дзеянні пустадомкаў і выцягне нацыю з дэградацыі.

**Сяргей Законнікаў, sn-plus.com**

# VI міжнародны фестываль імя Міхася Стральцова

**Традыцыйна фестываль «Вершы на асфальце» 10 лютага быў распачаты з чытання твораў Міхася Стральцова на розных мовах, у арыгінале і ў перакладзе.**



Па-ўкраінску перастварыў Стральцоўскія тэксты і прадставіў іх Сяргій Жадан. Па-шведску загучалі паэтычныя радкі беларускага класіка дзякуючы перакладчыку Дзмітрыю Плаксу і Мары Лундквіст, якая прадэкламавала іх.

У межах фестывалю ў 14-ты раз была ўручана штогадовая прэмія за найлепшую публікацыю ў часопісе «Дзеяслоў», якую атрымалі Валеры Гапееў (проза), Міхась Скобла (паэзія) і Крысціна Бандурына (дэбют).

Пісьменнік і даследчык Міхась Скобла прэзентаваў укладзеную ім кнігу «Выгнаны патрыцый», прысвечаную жыццю і творчасці М. Стральцова.

Візітоўкай фестывалю «Вершы на асфальце» памяці Міхася Стральцова з'яўляецца і «Вялікае Княства Паэзіі», якое штогод аб'ядноўвае літаратурную супольнасць былых народаў ВКЛ, а таксама гіпатэтычна далучаных да іх народаў. «Вялікае Княства» сапраўды кожны раз і кожны год паказвае ўласную вялікасць: нязменна шмат выступоўцаў дэманструюць самыя розныя паэтычныя практыкі (ад традыцыйнай лірыкі да авангарднай, перакрыжаваная перастрэлка перакладаў на некалькі моў адразу, агучаная дзвюма ці трыма асобамі са сцэны, розныя літаратурныя пакаленні). Чытанні старэйшага пакалення паэтаў і паэтак перамяжоўваліся з успамінамі пра патрона фестывалю. Так, паэтка Раіса Баравікова нямала распавяла пра свае знаёмства з Міхасём Стральцовым.

Мадэратар Вялікага Княства паэзіі Андрэй Хадановіч прачытаў з новай кнігі выбранага Рыгора Барадуліна верш «Прыбалтыка» і запрасіў на сцэну паэта Антанаса Янінаса, вядомага літоўскага літаратара, перакладчыка «Фаўста» Гётэ, старшыню Літоўскага саюза пісьменнікаў.

Добрай традыцыяй стала запрашаць на Стральцоўскі фэст гасцей з Швецыі. Сёлета ў Мінск прыляцела вядомая паэтка Мары Лундквіст. На беларускую мову творы Мары Лундквіст перакладае Дзмітры Плакс, яго перастварэнні ўпершыню і былі агучаны на паэтычным фестывалі.

Упершыню на Стральцоўскім фестывалі выступала расійская спявачка, паэтка і перакладчыца Ганна Герасімава (Умка).

На Вялікім Княстве паэзіі выступілі беларускія і замежныя паэты і паэткі Уладзімір Глазаў, Кася Сянкевіч, Наталка Кучмель, Марыя Мартысевіч, Алесь Пашкевіч, Антон Рудак, Алесь Емяльянаў-Шыловіч, Дайнюс Гінталас, Марыянна Кіяноўска, Вікторыя Дзікабраз, Крысціна Бандурына. Завяршылася імпрэза сумесным выступам Сяргія Жадана і Андрэя Хадановіча, чым была пастаўлена тлустая кропка ў першым дні найбуйнейшага паэтычнага фестываля Беларусі «Вершы на асфальце».

На другі дзень фестывалю, 11 лютага, адбылася прэзентацыя лепшых кніг паэзіі, выдадзеных за мінулы год.

Некаторыя з іх паспелі ўжо атрымаць ацэнку крытыкаў і трапіць у рукі да сваіх чытачоў. Іншыя — выдадзеныя зусім нядаўна — чакаюць свайго часу, захоўваючы на сваіх старонках прыемны пах друкарскай фарбы.

Удзельнікамі паэтычнай імпрэзы былі Ганна Галавіна з кнігай «Яблык Зямля», Яўген Бясчасны з дэбютнай «Стой!», Людка Сільнова з «Горадам Мілаградам», вытрыманым у стылістыцы рыцарскіх вершаў, Міхал Бараноўскі з музычнай «Volumen.1». Два паэты, Аляксей Арцёмаў і Ганна Комар, не змаглі прысутнічаць на вечарыне — падчас фестывалю знаходзіліся за межамі Беларусі. Таму яны запісалі відэазвароты, і іх паэзія была пачутая. Як заўсёды, жывым і яркім быў выступ Віктара Жыбуля — летась у паэта-авангардыста выйшла кніга «Дзяцел і дупло». З нагоды таго, што 2017-ы абвешчаны Годам навукі, ён прачытаў верш «Вучоны ў чарзе па піва».

Таксама на вечарыне прагучалі вострыя і лірычныя вершы Вольгі Злотнікавай з новай кнігі «Паства», Таццяна Сівец распавяла аб сваёй асабістай «Разнявоенасці», Сабіна Брыло выступіла з вершамі са свайго дэбютнага «штодзённага» і глыбокага зборніка «Это буквы». А Андрэй Бастунец абверг нерухомасць «Доказательством движения».

Спецыяльна для аматараў перакладаў на фестывалі выступіў Ігар Кулікоў. Дзякуючы яму знакамітую індыйскую «Рыгведу» цяпер можна чытаць і на беларускай мове.

А аматараў перакладаў у зале было шмат — да прыкладу, паэт Міхал Бараноўскі, які прызнаўся, што радуецца, калі адкрываюць новыя імёны, а таксама і сустракаюць новых сяброў на фестывалі: «Чым падабаецца фармат фестывалю: можна за кароткі час пазнаёміцца з кнігамі аўтараў. Наведваць усе імпрэзы не стае часу, а тут усе лепшыя аўтары як на далоні. За гэты год было выдадзена шмат добрых кніг — у прыватнасці, прыемна, што нарэшце з'явілася магчымасць чытаць Гейнэ і Бадлера на беларускай. Яшчэ асабіста хацелася б адзначыць зборнік Насты Кудасавай «Маё невымўля» — лічу, што ён адзін з самых вартых».

Паводле праграмы Насце Кудасавай давялося выступаць апошняй. Зрабіць яе выступ больш яркім дапамог гурт «Сон-трава». Музыкі зрабілі з вершаў паэткі некалькі якасных песень.

«Шчыра кажучы, я люблю гэты фестываль, — па-першае, таму, што ён адзіны такі. Чакаю яго кожны год — для мяне гэта сустрэча з сябрамі. Люблю яго за тое, што тут збіраюцца найлепшыя аўтары. Сярод новых кніг я б адзначыла доўгачаканую «Стой» Яўгена Бясчаснага — сёння ў яго поўны аншлаг, і ён, безумоўна, гэтага заслугоўвае», — падзяліласа ўражаннямі Наста.

Для многіх фестываль стаў сакральнай падзеяй, магчымасцю сустрэцца з даўнімі сябрамі, падзяліцца эмоцыямі і зліцца ў адно метафізічнае цэлае. У Таццяны Сівец з «Вершамі на асфальце» менавіта такія адносіны: «Я ўжо не першы раз бяру ўдзел у фестывалі. Гэта і вялікая міжнародная акцыя, і проста сустрэча з людзьмі, якіх я не бачыла ўжо некалькі гадоў. І для мяне гэта момант узрушэння, яднання з людзьмі, якія дыхаюць тым жа паветрам, жывуць той жа ідэяй і адчуваюць той жа самы боль, які адчуваю я. Таму мне сёння было балюча разам з імі. Боль памнажаецца, але ж памнажалася і радасць. Радасць ад таго, што мы можам ствараць паэзію — цудоўную іншую рэальнасць. І рабіць яе шчырай і светлай, як самі вершы».

Ранак суботы (11 лютага) быў азмрочаны непрыемнымі навінамі пра дэпартацыю і забарону на ўезд у Беларусь Сяргія Жадана, які з'яўляўся не толькі хэдлайнерам «Ночы паэзіі», але і ўсяго фестывалю «Вершы на асфальце» памяці Міхася Стральцова.

Таму ўвечары ў кафэ-клубе «Грай» яшчэ задоўга да пачатку імпрэзы сабраўся цэлы натоўп прыхільнікаў паэзіі. Беларускія чытачы ўкраінскага пісьменніка ішлі развітвацца з ім на нявызначаны тэрмін, але фінал гісторыі быў шчаслівы (дэпартацыю адмянілі), а «Ноч паэзіі» стала самым шматлюдным мерапрыемствам фестывалю.

Але ж пачыналася ўсё не так добра. Выступ Умкі (Ганны Герасімавай), які адкрываў «Ноч паэзіі», праходзіў у самым далёкім куце клуба на другім паверсе, і не ўсе з першага разу здолелі яго адшукаць, а тыя, хто ўрэшце знайшоў, месціліся ў невялічкім пакойчыку. Усё гэта нагадвала фарматам кватэрнік, а не клубны канцэрт. Затое на першым паверсе на даволі вялікай пляцоўцы жывы склад музыкаў граў хіты расійскай папсы для кампаніі, якая адначала нейкае сваё свята. Атмасфера панавала сюррэалістычная, ні ўдзельнікі, ні госці мерапрыемства не разумелі, што адбываецца...

Дзякуючы арганізатарам (асноўныя клопаты ўзяў на сябе сакратарыят Саюза беларускіх пісьменнікаў) неўзабаве атрымалася дамовіцца з гаспадарамі кафэ-клуба, пляцоўку фестывалю ўдалося перанесці на «вялікую сцэну», і пад гучныя воплескі да публікі выйшаў Сяргій Жадан. Пісьменнік падзякаваў усім за падтрымку, прачытаў некалькі вершаў і абяцаў вярнуцца ў траўні з канцэртам разам са сваім гуртом «Жадан і Собакі». Пасля свайго выступу ўкраінскі госць адразу накіраваўся на вакзал, але на працягу ўсёй ночы яго прысутнасць няўлоўна адчувалася ў зале, натхняючы выступоўцаў і падказваючы ім выбар твораў: Антанас Янінас прачытаў літоўскі пераклад верша Уладзіміра Арлова «Ліст начальніку турмы», Віталь Рыжкоў свой выступ пачаў з уласнага перакладу верша Сяргія Жадана «Плыві, рыба, плыві», а Усевалад Сцебурака агучыў адзін са сваіх твораў, які быў прысвечаны спробе зразумець, чым насамрэч з'яўляецца ўсходняя краіна-суседка Беларусі. Украінскіх паэтак Алену Сцепаненку, Марыянну Кіяноўску і Вікторыю Дзікабраз аўдыторыя прымала вельмі цёпла і разумела без перакладу, нягледзячы на тое, што публіка была даволі разнапланавая.

Адпаведнымі клубнай атмасферы выдаліся выступы Сяргея Прылуцкага і Віктара Лупасіна. Іх іранічна-сцёбныя вершы прыйшліся даспадобы ўсім слухачам. Іншыя аўтары таксама імкнуліся не адставаць у экспрэсіўнасці, змагаючыся за ўвагу публікі.

Каб гасцям імпрэзы было лягчэй вытрымаць гэты паэтычны марафон, Андрэй Хадановіч і «TONQIXOD» праспявалі некалькі песень на вершы Боба Дылана, Яцэка Качмарскага, Леанарда Коэна. Публіка ўдзячна ўспрыняла такую музычную праграму — хтосьці падпяваў, а хтосьці нават танчыў. Напрыканцы вечара слухачоў чакаў выступ Яўгена Барышнікава.

Нават тыя прадстаўнікі клубнай публікі, што зрабіліся слухачамі «Ночы паэзіі» выпадкова, здолелі адкрыць для сябе шмат новага, а некаторыя даволі непасрэдна рэагавалі на пачутае...

Можна сказаць, што фестываль «Вершы на асфальце» баявое хрышчэнне клубнай атмасферай прайшоў паспяхова, і «Ноч паэзіі» ўдалася.

**Алена Босава, Дар'я Латышава.**
**Фота Вікі Трэнас**

## Сябры Саюза беларускіх пісьменнікаў — дармаеды?

**Саюз беларускіх пісьменнікаў не ўвайшоў у лік 13 творчых саюзаў, вызначаных Міністэрствам культуры Рэспублікі Беларусь.**

Адпаведная пастанова ўступіла ў сілу 19 лютага, за тры дні да моманту, калі «мірныя і шчаслівыя» беларусы мусілі заплаціць «падатак на дармаедства».

Дагэтуль сябры ўсіх творчых саюзаў былі вызваленыя ад скандальнага падатку, у тым ліку і сябры Саюза беларускіх пісьменнікаў.

Сакратарыят СБП адразу ж звярнуўся з абуральным лістом да міністра культуры тав. Святлова (тэлефонна з аніводным высокапастаўленым чыноўнікам ад культуры, якія, нагадаем, фінансуюцца з дзяржбюджэта, звязацца не атрымалася). Таксама Сакратарыят СБП 20 лютага прыняў і распаўсюдзіў заяву з адпаведнымі канстатацыямі і патрабаваннямі:

«Мы лічым, што неўключэнне Міністэрствам культуры нашай пісьменніцкай арганізацыі ў лік творчых саюзаў мае палітычную афарбоўку і з'яўляецца ганебным крокам, які шкодзіць нацыянальнаму і грамадска-культурнаму развіццю краіны, правакуе міжнародны рэзананс і негатыўна ўплывае на імідж нашай дзяржавы. ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў» мае дзесяцігоддзямі пацверджаны высокі міжнародны аўтарытэт, разам з 70 пісьменніцкімі саюзамі краін Еўропы ўваходзіць у Еўрапейскую Пісьменніцкую Раду, з'яўляецца праўдзейным сябрам Генеральнай асамблеі Рады пісьменнікаў Балтыі.

Ад імя сяброў найстарэйшай творчай арганізацыі краіны патрабуем перагляду пастановы, прынятай Міністэрствам культуры, і вяртання нашаму грамадскаму аб'яднанню статуса творчага саюза».

# Літаратурныя святцы

**Першы вясновы месяц — багаты на святы майстроў слова. Мо гэта невыпадкова, бо нават творчае натхненне ў многіх асацыюецца якраз з вясною.**

На жаль, паводле даўняй звычкі словазлучэнне «першае вясновае свята» нярэдка выклікае ў памяці дату, штучна ўведзеную нямецкімі рэвалюцыянеркамі дый шанаваную цяпер хіба што толькі на постсавецкай прасторы. Аднак папярэднічае яму свята, пра якое, мабыць, ведаюць нават не ўсе літаратары, — Сусветны дзень пісьменніка.

Адзнача́ць 3 сакавіка як міжнароднае прафесійнае свята пісьменнікаў было вырашана ў 1986 годзе падчас кангрэсу Міжнароднага ПЭН-Клуба — міжнароднай супольнасці пісьменнікаў (ад англійскага скароту PEN — poets, essayists, novelists). А між тым, для нас, беларусаў, не ведаць пра гэтае свята досыць прыкра, бо менавіта айчынныя пісьменнікі ў беларускай гісторыі адыгралі нацыятворчую ролю.

А 21 сакавіка, згодна з рэзалюцыяй трыццатай сесіі Генеральнай канферэнцыі ЮНЕСКА, з 1999 года адзначаецца яшчэ адно, яшчэ больш маладое штогадовае свята — Сусветны дзень паэзіі. Асноўнай мэтай гэтага свята стала падтрымка моўнай разнастайнасці праз магчымасці паэтычнага слова, садзейнічанне развіццю паэзіі, вяртанне да вуснай традыцыі паэтычных чытанняў, аднаўлення дыялогу паэзіі з іншымі відамі мастацтва: тэатрам, музыкай, жывапісам. І гэтая дата для нас актуальная, бо калі згадваем сваіх класікаў — Янку Купалу, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, дык думаем пра іх найперш як пра паэтаў, як пра песняроў. Ёсць пэўная сімволіка і ў тым, што дзень нараджэння Францішка Багушэвіча, аднаго з заснавальнікаў новай беларускай літаратуры, прыпадае на гэтую дату.

У сакавіку мы таксама можам згадаць пра прыход у гэты свет такіх майстроў прыгожага пісьменства, як Кандрат Крапіва, Ізі Харык, Францішак Аляхновіч, Алесь Гарун, Тодар Кляшторны, Міхась Чарняўскі, Павел Місько, Аляксей Пысін, Уладзімір Мархель...

У першым месяцы вясны маем мажлівасць павіншаваць Лявона Баршчэўскага, Анатоля Сідарэвіча, Лідзію Савік, Серафіма Андраюка, Міхала Анемпадыстава, Кастуся Цвірку, Крыстыну Лялько, Аляксея Марачкіна, Алега Мінкіна, іншых літаратараў.

А вось Уладзімір Мехаў, Уладзімір Папковіч ды Аляксей Рагуля і ўвогуле пабачылі свет 25 сакавіка, у светлы, святы дзень нашае гісторыі, якому прысвячалі ўзнёслыя і пранікнёныя радкі Наталля Арсеннева, Ларыса Геніюш, Макар Краўцоў, Рыгор Барадулін, Генадзь Бураўкін ды іншыя творцы.

Вось такі атрымліваецца сакавіцкі літаратурны беларусацэнтрычны штогадовы часаслоў.

Да яго сёлета дадаецца і XVII чарговы справаздачна-выбарчы З'езд Саюза беларускіх пісьменнікаў. Гэта — яшчэ адно культурніцкае сакавіцкае свята. І экзамен адначасна.

**Уладзімір Сіўчыкаў**

# «Быць разам»: Алена Васілевіч

**Сёлета адзначае свой 95-гадовы юбілей старэйшына нашай літаратуры і Саюза беларускіх пісьменнікаў, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі, талетавітая і прачулая пісьменніца і эсэіст, чалавек з сонечнай душой Алена Сямёнаўна ВАСІЛЕВІЧ. «Літаратурная Беларусь» прапануе сваім чытачам вясновыя згадкі пра яе.**



Абаяльная, прыгожая і абліччам, і душою, дабразычлівая, спагадлівая да людзей — гэта толькі кароткі пералік эпітэтаў, якімі надзяліў бы я Алену Васілевіч.

Але спярша пра яе творы.

Я зацікавіўся творчасцю Алены Сямёнаўны, калі прачытаў яе аповесць «Расці, Ганька». Гэта — я сказаў бы, светлы плач-шкадаванне па дарагой, але даўно страчанай, не-не, зусім не страчанай, а толькі вельмі аддаленай па часе краіне маленства, той краіне, дзе кожнай вясною шырока разлеглыя пад вольнымі воблакамі лугі-сенажаці «топяцца ў залатой лотаці, потым палаюць ад ружовай загары, а летам, у касавіцу, звіняць на тысячы званоў усімі кветкамі, якія толькі ёсць на свеце».

«У гарах — маё сэрца», — не на міг не забываючыся ў бадзяжніцтве па свеце пра сваю Шатландыю, казаў некалі Роберт Бёрнс. З аповесці «Расці, Ганька» вельмі добра відаць, што сэрца Алены Васілевіч — у лобай Случчыне, дзе пры таямнічым Барэцкім лесе прымясцілася невялічкая, на дванаццаць хат, яе родная вёсачка-засценак Даманшчына.

У хату сваіх бацькоў і ўводзіць Алена Васілевіч чытача з першых старонак аповесці. Хата была падзелена праз калідор-сенцы на дзве палавіны. У першай жыў састарэлы ўжо гаспадар з нявесткай Іваніхай і дзвюма ўнучкамі, у другой — яго дачка Алена з унучкай Ганькай, у якой мы лёгка пазнаём саму пісьменніцу ў малыя гады.




Усё добра было б тут, сярод сваіх, малой Ганьцы, калі б... калі б ні гэты, як яна мяркуе, працоўны яе дзед Грысь, які зімой і летам толькі і ведае, што сядзіць на печы ды бурчыць на ўсіх дамашніх. Асабліва не можа ён дараваць дачцы Алене, якая ўзяла ды й выйшла была замуж за «мужыка», хоць сама шляхцянка, не абы хто. Калі ж Ганька забягала ў тую палавіну хаты да сваіх стрыечных сястрычак, дзед Грысь, лежачы за комінам, ніколі не стрываe, каб не выказацца:

«— Прыцяглося ўжо, мужычанё...

Ганька спадылба, сярдзіта глядзіць на комін, але сказаць што-небудзь баіцца. За яе заступаюцца стрыечныя сёстры:

— А вам там цесна, лежачы на печы? Абы чапляцца да дзіцяці.

Малодшая, шаснаццацігадовая Ніна, ніколі не сцерпіць дзеду. І толькі яе аднае ў хаце і пабойваецца дзед.

— Паагрызайцеся мне, паганкі...

І ўжо зусім кепска бывае, калі на такі выпадак нарвецца Алена.

— Ізноў?... — усяго толькі і скажа яна, намагаючыся здавацца спакойнай. Па тварах усіх, хто ў хаце, ёй зразумела, пра што ідзе гаворка.

— Я мужычак да сябе ў госці не зваў, — напышліва адзываецца з-за коміна дзед.

— А да вас ніхто і не ішоў.

— «Не ішоў?»... Цяпер ходзіш, як той твой паўстынец узяў ды кінуў цябе, дурную...

— Не ваша дзела! — голас Алены звініць, здаецца, вось-вось разаб'ецца...».

З лёгкай усмешкай, з заміланай «слязой на ветцы» (Уладзімір Паўлаў) падае нам Алена Васілевіч казку свайго маленства.

І праўда: як жа хораша не паўсміхацца з дзіцячай непасрэднасці маленькай Ганькі, перад якой раскрываецца такі дзівосны, такі бліскотны свет з усімі яго праявамі.

Усё цікава Ганьцы ў гэтым свеце, усё хочацца зведаць і паспрабаваць, самой рабіць тое, што і дарослыя, што і маці. От заглядзелася Ганька, як яна, маці, тчэ палатно на кроснах, як стукае набіліцамі, як пускае праз аснову чаўнок з цэўкаю, на якой намотаны ніткі, і, калі маці выходзіць з хаты, малая крадком садзіцца за кросны і сама ляскае набіліцамі. І ткала б, як трэба, ды — от няўдача! — не дастае нагамі да панажоў. Але яна ўсё роўна пробуе, бо хочацца.

А калі прыходзіць пара бяліць палотны, Ганька і тут не ўбаку.

«— Я таксама буду бяліць палотны! — падскоквае, седзячы на месцы, Ганька. Ёй не цярпіцца дачакацца тае пары, калі палотны будуць мачыць у копанцы, калі будуць слаць іх па маладой зялёнай траўцы, калі можна будзе бегаць па гэтых палотнах босай.

Лоп-лоп-лоп-лоп! — лапочуць пад нагамі цубкія палатняныя сцежкі на траве — толькі цёплыя пырскі ляцяць ва ўсе бакі! Лоп-лоп-лоп-лоп! — перабягаеш ты з палатна на палатно. Лоп-лоп-лоп-лоп!...»

Ідуць гады, расце, набіраецца розуму і памалу сталее Ганька. А перад ёю — чарада падзей. І самая горкая — смерць мацеры. Ганька ўжо — круглая сірата. А каму ж не ведама: Бог сірат любіць, але долі не дае. Усё ж радня не кідае малую. І яна ідзе ў школу, потым — у інстытут (у горадзе Рагачове). Пра ўсё вельмі маляўніча, з поўнай душэўнай аддачай расказвае Алена Васілевіч, расцягнуўшы сваё апавяданне ў тэтралогію пад агульнай назвай «Пачакай, затрымайся...».

Заканчваецца тэтралогія апошнімі днямі вучобы ў інстытуце. А гэта быў май 1941 года. Да студэнткі-выпускніцы Ганькі Гурновіч (чытай — Алены Васілевіч) прыязджае ў студэнцкі інтэрнат «яе хлопец» — курсант пяхотнага вучылішча Іван Лазоўскі, з якім яна даўно перапісваецца.

«Удваіх мы блукаем цэлы дзень, — расказвае (ужо ад першай асобы, ад сябе, не хаваючыся пад выдуманае імя) Алена Васілевіч. — Лазім па дняпровых кручах. Умошчваемся і сядзім на выгнутым ствале хваіны-ліры...

Абедаем мы ў гарадскім рэстаране. Сядзім удваіх за столікам. У нас нават па кілішку чырвонага віна. Закусваем вінегрэтам і гуляшамі. У рэстаране мы страчаем нашых хлопцаў-студэнтаў. Хлопцы выразна пазіраюць у наш бок: ого! Я разумею, што ляўчу з галавою ў вір — і ўсё роўна вір гэты мне жаданы. Мне свае галавы не шкада...

Вечарам мы ідзём у кіно па Цымерманаўскай. Нічога не чуем і не бачым, сядзім паўтары гадзіны. А потым заходзім у гасцініцу ўзяць Ванеў шынель.

Вечары яшчэ свежыя. І праседзець на вуліцы праспрануўшы — будзе холадна. Будзе холадна мне — Ваня пра мяне клапоціцца, каб не прастыла.

На ўтульнай Задруцкай вуліцы мы выбіраем незаняты ганачак і займаем яго на цэлы вечар. (У Ваневым шынялі мне цёпла, і я не буду спяшаца дадому.) На суседніх ганках таксама сядзяць пары. Гэта нашы, студэнцкія, ганачкі.

— Ты толькі хутка пішы, адразу, як заедзеш...

— А ты мне адразу адказвай. Добра? А праз год, у гэту пару, мы ўжо будзем разам...

Ён прыедзе да мяне... У маю новую школу. Ён прыедзе і забярэ мяне. І мы паедзем — разам ужо. (Хоць на край свету!) Каб потым быць ужо толькі разам. Толькі ўдваіх...»

Ды ўсё перакрэсліла вайна, якая грымнула «праз месяц і дванаццаць дзён». А праз якія паўгода (дакладна 18 лютага 1942-га) прыйшло пісьмо з фронту, у якім паведамлялася, што ў баях з нямецка-фашысцкімі захопнікамі лейтэнант Іван Лазоўскі «загінуў смерцю храбрых». Пра гэта Алена Васілевіч расказала ўжо ў апавяданні «Ты пайшоў насустрач вайне» з прыпіскай: «Памяці Івана Лазоўскага». Гэта ўжо быў рэквіем па сваім светлым каханні.

Ці не адсюль і тая душэўная цеплыня, любоў да людзей, што чую я ў кожным апавяданні, у кожным эсэ Алены Васілевіч?

...Мне пашчасліліла працаваць разам з Аленай Васілевіч у выдавецтве «Юнацтва». Сядзеў з ёй у адным кабінеце. Нямала там гаварылася, успаміналася.

У сваёй кнізе «Будзіла вёску берасцянка» я расказваў, як знайшоў нашы з Аленай Сямёнаўнай агульныя карані: яе блізкую сваячку Тарэсю з дому Няронскіх-Лебедзевых узяў замуж мой не далёкі сваяк Юрка Цвірка і звёз у нашу Зялёную Дуброву. Адсюль Тарэся (ужо Цвірка) ездзіла ў родную Даманшчыну (цяпер Ліпнікі) з дочкамі Соняй і Стэфкай да сваіх у госці, дзе іх бачыла яшчэ малымі Алена Васілевіч, таксама тады яшчэ гэтакая ж малая. Зялёная Дуброва была для яе нечым таемна-зваблівым, песенна-казачным. Таму, як яна мне прызналася, і сваю Даманшчыну ў тэтралогіі назвала Зялёнай Дубровай.

І хоць Алене Сямёнаўне не выпала пабываць у маёй вёсцы, але называла яе «дарагой і мілай». А кнігу выбраных твораў у серыі «Беларускі кнігазбор», якую я рыхтаваў да друку, яна падпісала так: «Дарагі Кастусь! Няхай і пасля нас будзе доўга гаманіць і зелянець наша з Вамі Зялёная Дуброва».

**Кастусь Цвірка**

# На сумежжы



Антаніна ХАТЭНКА

***

*Між Айчыны і чужыны*
*б'ецца лёс напятай жылай.*
*А над лёсам — цёмны цень.*
*І святыя на куце.*
*Пахінуся да Айчыны —*
*ані звання, ані чыну.*
*А чужына, як спружына,*
*закруціла, закружыла —*
*аніяк не разбяру,*
*што прыгорнецца да рук:*
*ці спагада, ці праклён,*
*ці расада, ці быллё...*
*Над Айчынаю й чужынай*
*плача доля неспажынна:*
*што пасеяць, што пажаць?..*
*Скрозь душу — імжа, мяжа.*

***

*На змярканні прачулая ціша.*
*Адзінотнае волі сіло.*
*Лёс варожбамі пудкімі вышыў,*
*што забылася ўжо, аджыло.*
*На змярканні трывожная ціша.*
*Што прасеяў няўрымслівы дзень,*
*што раздумлівы вечар напіша*
*на зямлі, на вагні, на вадзе?..*
*На змярканні трымцлівая ціша —*
*нечаканай любові праток.*
*Што ў жыцці не збылося, не выйшла,*
*пачынае паўторны віток.*
*На змярканні відушчая ціша:*
*павуцінна прымоўклі куты.*
*І нястача даверу і лішак*
*заблукалі ў нітах залатых.*
*На змярканні адважная ціша —*
*перакроіць, даплыць, далюбіць.*
*І сягнуўшы са стромае вышы,*
*прамінуць недарэчна глыбінь.*
*На змярканні сцярожкая ціша.*
*Слёзна ростань зірнула ў вакно.*
*Можа, вечар суладдзе ўскалыша,*
*калі стане на сэрцы відно?..*

***

*Між Усім і Нічым,*
*між Пачатку й Спачыну*
*шэпча, плача, крычыць*
*вузел першапрычыны.*

*Шэпча, плача, крычыць*
*вузел Бога і д'ябла.*
*Повязь гэту рвучы,*
*я ў дарозе саслабла.*

*Між расстанняў-сустрэч*
*ці то з д'яблам, ці з Богам*
*доля кінецца прэч*
*і ў нядолі — знямога...*

*Затаюся ў начы,*
*між змяркання і золку.*
*Згоркла доля, маўчыць.*
*І нядолі тут золка.*

*Праўду ў ступе таўчы*
*ўперамешку з маною?*
*Ці ў нікуды ўцячы*
*паратункава з Ноем?*

*Над вузламі прычын —*
*горб адплат і паследкаў.*
*Завяршэнне й зачын*
*пасчапляліся ў клетках.*

*Часу жытні расчын*
*з Усяго і з Нічога.*
*Залатыя ключы*
*дзень прымае ад Бога...*

***

*Восень пахне журбой*
*журавінавых сцежак,*
*развітаннем з табой*
*на звятрэлым сумежжы.*
*Памяць грэецца ў сне.*
*Сны захутваюць восень.*
*Хто мяне спамяне*
*ў час рысталішчаў лёсных?*
*Што было — адгуло,*
*у вузельцы зраслося.*
*На вуглістае тло*
*горыч кінула восень.*
*Пахне восень зямлёй,*
*адсырэлай самотай,*
*тым, што сталася мной,*
*тым, чым стануся потым.*
*Варажбітна ў туман*
*зашапчу, каб збылося*
*чаго ў свеце няма,*
*што ўчароўвае восень.*
*З цёплай сілы ў камлях*
*лес паходні паўзносіць.*
*З невядомы, здаля*
*пахне вечнасцю восень.*

**Пракаветнае**

*Снуе завея тонкі кужаль.*
*Спеў калаўротаў...*
*Віры саслепла кружыць сцюжа.*
*Святлютка з высланых палотнаў*
*над Паваротам.*

*Прадуць мяцеліцы кудзелю*
*з нябесных прасніц,*
*на зрэб'е й кужаль хвілі дзеляць,*
*то залацяць, то срэбна беляць —*
*і цёпла гаснуць.*

*Была завея мне пялюшкай,*
*сны спавівала.*
*Гады пушчанскі вецер гушкаў*
*у кроне помнай, нібы птушак,*
*над Перавалам.*

*Над Перавалам з цемры ў долю,*
*з Гары ў даліну,*
*дзе не надыхаюся Волі —*
*ператвараюся паволі*
*ў дзірван, у гліну.*

*Была мне вэлюмам завея —*
*надзей мярэжай.*
*Плыла набожнікам вясельным,*
*расой адбеленым і зеллем,*
*па-над сумежжам.*

*Па-над мяжой маны й любові,*
*аддання й здрады*
*снягі пластуюцца ў сувоі,*
*пераніцоўваюць міжволі*
*боль-страты ў Радасць.*

*Зноў абхіне мяне аднойчы*
*завеі саван,*
*калі сплыву смалой-падсочкай*
*аж да Карэння па-сірочы,*
*у бездань-гавань.*

*Зімую. Кропля камень точыць...*
*Над Перавалам*
*учуць бы Роду шэпт прарочы,*
*пакуль заплюшчыць Вечнасць вочы —*
*і зор зярняты ўзыдуць Ночай*
*сяйвом ухвалы...*

**На развітанне з Нінай Мацяш**

*Аднойчы ўночы*
*заціхла сэрца.*
*І вочы ў вочы*
*жыццё са смерцю.*

*Да думкі думка —*
*дарога й вечнасць.*
*Адкіну клункі,*
*прыму галечу.*

*Да зорак зоры,*
*да цемры цемра.*



*Заходзіць змора,*
*усходзіць вера.*

*І сэрца ў сэрца —*
*маё й Сусвету.*
*Зляцець. Памерці.*
*Мой Божа, дзе ты?*

*Я вусны ў вусны*
*з Табой на сцерні.*
*Пайду й вярнуся,*
*як зерне ў зерне...*

**20.12.2008**

***

*Штоноч,*
*штоноч мне расчыняе весніцы*
*Тваёй пяшчоты чуйнай даланя*
*ў прыснёны край,*
*дзе ўсё аднойчы здзейсніцца,*
*на скрыжаванні цемрыва і дня.*
*А, мабыць, недзе ў бездані замружанай*
*альбо на ўзлёце — аж сцінае дых —*
*ізноў, ізноўку зарыпіць праступджана*
*люботны голас весніц маладых.*
*Да весніц гэтых даблукалі позна мы,*
*панагубляўшы пацерак-надзей.*
*Твая пяшчота птахава над крозамі*
*галубіць, супакойвае й вядзе.*

***

*На дасвецці...*
*у матуліных вокнах — вецце.*
*Тонка вытканы ўзор Сусвецця,*
*успамінаў сівая квецень*
*знекуль свеціць, яснотна свеціць*
*скрозь дасвецце.*

*Зораць вокны...*
*Разнасцежна ў прасторы й лёгка.*
*Сонца жывіць маю далёкасць.*
*І расплюшчаным трэцім вокам*
*стуль прагледзіста-адзінока*
*БАЧАЦЬ вокны.*

*Кружыць вецер...*
*Чысты боль на дрыготкай вейцы.*
*Матылёк утрапёна б'ецца*
*ў перавечных карунках вецця.*
*...Ні слядоў, ні слязін не сцерці —*
*вокны ў вецер.*

**Сёмушная элегія**

*За траецкай зялёнай Брамай*
*матылямі мігцяць знічы.*
*І з'яўляецца Знекуль мама.*
*А прастора, як ноч, маўчыць.*
*Пахне соладка свет аерам,*
*бела льецца святло бяроз.*
*...Жальна ўсхліпнулі ўдома дзверы,*
*гляну ў з покуці ў лёс Хрыстос.*
*Хто пазнае? І хто прывеціць?*
*Мама сядзе пад абразы*
*урачыста ў зялёным вецці —*
*ані ўздыху, ані слязы...*
*Стане ясна-яснютка ў хаце,*
*адагрэе вуглі агмень.*
*як зязюлька ў пяшчотным свяце,*
*мама вернецца да мяне.*
*Разамкнуцца сівыя рамы —*
*і са здымкаў, як сад, старых*
*неспадзеўна пакліча мама*
*Род са мною пагаварыць.*
*І ахіліць усю радзіну*
*абярожным радном ручнік.*
*Гэтак хораша, гэтак дзіўна!*
*Быццам боль усяленскі знік.*
*Угляджуся ў часы відушча:*
*дзе пачатак і дзе прасцяг?*
*Над траецкаю Брамай душы*
*зеляненькім лісцём трымцяць...*

**Да абаронцы**

*Узіраецца ноч у дарогу маю,*
*як адчай, як туман, невідушча,*
*аб вузлы каранёў спатыкаецца сонна*
*і раніць сляды.*
*Цемра думкі мае, бы гарэхі мудроты,*
*расколвае-лушчыць:*
*кім я ёсць і навошта,*
*адкуль я спяшаю й куды.*

*А бяссонне маўчыць. Як агонь,*
*ператвораны раптам у прысак.*
*Так нямотная нетра аднойчы*
*мой зморany шлях праглыне,*
*не пакінуўшы тут ані знаку,*
*ні згадак, ні воблічных рысак,*
*на сумежжы пачатку і краю, дзе й хата*
*бясслаўна забудзе мяне.*

*Можа, толькі снягі. Можа, толькі*
*над садам завеі пялёсткаў*
*на зямлі, дзе ўзвінілася*
*кволаю птахай надзея мая,*
*у сутонні адлёту, праз цішу*
*і плыні ўсяленскае плёскат*
*заварожаць вакно, праз якое*
*таропка ўглядалася я*
*ў неасяжную далеч, скуль падалі*
*вусцішна жальныя знічкі*
*у чаканні світання, калі*
*схаладалая смутная Выш,*
*перад самай сустрэчай з каханнем,*
*значэўку цяплее сунічна...*
*І аднекуль з правечнасці*
*Ты па-анёльску ляціш.*

*Дзе Ты быў, калі шкрэблася*
*роспачна ў сэрца, спаміны і дзверы*
*адзінота сірочая ў чорнай,*
*бяздоннай, як вір, немаце,*
*калі цэлыя эры ўцяскаліся*
*ў шчыльныя стосы паперы —*
*у спадзеве, што Слова, як зерне,*
*аднойчы з дрымоты ўзрасце?*

*Дзе Ты быў, калі Ўсё распадалася*
*тут на аскепкі смяротна-балесна,*
*калі нават усхліпнуць уплач*
*сцерагліся здранцвела самота мая,*
*калі вырвалі голас чужынцы*
*ў знявечанай, скурчанай песні,*
*калі здрада й мана набіраліся*
*з боязі хіжае моцы ўтрая?*

*Я крычала Табе, пакуль білася*
*ў горле натужна ніціна жывая,*
*пакуль гукі дрыготкія, быццам траву,*
*немата на пакос не сцяла.*
*...Ды Цябе тут няма. Толькі здані.*
*І нехта няўцямна чужыя*
*«страданья» спявае.*
*І ў вагнішчы харобра мільгаюць,*
*з паходняў апаўшы,*
*астатнія яскры святла.*

# Беларуская кніга — аснова адзінства нашай нацыі

## Справаздачны даклад Барыса Пятровіча (Сачанкі) на XVII З'ездзе ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў»

Высокі З'езд!
Шаноўныя ўдзельнікі і госці!
Дарагія сябры і калегі!

Чарговы форум беларускіх пісьменнікаў адбываецца ў знакавы час — 500 гадоў таму наш суайчыннік Францыск Скарына надрукаваў першую кнігу на старабеларускай мове. Гэта была Кніга Кніг — Біблія. Друкаваная па-беларуску, яна стала чацвёртай у свеце — пасля чэшскай, нямецкай, італьянскай і намнога апярэдзіла выхад падобных кніг на ангельскай, французскай, іспанскай, польскай ды іншых мовах. Гэта падзея, якой можа ганарыцца любая еўрапейская нацыя, гэта факт, які можа быць нацыятворным і нацыяаб'ядальным. На жаль, аднымі з першых у свеце займеўшы Біблію на сваёй мове, мы па сёння не маем поўнага кананічнага перакладу яе, які мог бы яднаць усіх беларусаў, незалежна ад веравызнання. Можа, адсюль, як кепская карма, і ідуць вытокі большасці нашых праблемаў, і асабліва самай трывожнай і небяспечнай для існавання нацыі — моўнай?

Летась мы адзначылі 25 гадоў нашай незалежнасці. Калі казаць пра моўную сітуацыю ў краіне, то гэта фактычна былі 25 гадоў стратаў. Такой сітуацыі, якую мы маем цяпер, не было нават у самыя змрочныя часы. Паводле статыстыкі ў незалежнай краіне Беларусь сёння толькі 13 адсоткаў вучняў маюць магчымасць вучыцца па-беларуску, яшчэ пяць гадоў таму было 19, а 25 гадоў таму — больш за 70 адсоткаў першакласнікаў у краіне вучыліся па-беларуску. Колькасць студэнтаў, якія навучаюцца па-беларуску, на ўзроўні статыстычнай памылкі — 0,1 адсотка... Катастрофа? Так, катастрофа. Але статыстыка — хітрая рэч: насамрэч сітуацыя яшчэ горшая, таму што большасць з тых 13 адсоткаў нібыта беларускамоўных вучняў, як і настаўнікаў, што іх вучаць, па-за ўрокамі і на вуліцы размаўляюць у лепшым выпадку на «трасянцы», а часцей па-руску. Бо вакол іх — усё рускае: шыльды, надпісы, аб'явы, тэлебачанне, радыё, газеты... Бо ў іх няма перспектывы: па заканчэнні школы яны вымушаныя будуць паступаць у вышэйшыя навучальныя ўстановы, дзе таксама ўсё па-руску... Як добрую справу, але і як факт роспачы можна ацаніць тое, што ў апошнія гады занепакоілася само грамадства — і пачалі з'яўляцца ініцыятывы па вывучэнні і захаванні мовы кшталту «Мова-нанова», «Мова ці кава». Гэтыя ініцыятывы не падтрымліваюцца дзяржавай, але, дзякуй Богу, і не душацца, як было гэта яшчэ колькі гадоў таму. Аднак, каб канчаткова не згубіць шанец адрадзіць мову, грамадскіх высілкаў мала. Трэба адначасова, разам з дзяржавай, працаваць адразу ў некалькіх накірунках: адчыняць беларускамоўныя групы ў садках і цэлыя садкі рабіць беларускамоўнымі, адчыняць беларускамоўныя класы, школы, гімназіі, ліцэі; уладам трэба прызнаць сваю памылку і вярнуць нарэшце ў Мінск ліцэй імя Якуба Коласа, аддаць яму ранейшы будынак; стварыць цалкам беларускамоўныя плыні і факультэты ў вышэйшых навучальных установах, адкрыць, нарэшце, Нацыянальны ўніверсітэт, дзе ўсе прадметы будуць выкладацца па-беларуску; вярнуць беларускую мову ў раённыя і абласныя газеты, дзе яна спрадвеку была, а таксама — на радыё і тэлебачанне. Вярнуць беларускую мову на вуліцы Мінску: на шыльды, назвы крамаў, каб нашыя госці бачылі, што яны прыехалі ў Беларусь, а не ў нейкую правінцыю суседняй дзяржавы. Забараніць выкарыстанне розных там «яцяў» у назвах на шыльдах. Спыніць дыскусіі наконт таго, ці патрэбная беларускамоўная інфармацыя на ўпакоўках тавараў. Безумоўна, патрэбная, як і казахская ў Казахстане, азербайджанская ў Азербайджане, украінская ва Украіне, а руская ў Расіі...

І не трэба баяцца слова «прымус», якое адразу ж усплыве ў розных каментарах. Бо тое, што адбываецца на працягу не толькі 25 гадоў незалежнасці, а ўсіх 220 гадоў нашага існавання ў расійскай цывілізацыйнай прасторы — гэта больш, чым прымус. Калі мы не спынім гэта, то напоўніцу загучыць больш страшнае слова — генацыд.

Адсюль, з моўнай сітуацыі, вынікае і іншая праблема, якая не можа нас не турбаваць, як пісьменнікаў, як творцаў: зніжэнне цікавасці да чытання, зніжэнне накладаў кніг. Паводле статыстыкі за мінулы 2016 год беларускія выдавецтвы выпусцілі 9581 назву кніг агульным накладам больш за 23,1 мільёна асобнікаў, з іх па-беларуску 1122 кнігі накладам 3,74 мільёна асобнікаў. Лёгка падлічыць, што толькі кожная восьмая-дзявятая кніга па назве была беларускай, а колькасць беларускамоўных выданняў у агульным аб'ёме склала ўсяго 11,7 адсотка. Гэта ўсіх кніг разам з падручнікамі, даведнікамі; што ж тычыцца толькі мастацкай літаратуры, то такую статыстыку дзяржава не робіць. Пэўна, сорамна... Але — зазірніце ў нашыя кнігарні. Там кнігі па-беларуску займаюць ад 3 да 5 адсоткаў і губляюцца ў моры рускамоўных. Пры гэтым чыноўнікі з міністэрства інфармацыі хочуць прыхарашыць сітуацыю, маўляў, наклад кніг па-беларуску ў параўнанні з мінулым годам вырас на 1,6 адсотка, а значыць, робяць яны выснову, — цікавасць да беларускамоўнай літаратуры расце. Вось як: трэба спачатку апусціць ніжэй плінтуса, каб потым ганарыцца мізэрным ростам...

Саюз беларускіх пісьменнікаў некалькі разоў рабіў апытанні па тым, што і як чытаюць нашыя суграмадзяне, якой літаратурай, якімі імёнамі цікавяцца і якія ведаюць. Разумею, што цяпер ва ўсім свеце падае інтарэс да чытання, усё больш часу забірае інтэрнэт, і тым не менш, лічбы, якія мы атрымалі, не могуць не ўражваць. Калі ў 2011 годзе мастацкую літаратуру на беларускай мове чыталі 13,8 адсоткаў, дык усяго праз тры гады ў 2014-м — толькі 5, пяць адсоткаў чытачоў, а 93,7 на рускай... Увогуле не цікавяцца літаратурай па-беларуску, у чым шчыра прызнаюцца 62,3 адсотка. Чаму не чытаюць? 38,7 — адказваюць: таму, што не ведаюць мовы... І нарэшце пытанне, каго з беларускіх пісьменнікаў вы ведаеце? Не чытаеце — проста ведаеце... 69,7 адсотка — не ведаюць нікога. Сярод названых тыя, хто яшчэ ёсць у школьнай праграме — Іван Мележ, Васіль Быкаў, Іван Шамякін... Роля кнігі ў беларускім грамадстве паступова і планамерна зводзіцца на нішто. І гэта ў краіне, якая ад пачатку была літаратурацэнтрычнай, дзе ля вытокаў дзяржаўнасці стаялі літаратары. Такім чынам знішчаюцца асновы нашай дзяржаўнасці, разбураецца адзінства нацыі.

Не раз даводзілася чуць ад некаторых чыноўнікаў: што вы скардзіцеся на сітуацыю, пішыце лепш — і вас будуць чытаць. Блюзнерства... Хто будзе чытаць? Тыя 13 адсоткаў умоўна беларускамоўных вучняў? І што значыць — лепш пісаць? У параўнанні з кім і чым? Але пра гэта крыху далей... Бо спачатку спытаю ў вас: што можа зрабіць у абарону роднай мовы, культуры, кнігі ў такой сітуацыі Саюз пісьменнікаў — недзяржаўная арганізацыя, якая дваццаць адзін год таму была пазбаўленая свайго будынка, сямнаццаць гадоў таму «знятая» з дзяржаўнага фінансавання, у якой пятнаццаць гадоў таму забралі ўсе выданні і якую адзінаццаць гадоў таму увогуле выкінулі на вуліцу... Ужо той факт, што нам удалося захаваць арганізацыю, сваіх сяброў, а апошнім часам і пашырыць нашыя шэрагі, наладзіць выпуск кніг, сваёй перыёдыкі, актывізаваць працу ў рэгіёнах, правесці тысячы прэзентацыяў, сустрэчаў з чытачамі, арганізаваць свае фестывалі, новыя прэміі, конкурсы, урэшце, што самае важнае, не здрадзіць сваім перакананням, захаваць свае прынцыпы і годнасць на працягу гэтых самых 25 гадоў, сведчыць пра нашую моц. Бо паглядзіце, як змянілася ў апошнія гады сітуацыя ў нашай суседкі Расіі. Усе пісьменніцкія арганізацыі, а іх там пяць, і ПЭН-цэнтр, якія былі нібыта дэмакратычнымі, адстойвалі правы на свабоду слова, — цалкам скарыліся дзяржаўнай машыне. Згадайце, як успрынялі нашыя расійскія калегі прысуджэнне Нобелеўскай прэміі за 2015 год Святлане Алексіевіч. Сваю чорную зайздрасць і нянавісць не змаглі прыхаваць нават тыя, каго мы раней паважалі за шчырасць, сумленнасць і смеласць у творчасці. Колькі бруду вылілася ў тыя нобелеўскія дні ў расійскім друку! Дарэчы, ніхто з іх ні разу, мякка кажучы, не пашчуваў сваё кіраўніцтва ў сувязі з сітуацыяй у Беларусі, ва Украіне. Дзе тая расійская інтэлігенцыя, якая была ў Расіі нават у самыя змрочныя царскія, сталінскія ці брэжнеўскія часы? Куды падзеліся тыя творцы, не дысідэнты нават, а проста сумленныя творцы, якіх мы ведалі?




Так, сёння Беларусь мае свайго Нобелеўскага лаўрэата. І мы ганарымся тым. Можа быць, яшчэ не ўсе ўсвядомілі, што гэта азначае, але найперш не ўсвядоміла гэтага нашая дзяржава, якая віншуе з нейкімі сумнеўнымі дасягненнямі ці юбілеямі поп-спевакоў суседняй дзяржавы, а сваіх творцаў не заўважае, як не заўважыла — не павіншавала нават — і з атрыманнем Нобелеўскай прэміі нашай суграмадзянкай... Прайшло амаль паўтары гады ад прысуджэння прэміі, кнігі Святланы Алексіевіч выйшлі на дзясятках моў, у дзясятках краінаў — нават самых экзатычных і далёкіх, толькі не ў Беларусі і не па-беларуску, дзе не выходзілі яны ў дзяржаўных выдавецтвах ужо 20 гадоў. Зноў усё аддаецца на водкуп грамадскасці, якая рыхтуе выхад пяцікніжжа Святланы Алексіевіч на грамадскіх пачатках... А чаго варты той факт, што Святлана Аляксандраўна вымушана была заплаціць падатак з Нобелеўскай прэміі — 197 тысяч еўра. Куды пойдуць гэтыя грошы? Ці прасочыць хто? Сумняваюся, што на дабрачыннасць... Дарэчы, сама Святлана Аляксандраўна патраціла амаль такую ж суму на дапамогу многім людзям і арганізацыям. Аднак ніхто гэтага не ўлічыў.

Але вернемся да нашых надзённых спраў. У цэлым прамінулы справаздачны перыяд, калі параўнаць з папярэднім, прайшоў адносна ціха, без асаблівых мітрэнгаў і экстрэмальных сітуацыяў. Не было таго, што здаралася ў мінулыя гады. Згадаем: 2006 год — спроба ліквідаваць нашае аб'яднанне праз Вярхоўны суд. Няўдалая спроба: Саюз беларускіх пісьменнікаў стаў адзінай грамадскай арганізацыяй з больш чым 300 ліквідаваных, якая выйграла суд у дзяржавы. У тым жа годзе — стварэнне праўладнай пісьменніцкай арганізацыі і спроба раскалоць нашыя шэрагі, прымусіць тых, хто працаваў у дзяржаўных установах ды выданнях перайсці ў новаствораны саюз. 2007 год — унясенне сяброў нашай арганізацыі ў так званыя «чорныя спісы» і забарона не толькі публікацыі іх твораў у дзяржаўных выданнях, але і простае згадванне імёнаў. 2008 год — ліквідацыя нашага Літфонда і продаж маёмасці без нашага ўдзелу. 2010 год — ультыматум сябрам нашай арганізацыі, якія працуюць у дзяржаўных установах: альбо вы выходзіце з Саюза беларускіх пісьменнікаў, альбо звальняецеся з працы. 2010–2011 гады — арышт і ўвязненне сяброў нашай арганізацыі Уладзіміра Някляева, Алеся Бяляцкага, Аляксандра Фядуты, Паўла Севярынца пасля чарговых прэзідэнцкіх выбараў...

Так, гэтым разам падобных сітуацый не было. Але казаць, што час прайшоў цалкам спакойна, не выпадае: не была б то нашая любімая дзяржава, каб не стварала праблемаў на роўным месцы. Вось самы апошні, самы свежы прыклад: 19 лютага, у нядзелю, роўна за дзень да заканчэння тэрміну выплаты падатку за дармаедства Міністэрства культуры надрукавала пералік творчых саюзаў Рэспублікі Беларусь, і ў ім мы не ўбачылі наш Саюз беларускіх пісьменнікаў. Ёсць у ім праўладны Саюз пісьменнікаў, ёсць аб'яднанні фатографаў, крытыкаў, народных майстроў... Якімі крытэрамі карысталася міністэрства, калі выключала з ліку творчых найстарэйшую арганізацыю, заснаваную яшчэ ў 1934 годзе Янкам Купалам, Якубам Коласам, Кузьмой Чорным ды іншымі класікамі нашай літаратуры? Што гэта, як не чарговы падзел на сваіх ды чужых і не парушэнне Канстытуцыі нашай дзяржавы? І які прыбытак будзе мець дзяржава ад таго, што назвала дармаедамі некалькі дзясяткаў пісьменнікаў? Ці не большую шкоду яна нанесла сабе, свайму іміджу ўжо самім гэтым падзелам творцаў? Засталося цяпер чакаць судоў над пісьменнікамі, якія працуюць месяцамі і гадамі над творамі і якім дзяржава за гэта не плоціць нават ганарараў. Няўжо нікога не навучыў сусветнавядомы суд над паэтам Іосіфам Бродскім? І што гэта, як

# Беларуская кніга —

не ганьба на ўвесь свет нашай агульнай дзяржавы, якая любіць называць сябе сацыяльнай... Аднак, спадзяюся, што здаровы розум, нарэшце, пераможа, і Міністэрства культуры ці Вярхоўны суд, ці сам прэзідэнт адменяць гэтую ганебную пастанову і спыняць падзел пісьменнікаў на сваіх ды чужых. А добра было б — і правільна! — калі б быў адменены і дэкрэт «аб дармаедстве» цалкам.

У сувязі з гэтым дэкрэтам і зменамі ў пенсійным заканадаўстве нас турбуе яшчэ адзін момант: творчы стаж пісьменнікаў не ўлічваецца ў так званы страхавы стаж, паводле якога і налічваецца цяпер пенсія. Такім чынам пісьменнікі робяцца двойчы дармаедамі. Разумею, што гэта тычыцца малой колькасці творцаў, бо нават у савецкі час, з тымі высокімі ганарарамі, толькі адзінкі, кшталту Уладзіміра Караткевіча, маглі дазволіць сабе нідзе не працаваць. Але калі гэта тычыцца нават адзінак — мы павінны іх абараніць. А таму прапануем заканадаўчым органам пераглядзець артыкул 51 Закона Рэспублікі Беларусь «Аб пенсійным забеспячэнні» і ўлічваць творчы стаж пры налічэнні пенсіі.

Шаноўныя сябры! Нягледзячы на жыццёвыя мітрэнгі і клопаты, ніхто не адмяняе нашай галоўнай задачы і працы: пісаць добрыя творы, працаваць на будучыню Беларусі. Як працавалі тыя, хто пакінуў нас за прамінулыя пяць гадоў. Беларуская літаратура за гэты час панесла цяжкія, непапраўныя страты. Больш няма ў Беларусі Народных паэтаў. Адышлі ў лепшы свет Ніл Сымонавіч Гілевіч і Рыгор Іванавіч Барадулін, якія віталі ўдзельнікаў мінулага нашага з'езда. Няма больш Народных у Беларусі — і ці будуць увогуле, бо дзяржава цішком адмовілася ад прысуджэння гэтага ганаровага звання... Няма побач з намі Івана Пташнікава, Анатоля Кудраўца, Давіда Сімановіча, Веры Вярбы, Уладзіміра Дамашэвіча, Міколы Арочкі, Лідзіі Арабей, Алы Канапелька, Леаніда Маракова... і дзясяткаў, дзясяткаў іншых пісьменнікаў. Але Саюз — жывая істота, на змену тым, хто адышоў, прыходзяць новыя творцы — такі закон... Прыёмная камісія СБП працавала плённа. Усяго за пяць гадоў прынята ў Саюз 79 чалавек. І гэта прытым, што прыёмная камісія вельмі строга ставілася да кандыдатаў. Бо нам няма чым прывабіць новых сяброў — апроч таго, што іх прыём у нашую арганізацыю з'яўляецца своеасаблівым пропускам у свет прафесіяналаў, прызнаннем за прафесійных творцаў. Сёння ў нас няма тых выгодаў, якія давала сяброўства ў Саюзе ў далёкія ранейшыя гады. На жаль, уступіўшы ў Саюз, цяпер можна толькі нажыць сабе лішнія клопаты — праблемы ў кар'еры, у публікацыі і распаўсюдзе сваіх твораў, у наладжванні сустрэчаў з чытачамі. Аднак за гэтыя пяць гадоў не толькі спыніўся пераход сяброў нашай арганізацыі ў праўладны Саюз пісьменнікаў, а пачаўся зваротны працэс. Вярнуліся ў наш Саюз Раіса Баравікова, Андрэй Федарэнка, Алесь Наварыч, Алена Брава, Валерый Гапееў, Віктар Супрунчук, Любоў Турбіна, Леанід Левановіч і інш. — вядомыя ў Беларусі пісьменнікі, якія асноўнай прычынай свайго вяртання называлі тое, што хацелі б быць сярод сваіх сяброў і сапраўдных творцаў. Трэба адзначыць, што прыняцце вышэйзгаданага дэкрэта №3 і тое, што сябры нашай творчай арганізацыі не залічваліся ў лік дармаедаў, не паўплывала на сітуацыю: тых, хто ўступае ў нашую арганізацыю, не стала больш. У 2013 годзе, да прыкладу, да прыняцця дэкрэта, сябрамі Саюза сталі 33 творцы, а ў 2016-м — усяго 14.

Сама сітуацыя, у якой апынуўся наш Саюз, вымагае таго, каб мы самі думалі і дбалі пра сваю будучыню. А гэта найперш праца з творчай моладдзю, якая стала ці не асноўнай у дзейнасці Саюза. Паколькі ў Беларусі дагэтуль няма спецыялізаванай навучальнай установы, дзе вучылі б маладых літаратараў асновам прафесійнай працы, пяць гадоў таму мы стварылі Школу маладога пісьменніка. Заняткі адбываюцца два разы на месяц, прыязджаюць на іх маладыя творцы з усёй Беларусі. Звычайна мы набіраем на курс 20 чалавек, але бывала і больш — 25–26. Гэта звязана з вялікай запатрабаванасцю Школы і высокім статусам яе ў моладзі. Конкурс на паступленне ў нашую Школу больш, чым на філфакі ды журфакі ўніверсітэтаў: 4–5 чалавек на месца. За гэты час Школу скончыла каля 100 маладых творцаў. Кожны выпуск Школы па выніках вучобы меў магчымасць выдаць зборнік сваіх лепшых твораў. Варта выказаць удзячнасць кіраўнікам школы Алене Казловай і Юліі Цімафеевай, выкладчыкам школы — Людміле Рублеўскай, Ганне Бутырчык, Наталлі Паваляевай, а таксама Наталлі Бабінай, якія, пачаўшы практычна з нуля, змаглі распрацаваць цікавую навучальную праграму. Апроч тэарэтычных і практычных заняткаў у Школе праводзяцца і майстар-класы — сустрэчы з вядомымі беларускімі літаратарамі. Наладжаны і кантакты з падобнымі школамі, якія ёсць у Італіі ды Швецыі. З мінулага года, па просьбе навучэнцаў, дзеля іх далейшага ўдасканалення, быў створаны другі курс у Школе, на якім застаюцца, як мы жартуем, на другі год, лепшыя з лепшых, цяпер ужо з канкрэтнай мэтай: працай над сваёй першай кнігай.

Безумоўна, не ўсе выпускнікі Школы ў перспектыве змогуць стаць пісьменнікамі. Мы не цешым сябе такой думкаю, але бачым, што ў большасці навучэнцаў даволі высокі творчы патэнцыял, некаторыя з іх пасля выпуску ўжо маюць свае кнігі. Тут будзе дарэчы сказаць пра кнігі. Некалькі гадоў таму мы заснавалі спецыяльную бібліятэчку для пачынаючых «Пункт адліку», у якой ужо выйшла 19 кніг аўтараў-дэбютантаў, а таксама тры зборнікі выпускнікоў Школы, у якіх надрукавана каля 100 маладых творцаў. Яшчэ адзін накірунак дзейнасці па падтрымцы і выяўленні маладых літаратараў — конкурсы. Яны праводзіліся штогадова ў розных жанрах: паэзія, проза, крытыка, публіцыстыка, нон-фікшн. Конкурсы прысвячаліся памяці вядомых творцаў: Янкі Маўра, Антона Луцкевіча, Аляксандра Уласава... Удзел у конкурсе брала розная колькасць моладзі — ад менш чым 20-ці ў конкурсе крытыкаў да больш чым 130-ці ў конкурсе на лепшы паэтычны твор. Дзеля ўганаравання пераможцаў мы шукалі і знаходзілі спонсараў, праводзілі вечарыны, лепшыя творы друкаваліся ў нашых выданнях — часопісе «Дзеяслоў» і «Літаратурнай Беларусі».

Другі важнейшы накірунак дзейнасці Саюза пісьменнікаў — аднаўленне працы з рэгіёнамі і ў рэгіёнах. У пяці абласцях — ва ўсіх, апроч Мінскай — у нас створаны і дзейнічаюць абласныя аддзяленні. Усяго ў рэгіёнах жыве і працуе 171 сябар нашай арганізацыі. Самая буйная філія ў Брэсце, самая малакалькасная, бо была адноўленая толькі ў 2012 годзе, — Магілёўская. Так, яна самая маладая, але і самая актыўная. І тут трэба аддаць належнае старшыні аддзялення Міколу Яцкову, які здолеў з'яднаць усіх творцаў, што жывуць у вобласці, арганізаваць штомесяцовыя сустрэчы з чытаннем твораў і абмеркаваннем іх, выпускам свайго бюлетэня. У кожным аддзяленні ёсць свае лідэры, вакол якіх гуртуюцца пісьменнікі, якія з'яўляюцца першымі памочнікамі і надзейнай апорай кіраўнікоў... На Брэстчыне ў новаабранага старшыні аддзялення Міколы Аляхновіча — гэта Лявон Валасюк, Мікола Аляксандраў, Вадзім Жылко, Мікола Папека, Раіса Раманчук, Аляксей Корнеў, на Віцебшчыне ў Анастасіі Лазебнай — Франц Сіўко, Ірына Жарнасек, Лера Сом, Міхась Мірановіч, на Гомельшчыне ў Анатоля Бароўскага — Яўген Сергіеня, Аляксандр Бардоўскі, Вадзім Болбас, Генадзь Лапацін, на Гродзеншчыне ў Валянціна Дубатоўкі — Аляксей Пяткевіч, Ала Петрушкевіч, Станіслаў Суднік, Юрка Голуб, на Магілёўшчыне ў Міколы Яцкова — Яраслаў Клімуць, Віталь Еўмянькоў, Міхась Булавацкі, Тамара Аўсянікава, Сяргей Украінка... Прашу прабачэння ў прысутных за няпоўны пералік — бо згадаць усіх, каго варта назваць, зразумела, немагчыма, і кожны раз трэба дадаваць: «і іншыя»...

Усе аддзяленні рыхтавалі гадавыя альманахі — своеасаблівыя творчыя справаздачы за год. За прамінулы перыяд выйшла 5 брэсцкіх альманахаў, па чатыры гомельскіх, гродзенскіх і магілёўскіх, і тры віцебскія. Варта адзначыць, што такога раней не было. Выдаваліся альманахі, але раз на дзесяць гадоў, і кожны з іх стаў рарытэтам і гонарам мясцовых пісьменнікаў. А тут — фактычна перыядычнае выданне. Мы сумняваліся: ці хопіць дзеля гэтага творчых сілаў? Аказалася — не толькі хапіла: альманахі сталі тым падмуркам, які яднае ды актывізуе працу і саміх аддзяленняў. Кожны альманах шырока рэкламуецца ў абласцях, кантакты з мясцовымі ўладамі дазволілі праводзіць сотні сустрэчаў з чытачамі. Прэзентацыі гомельскага альманаха «Палац» праходзілі ў знакамітым гомельскім Палацы, віцебскай «Ратушы» — у Ратушы, гродзенскага «Новага замка» — у Новым замку... Вітаем мы і ініцыятывы па правядзенні мясцовых фестываляў, конкурсаў, прэміяў, па выданні кніг сваіх сяброў. Абласныя аддзяленні сталі актыўней кантактаваць са сваімі суседзямі з Украіны, Расіі, Польшчы і Летувы, выпускаць сумесныя зборнікі, рабіць узаемапераклады.

Шаноўныя сябры! Без кніг — няма творцы. Ненадрукаваныя творы — як ненароджаныя дзеці... Больш за тое, пакуль яны не апублікаваныя — «трымаюць» творцу і не даюць ісці далей, працаваць, развівацца... У нашай краіне засталіся дзяржаўныя выдавецтвы. Але, на жаль, не для сяброў нашага Саюза. У гэтай зале прысутнічаюць, пэўна, адзінкі, у каго кнігі выйшлі за кошт дзяржавы. У асноўным — у старэйшых літаратараў у так званай «Школьнай бібліятэцы». Для абсалютнай большасці пісьменнікаў нашага аб'яднання дзяржаўныя выдавецтвы зачыненыя...

На нашых з'ездах вы чулі шмат абяцанняў, маўляў, прыносьце рукапісы — і мы іх надрукуем. Пяць гадоў таму, з гэтай трыбуны, ніхто нічога нікому не абяцаў, ведаючы, у якіх цяжкіх умовах мы знаходзімся. Аднак, разумеючы важнасць гэтай задачы, мы вырашылі самі шукаць сродкі на выданне кніг. І вось вынік: пры Саюзе створаны некалькі кніжных бібліятэчак, у якіх друкуюцца кнігі нашых сяброў. У «Кнігарні пісьменніка» за апошнія пяць гадоў выйшла 74 кнігі, у «Пункце адліку» — 19, у серыі для дзетак «Каляровы ровар» — 13, у бібліятэчцы часопіса «Прайдзісвет» — 8, у бібліятэчцы часопіса «Дзеяслоў» — 6. Усяго разам выйшла сто дваццаць кніг. Фактычна ў кожнага чацвёртага з сяброў СБП у той ці іншай серыі выйшлі кнігі. Прычым перавагу мы аддавалі пісьменнікам з рэгіёнаў, з абласных аддзяленняў і жанчынам, разумеючы, што ім выдаць свае кнігі ў сённяшніх умовах найцяжэй. Ніколі раней Саюз пісьменнікаў не выдаваў такой колькасці кніг сваіх сяброў. Разумею, што гэта мала, што большасць падумала пра сябе... Аднак, давайце парадуемся, што гэта сёння ўвогуле стала магчымым.

Дадам яшчэ, што пры спрыянні СБП за гэты час выйшла 25 электронных кніг і 7 аўдыёкніг. Гэта новая для нас справа, але мы будзем яе пашыраць. У сувязі з выданнем аўдыёкніг Васіля Быкава «Пакахай мяне, салдацік», «Бліндаж» і «У тумане» Саюз беларускіх пісьменнікаў і прастора Kniharnia.by прэзентавалі новы аўдыёпраект «Лета з Быкавым» і прадставілі гэтыя кнігі на бясплатнае спампаванне ў папулярных аўдыёфарматах. Тэксты агучылі акцёры Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы.

Але вярнуся да друкаваных кніг. Сярод іх не было выпадковых. Кожная па-свойму адметная і заўважаная чытачамі. Шмат з іх наміналіся на розныя прэміі, траплялі ў шортлісты. Варта згадаць найперш кнігі Віктара Казько «Час збіраць косці», Таццяны Барысік «Жанчына і леапард», Алеся Пашкевіча «Рух», Валянціны Аксак «Дзікая сліва», Міхася Скоблы «Саркафагі страху», Людмілы Рублеўскай «Сутарэнні Ромула», Анатоля Івашчанкі «Аналогія», Кацярыны Оаро «Сарочае радыё», Уладзя Лянкевіча «70 адсоткаў вады» і многія іншыя...

Мы ганарымся тым, што друкуюцца і выходзяць кнігі нашых аўтараў з нашай дапамогай. Але згадаем тут і пра наклады гэтых кніг. У асноўным — 200–400 асобнікаў паэзія, 300–500, у рэдкім выпадку 1000 — проза і столькі ж дзіцячая літаратура. Адну з асноўных прычынаў кожны можа назваць адразу, яна навідавоку: сітуацыя з мовай. Але не трэба адкідваць і іншую: дзяржаўны манапаліст «Белкніга» не дужа ахвотна бярэ на распаўсюд кнігі незалежных выдавецтваў. І прадавацца яны могуць толькі ў Мінску ды, у лепшым выпадку, у абласных цэнтрах. У раёны ж практычна не трапляюць. У Мінску — у асноўным у незалежных кнігарнях, якіх не так і шмат, ды ў незалежных распаўсюднікаў, якіх таксама можна пералічыць на пальцах адной рукі. Што ж тычыцца бібліятэк, то нашыя кнігі амаль зусім не даходзяць туды. Дырэктары бібліятэк, нават калі ў межах пэўнай акцыі мы прапануем ім нашыя кнігі бясплатна, каб хоць такім чынам яны траплялі да чытачоў, адмаўляюцца браць іх. Адсюль і зніжэнне накладаў.

Захаваць дасягнутае і паціху-патроху развіваць новае — вось галоўны прынцып рэдакцыйна-выдавецкай дзейнасці СБП. У 2002 годзе мы страцілі ўсё, што мелі. Не па сваёй, вядома, волі, так зрабіла дзяржава. Для маладзейшых, па трапным вызначэнні Сяргея Іванавіча Законнікава, так званая «касцянізацыя» літаратурна-мастацкіх выданняў ужо амаль нічога не гаворыць. А гэта быў адзін з першых выклікаў нашаму Саюзу. Мы выстаялі. І вось ужо 15 гадоў выходзіць часопіс «Дзеяслоў», дзевяць гадоў мы маем свой газетны дадатак «Літаратурная Беларусь», — за што вялікі дзякуй светлай памяці Аляксею Сцяпанавічу Каралю і цяперашняму рэдактару штотыднёвіка «Новы час» Аксане Мікалаеўне Колб. У сярэднім за год у часопісе і газеце друкуецца больш за дзвесце аўтараў са сваімі мастацкімі творамі — раманамі, аповесцямі, апавяданнямі, вершамі, крытычнымі, гістарычнымі, літаратуразнаўчымі артыкуламі. Разумеем, што адна газета і адзін часопіс — мала для сотняў сяброў Саюза, улічваючы, што для абсалютнай большасці такія агульнадзяржаўныя выданні, як «Полымя», «Маладосць», «Нёман», «Бярозка» ды іншыя — зачыненыя. Аднак маем тое, што маем. Зрэшты, за апошні час з'явіліся і новыя выданні — бюлетэнь «Кніганоша», часопіс для дзяцей «Гарбузік», ТБМ выдае часопіс маладых літаратараў «Верасень», дзе друкуюцца ў асноўным творы сяброў нашага Саюза. Дадам яшчэ, што пачаў выходзіць і гадавік «Кніганоша» на англійскай мове, які рассылаецца з мэтай знаёмства замежных выдаўцоў з найноўшымі беларускімі кнігамі.

# аснова адзінства нашай нацыі



Урачысты сход Рады СБП з нагоды 80-годдзя арганізацыі. Чэрвень 2014 г. Фота А. Казловай

Усё згаданае — папяровыя выданні. Аднак усё больш важкую і важную ролю ў нашым жыцці пачынае адыгрываць інтэрнэт. У той сітуацыі, у якой мы апынуліся, калі абсалютнай большасці пісьменнікаў фактычна няма доступу да дзяржаўнага радыё і тэлебачання, мы асаблівае значэнне надаем нашаму сайту. Сайт СБП абнаўляецца кожны дзень (у сярэднім з'яўляецца ад 5 да 7 навінаў, аўтарскіх і перапостаў). Але наш сайт — не інфармацыйны, гэта сайт арганізацыі. Таму асноўная ўвага надаецца асвятленню падзеяў, што адбываюцца ў нас — вечарынаў, юбілеяў, выступаў, выхаду новых кніг ды інш. СБП мае афіцыйныя старонкі ў Facebook, Vkontakte, Twitter, Livejournal. У Фэйсбуку мы маем больш 4 200 падпісчыкаў і больш за тысячу Vkontakte.

Пад крылом нашай арганізацыі працуе электронны часопіс перакладной літаратуры «Прайдзісвет», вакол якога аб'ядналіся лепшыя перакладчыкі. Штогод выходзіць мінімум два нумары электроннага часопіса, дзе друкуюцца пераклады з дзясяткаў моў свету на беларускую. Такім чынам ёсць магчымасць друкаваць свае пераклады і расці прафесійна ў маладых перакладчыкаў… Ужо некалькі гадоў пры СБП працуе таксама інтэрнэтнае «Літаратурнае Радыё», дзе сёння можна пачуць галасы больш чым 90 беларускіх творцаў розных узростаў, якія самі агучылі свае творы.

Шаноўныя сябры! Не раз даводзілася чуць зварот да пісьменнікаў: дайце сваю «Вайну і мір»! Нібыта менавіта гэткага твора чакаюць ад пісьменнікаў чытачы. Кожная літаратура — самадастатковая. У кожнай літаратуры свае геніі і свае аўтарытэты. Не абдзеленая імі і сучасная беларуская літаратура. У апошнія гады высокія і прэстыжныя еўрапейскія прэміі за свае кнігі, апроч Святланы Алексіевіч, атрымлівалі Уладзімір Арлоў, Ігар Бабкоў, Уладзімір Някляеў… Дарэчы, за апошнія 15 гадоў ад Беларусі намінантамі на Нобелеўскую прэмію былі таксама Васіль Быкаў, Рыгор Барадулін, Алесь Разанаў, Уладзімір Някляеў. Такога шырокага прадстаўніцтва і прызнання не мела ні адна краіна-суседка.

Беларуская літаратура робіцца ўсё шырэй вядомай у свеце дзякуючы перакладам на іншыя мовы. Мы можам ганарыцца, што за прамінулыя пяць гадоў па-ангельску выйшлі кнігі Васіля Быкава, Алеся Адамовіча, Наталкі Бабінай, Вальжыны Морт, Віктара Марціновіча; па нямецку — Алеся Разанава, Артура Клінава, Зміцера Вішнёва, Віктара Марціновіча, Алены Брава; па-польску — Уладзіміра Арлова, Уладзіміра Някляева, Віктара Сазонава, Ігара Бабкова, Міхася Андрасюка; па-шведску — Дзмітрыя Строцава, Андрэя Хадановіча, Дзмітрыя Плакса, Артура Клінава; па-ўкраінску — Андрэя Хадановіча, Алеся Пашкевіча, Наталкі Бабінай… Як бачыце, у гэтым спісе няма згадкі пра пераклады кніг нашых аўтараў на рускую мову. Гэта тэндэнцыя апошняга часу. Калі і выходзілі кнігі беларускіх аўтараў па-руску ў гэты перыяд, дык у Беларусі, альбо калі ў Расіі — дык не сучаснікаў, а ў асноўным нашых класікаў: Васіля Быкава, Уладзіміра Караткевіча, Алеся Адамовіча… Аднак, друкуючы, да прыкладу, творы Васіля Быкава, у розных бібліятэчках кшталту «Русская военная книга», выдаўцы нават не пазначалі, што гэта пераклад з беларускай, залічваючы Васіля Быкава ў лік расійскіх пісьменнікаў… На жаль, з кожным годам нашыя сувязі з суседняй рускай літаратурай і пісьменніцкімі саюзамі Расіі звужаюцца і зьбядняюцца.

На жаль, не можам пахваліцца пашырэннем нашай супрацы і з беларускімі дзяржаўнымі ўстановамі. Стала ўжо кепскай традыцыяй не запрашаць Саюз беларускіх пісьменнікаў да ўдзелу ў Мінскім кніжным кірмашы. Там правіць рэй Саюз праўладны. Але апошнім часам мы пастаянна ўдзельнічаем у кніжных кірмашах у Франкфурце на Майне, Гётэборгу, Варшаве, Львове, Вільні, Кіеве, Беластоку. Да прыкладу, у мінулым годзе была распрацавана і праведзена асобная кампанія па рэкламе кніг беларускіх аўтарак. На кніжных кірмашах у Гётэборгу, Варшаве, Львове, Франкфурце свае кнігі прадстаўлялі Валянціна Аксак, Алена Брава, Наста Кудасава, Марыя Роўда, Тацяна Скарынкіна. І ўсё гэта рабілася і робіцца абсалютна без удзелу беларускай дзяржавы. На жаль, у нас няма такой структуры, як Польскі альбо Шведскі інстытуты, ці Інстытут Гётэ, якія займаюцца прэзентацыяй і рэкламай лепшых кніг, што выйшлі ў іхніх краінах. А даўно прыйшоў час стварыць і ў нашай краіне падобную арганізацыю, якая займалася б не толькі прэзентацыяй і выданнем лепшых беларускіх кніг, але і арганізацыяй курсаў па вывучэнні беларускай мовы. Бо вялікая наша бяда на сёння — тое, што вельмі мала ёсць у Еўропе і свеце знаўцаў беларускай мовы і перакладчыкаў з яе. Фактычна, адзінкі, і самі па сабе, без удзелу дзяржавы, яны не з'явяцца…

Высокі з'езд! Вяртаючыся да «задачы» напісаць значны твор, скажу, што вялікае бачыцца на адлегласці і не заўсёды сучаснікі маглі годна ацаніць створанае пісьменнікамі. Не буду прыводзіць гістарычныя прыклады, як часам успрымалася тое, што сёння лічыцца класікай. Разгляд створанага за гэтае пяцігоддзе нашымі пісьменнікамі пачну з буйнога жанру — раманаў. Просты пералік самага заўважанага крытыкамі і чытачамі з надрукаванага: «Назаві сына Канстанцінам» Леаніда Дайнекі, «Перад Патопам» Эрнэста Ялугіна, «Рурыкавічы і Рагвалодавічы» Генрыха Далідовіча, «Золата забытых магіл» Людмілы Рублеўскай, «Аўтамат з газіроўкай з сіропам і без…» Уладзіміра Някляева, «Сімъ победиши» Алеся Пашкевіча, «Праклён» і «Ноч Цмока» Валеры Гапеева, «Паўночны вецер для спелых пладоў» Юры Станкевіча, «Грэх» Алеся Усені, «Чорны кот» Валерыя Казакова, «Завярнуць гештальт» Макса Шчура, «Рай даўно перанаселены» Алены Брава, «Воляй абраны» і «Кузня» Анатоля Бароўскага, «План Бабарозы» Паўла Касцюкевіча, «Цана Еўропы, або Гісторыі Вільмана» Славаміра Адамовіча, «Сфагнум», «Мова», «Возера радасці» Віктара Марціновіча, «Багуславія» Сяргея Астраўца, «Шклатара» Артура Клінава…

Сапраўднай падзеяй сталі кнігі прозы Марыі Роўды «Клінічны выпадак, альбо Дарэмныя ўцёкі», Андрэя Федарэнкі «Вёска» і «Сечка», Сяргея Абламейкі «Дом літаратара», Сяргея Дубаўца «Сіні карабель у блакітным моры плыве», Алеся Пашкевіча «Рух», Міколы Захаранкі «І тады ўдарыў бом», Уладзіміра Сцяпана «Адна капейка», Алы Петрушкевіч «Пра тое, што люблю», Лявона Вольскага «Краіна Міларусь», Паліны Качатковай «Матылі», Леаніда Маракова «Непамяркоўныя», Вінцэся Мудрова «Багун»…

У жанры аповесці плённа працавалі Уладзімір Арлоў, Віктар Карамазаў, Леанід Дранько-Майсюк, Алена Брава, Міхась Зізюк, Франц Сіўко, Алесь Паплаўскі, Уладзіслаў Ахроменка, Зміцер Вішнёў, Аляксей Філатаў, Віталь Еўмянькоў, Дзмітрый Падбярэзскі.

У жанры апавядання ў нас найбагацейшыя традыцыі, і сёння ў ім працуюць дзясяткі найцікавых празаікаў, якімі можа ганарыцца любая літаратура: Вінцэсь Мудроў, Уладзімір Сцяпан, Андрэй Федарэнка, Адам Глобус, Анатоль Бутэвіч, Уладзімір Сіўчыкаў, Сяргей Вераціла, Алесь Наварыч, Ігар Сідарук, Максім Клімковіч, Валянцін Дубатоўка, Вячаслаў Лапцік, Андрэй Паўлухін, Тацццяна Будовіч-Барадуля, Павел Ляхновіч, Галіна Багданава, Сяргей Абламейка, Лявон Вольскі, Уладзімір Міхно, Павел Касцюкевіч, Наталка Харытанюк, Міхась Андрасюк, Ева Вежнавец, Мікола Ільючык, Сяргей Рублеўскі, Уладзіслаў Ахроменка, Наталка Бабіна, Марыя Вайцяшонак, Юры Несцярэнка, Севярын Квяткоўскі, Віктар Сазонаў, Мікола Ільлючык… І іншыя, і іншыя, і іншыя…

Асобна назаву маладзейшых празаікаў, тых, хто ўжо годна пра сябе заявіў, і тых, хто толькі ідзе ў літаратуру ды робіць першыя крокі ў прозе: Ксенія Шталянкова, Кацярына Оаро, Алена Казлова, Марына Яўсейчык, Зараслава Камінская, Кася Дземанчук, Андрэй Пакроўскі.

З часоў Купалы, Коласа, Багдановіча, Дубоўкі, Танка — Беларусь заўсёды ганарылася сваёй паэзіяй, якая традыцыйна мела грамадзянска-патрыятычнае, нацыянальна-асветніцкае, узнёсла-лірычнае гучанне. Ідуць гады, але задачы літаратуры і паэзіі ў прыватнасці не змяняюцца. Хіба дадаецца больш пранікнёнасці ў галасах паэтаў, асабліва жанчын, ды моладзь смялей ідзе на эксперымент, часам зусім адыходзячы ад сілаба-тонікі да белага верша і верлібра. Пра гэта сведчаць кнігі і публікацыі ў газетах і часопісах нашых паэтаў Анатоля Вярцінскага, Раісы Баравіковай, Сяргея Законнікава, Васіля Зуёнка, Уладзіміра Някляева, Алеся Разанава, Уладзімера Арлова, Леаніда Дранько-Майсюка, Сяргея Панізніка, Алеся Каско, Галіны Каржанеўскай, Дануты Бічэль, Васіля Жуковіча, Юркі Голуба, Фелікса Баторына, Ірыны Багдановіч, Валерыя Дубоўскага, Сержука Сыса, Людкі Сільновай, Генадзя Лапаціна і многіх-многіх іншых, — а таксама маладзейшых паэтаў: Ірыны Хадарэнка, Усевалада Сцебуракі, Анатоля Івашчанкі, Вольгі Гронскай, Алеся Емяльянава-Шыловіча, Сяргея Прылуцкага, Анхелы Эспінасы Руіс, Вікі Трэнас, Юліі Цімафеевай, Тацяны Нядбай, Антона Рудака…

Заўважнай з'явай у сучаснай беларускай паэзіі сталі новыя зборнікі Леаніда Галубовіча «Поўня», Насты Кудасавай «Маё невымаўля», Уладзіміра Някляева «Проста вершы», Аксаны Спрынчан «ЖываЯ», Сяргея Украінкі «9 гранаў», Наталлі Русецкай «Каштаны ў кішэнях», Міхася Скоблы «Камізэлька для месяца», Усевалада Сцебуракі «Бег па самаадчуванні», Анатоля Івашчанкі «Хай так», Анатоля Брусевіча «Апошні дзень», Алены Ігнацюк «Будзе ўсё наадварот», Міколы Кандратава «Кроплі дажджу».

І старэйшыя, і маладзейшыя творцы шукаюць новыя шляхі ў паэзіі, каб паўней перадаць свае адчуванні. Па-іншаму, з новымі запамінальнымі фарбамі загучалі ў апошнія гады вершы Аксаны Данільчык, Валянціны Аксак, Рыгора Сітніцы, Віктара Яраца, Алеся Клышкі, Валерыі Куставай, Васіля Жуковіча, Лявона Валасюка, Марыі Баравік, Анатоля і Васіля Дэбішаў, Тамары Аўсяннікавай, Антаніны Хатэнка, Ярыны Дашынай, Людмілы Паўлікавай-Хейдаравай, Валянціны Осіпавай, Сяргея Панізніка, Марыны Наталіч, Веры Буланды, Ларысы Раманавай ды іншых.

Прыемна ўсведамляць, што беларуская паэзія жыве і развіваецца далёка за межамі нашай краіны. З Польшчы радуюць сваімі цудоўнымі творамі Алесь Барскі, Ян Чыквін, Віктар Швед, Надзея Артымовіч, Міра Лукша, Андрэй Сцепанюк, Юрка Буйнюк і маладая Кася Сянкевіч. Са Швецыі — Дзмітрый Плакс. З Украіны — Іна Снарская. З Летувы — Алег Мінкін. З ЗША — Сяржук Сокалаў-Воюш.

Усё мацней і паўней заяўляе пра сябе не толькі ў Беларусі, але і ў свеце паэзія Алеся Разанава, Вальжыны Морт, Андрэя Хадановіча, Веры Бурлак, Віктара Жыбуля, Віталя Рыжкова, Дзмітрыя Дзмітрыева, Віктара Слінкі, Дзмітрыя Строцава, Ігара Кулікова, Іллі Сіна, Віктара Сямашкі, Вольгі Гапеевай ды дзясяткаў іншых — найперш маладзейшых — літаратараў.

За апошнія гады без дзяржаўнай дапамогі мы маем па-беларуску анталогіі сучасных украінскай, літоўскай, латвійскай, аўстрыйскай, шведскай, польскай, амерыканскай, грузінскай, кітайскай літаратур, рускай рок-паэзіі, маем у перакладзе на беларускую мову кнігі Артура Конан-Дойла, Густава Майрынка, Фрыдрыха Ніцшэ, Оскара Уайлда, Сяргея Жадана, Этгара Керэта, Уладзіміра Высоцкага, Рышарда Капусцінскага, Мішэля Уэльбека, Льюса Клайва Стэйплза і цэлыя бібліятэчкі кніг з польскай літаратуры: Багдана Задуры, Эвы Ліпскай, Галіны Пасвятоўскай, Рышарда Крыніцкага, а таксама чэшскай літаратуры: Міхала Вівэга, Ірэны Доўжыкавай, Багуміла Грабала… Гэта вынік плённай дзейнасці дзясяткаў нашых перакладчыкаў, сярод якіх вылучаюцца адданай творчай працай, без надзеі на шчодрае ўганараванне, — Васіль Сёмуха, Лявон Баршчэўскі, Уладзімер Арлоў, Анатоль Бутэвіч, Андрэй Хадановіч, Павел Касцюкевіч, Валерый Стралко,

# Беларуская кніга —

Уладзімір Папковіч, Галіна Дубянецкая, Сяргей Сматрычэнка, Алена Таболіч, Дмітрый Плакс, Яўген Бяласін, Уладзімір Сіўчыкаў, Міхась Булавацкі, Зміцер Колас, Арцём Арашонак, а таксама дзякуючы творчай актыўнасці моладзі з суполкі, што згуртавалася вакол інтэрнэт-часопіса перакладной літаратуры «Прайдзісвет».

Асобна варта згадаць і тое, што дзякуючы перакладчыкам мы цяпер маем па-беларуску «Калевалу» (пераклаў з фінскай Якуб Лапатка), «Рыгведу» (пераклаў з санскрыта Ігар Кулікоў) і «Бэўвульфа» (пераклаў са стараангельскай Антон Францішак Брыль). У нашай «Кнігарні пісьменніка» выйшлі два зборнікі Андрэя Хадановіча «Разам з пылам» і Лявона Баршчэўскага «І боль, і радасць» з перакладамі дзясяткаў паэтаў сусветнай велічыні.

З утварэннем пры Саюзе беларускіх пісьменнікаў секцыі літаратуры нон-фікшн ці, па іншаму, літаратуры факту (альбо нявыдуманай літаратуры), ажывілася і дзейнасць аўтараў, якія ствараюць у гэтым жанры. Тут некалькі напрамкаў працы: гістарычна-пазнавальны, мемуарна-літаратуразнаўчы, прыродазнаўча-экалагічны, публіцыстычна-эсэістычны. Вылучаецца гістарычны, у якім працавалі Уладзімер Арлоў (згадаем ягоныя шыкоўныя кнігі «Краіна Беларусь» і «Краіна Беларусь: Вялікае Княства Літоўскае», «Айчына: маляўнічая гісторыя», цудоўна аздобленыя дзякуючы супрацы з вядомымі мастакамі), Наталля Гардзіенка (серыя кніг паводле дакументаў БНР), Сяргей Чыгрын, які выдаў з дзясятак кніг пра сваю родную Слонімшчыну, Міхаіл Валодзін з кнігамі пра Мінск, Леанід Маракоў з серыяй кніг пра рэпрэсаваных беларускіх літаратараў, мастакоў, святароў, культурных і дзяржаўных дзеячаў, медыкаў і найважнейшай ягонай працай –двухтомнікам пра «Галоўную вуліцу Мінска», — праспект Незалежнасці, а таксама кнігі, якія выйшлі ў серыі «Радыё Свабода»: Зміцера Бартосіка, Валера Каліноўскага, Сяргея Дубаўца, даследаванні Анатоля Трафімчыка, Генадзя Сагановіча, Андрэя Янушкевіча, Алеся Краўцэвіча, Язэпа Янушкевіча, Рычарда Бялячыца, Аляксея Белага і многіх іншых.

Атрымаў сваё далейшае развіццё і адзін з самых запатрабаваных сёння жанраў і самых чытаных — эсэістыка. Часта ён мяжуе з так званай блогавай літаратурай і адгукаецца на самыя надзённыя праблемы нашага жыцця. Тут варта найперш назваць Міхася Скоблу, Сяргея Астраўца, Арсена Ліса, Уладзіміра Сіўчыкава, Алеся Гібка-Гібкоўскага, Аляксандра Лукашука, Уладзіміра Мароза, Алеся Бяляцкага, Сяргея Ваганава, Аляксандра Тамковіча, Паўла Севярынца, Ціхана Чарнякевіча, Ірыну Багдановіч, Уладзіміра Ягоўдзіка, Сяргея Харэўскага, Валянціна Акудовіча, Юрыя Несцярэнку, Анатоля Астапенку, Тацяну Скарынкіну.

Адна з самых папулярных у свеце — мемуарная і жыццёапісальная літаратура, на жаль, у нас развітая і прадстаўленая ў меншай ступені. Пэўна, не хочуць беларусы раскрываць, выносіць у шырокі свет сваё жыццё, жыццё сваіх блізкіх і знаёмых. Найбольш плённа працуе ў гэтым жанры Сяргей Шапран. Варта толькі назваць ягоныя кнігі апошніх гадоў: двухтомавік пра жыццё і творчасць Васіля Быкава, кнігу інтэрв'ю «Тры мяхі дзядзькі Рыгора, альбо сам-насам з Барадуліным», падрыхтаваную ім кнігу ўспамінаў пра Генадзя Бураўкіна «Перадусім Беларусь». Дзеля знаёмства беларусаў з мемуарнай літаратурай нашых папярэднікаў шмат робіць выдавецтва «Лімарыус» і ў прыватнасці Аляксандр Фядута ды Міхась Скобла.

Дзякуючы іх намаганням мы маем магчымасць пазнаёміцца з успамінамі і эпісталярнай спадчынай Зоські Верас, Яўгена Ціхановіча, Мікалая Улашчыка, Ларысы Геніюш, Міхася Стральцова, Васіля Стомы, Янкі Запрудніка, Марыі і Аляксандра Стагановічаў, Міхася Стральцова. З іншых выданняў, якія належаць да гэтай плыні, можна назваць кнігі Уладзіміра Някляева «Знакі прыпынку», Ніла Гілевіча «У віры быцця», Барыса Сачанкі «Пад сузор'ем сярпа і молата», дзённікі ў трох тамах Рыгора Барадуліна, падрыхтаваныя Наталляй Давыдзенка.

Новы штуршок да развіцця беларускай дзіцячай літаратуры далі пераклады са шведскай мовы. За апошні час выйшлі кнігі шведскіх аўтараў Ульфа Нільсана «Найлепшы спявак у свеце», Сары Лундберг «Віта Белая Крэска», Ульфа Старка «Дыктатар», тры кнігі Свена Нурквіста з серыі пра Пэтсана. Асабліва яркай падзеяй стаў выхад кнігі шведскай пісьменніцы Эвы Суса «Снежны чалавек у Мінску». Спадарыня Эва раней выдала кніжку пра снежнага чалавека па-беларуску і пабыла ў нас на прэзентацыях. Ёй так спадабалася Беларусь і яе жыхары, што ў сваёй новай кнізе яна скіравала свайго героя ў Мінск і захацела, каб афармленне кнігі зрабіў беларускі мастак. Саюз беларускіх пісьменнікаў наладзіў адмысловы конкурс, па выніках якога перамагла маладая мастачка Кацярына Дубовік. У Мінску і Горадні прайшлі прэзентацыі гэтай кнігі з удзелам аўтарак.

Адбыўся і спецыяльны конкурс для дзіцячых пісьменнікаў, пераможцы якога Дар'я Вашкевіч і Вольга Гапеева змаглі з нашай дапамогай выдаць свае кнігі. Сярод іншых здабыткаў беларускай дзіцячай літаратуры за гэты перыяд назавем кнігі Андрэя Хадановіча «Нататкі таткі», Аляксея Шэіна «Сем камянёў», Надзеі Ясмінскай «Сем ружаў», а таксама новыя кнігі Міхася Зізюка, Алены Масла, Раісы Баравіковай, Валерыя Гапеева, Стасі Наркевіч, Івана Мельнічука, Пятра Васючэнкі.

І, нарэшце, згадаем пра той творчы спектр, які прафесійна і аператыўна ацэньвае наш літаратурны набытак — пра праблемы ў развіцці сучаснай беларускай крытыкі. Яна ўсё больш сыходзіць у кароткія жанры, а то і ўвогуле ў блогі. Даўно няма шырокіх аглядных артыкулаў, у якіх адсочваліся б агульныя тэндэнцыі ў развіцці і стане літаратуры. Крытыка «пераходзіць» у літаратуразнаўства ці гісторыю літаратуры. Зразумела, адмоўна ўспрымаецца ўжо само слова «крытыка», якое ад пачатку ўтрымлівае нібыта негатыў у стаўленні да твора ці творцы. Хоць гэта зусім не так: ад крытыка чакаецца найперш глыбокі аналіз твора, што патрабуе ўдумлівага, а не павярхнёвага прачытання, добрай адукацыі і пэўнага досведу. Пагодзімся і з тым, што на сёння крытыка — адзін з самых няўдзячных жанраў: сяброў наўрад ці нажывеш сваім артыкулам, а вось ворагаў — дакладна... Мы спрабавалі абудзіць ці вярнуць цікавасць да крытыкі з дапамогай спецыяльных конкурсаў. Прэмія імя Гедройца ды іншыя прэміі і конкурсы таксама ў пэўнай ступені паспрыялі аднаўленню цікавасці да гэтага жанру.

Тым не менш, і ў галіне крытыкі і літаратуразнаўства ёсць поспехі, ёсць імёны, на якія звяртаюць увагу чытачы, да якіх прыслухоўваюцца пісьменнікі. Мы ўдзячныя тым, хто працуе ў гэтых жанрах: Міхасю Мушынскаму, Васілю Жураўлёву, Сцяпану Лаўшуку, Леаніду Галубовічу, Арсену Лісу, Вячаславу Рагойшу, Людміле Сіньковай, Аляксею Пяткевічу, Людміле Рублеўскай, Анатолю Сідарэвічу, Галіне Тычка, Ірыне Шаўляковай, Алe Сямёнавай, Пятру Васючэнку, Алe Петрушкевіч, Івану Штэйнеру, Алесю Бяляцкаму, Сяргею Кавалёву, Алe




Брадзіхінай, Наталлі Якавенка, Анатолю Трафімчыку, Ціхану Чарнякевічу, Ганне Янкута, Марыі Мартысевіч, Маргарыце Аляшкевіч, Алесе Лапіцкай, Марыне Весялуха, Насце Грышчук…

Значную частку працы сакратарыята СБП займалі падрыхтоўка і правядзенне літаратурных фестываляў, прэзентацыяў кніг, вечарынаў памяці і адзначэнне юбілеяў нашых пісьменнікаў. Цяжка нават пералічыць зробленае ў гэтым напрамку. Мы па праву можам ганарыцца паэтычным фестывалем імя Міхася Стральцова «Вершы на асфальце». На яго мы запрашаем паэтаў з усяго свету. За апошнія гады да нас у Мінск прыязджалі творцы з Украіны, Латвіі, Літвы, Швецыі, Новай Зеландыі, Расіі, Эстоніі, Польшчы, Германіі, Ізраіля, Чэхіі, Нарвегіі, Славакіі, а таксама з усіх абласцей Беларусі. Фестываль ператвараецца ў шэраг розных мерапрыемстваў, дзе ёсць магчымасць паказаць сябе кожнаму. Гэта і чытанне новых вершаў, і прэзентацыі новых кніг, і паэтычныя спаборніцтвы-слэмы, і нават «Ноч паэзіі»…

Варта назваць і арганізаваныя намі вечарыны, прысвечаныя памяці Рыгора Барадуліна, Генадзя Бураўкіна, Анатоля Кудраўца, Алеся Адамовіча, Барыса Сачанкі, Ніла Гілевіча, Уладзіміра Караткевіча, Давіда Сімановіча і многіх іншых, а таксама вечарыны памяці пісьменнікаў, бязвінна рэпрэсаваных у сумнавядомыя 30-я гады. Прайшлі дзясяткі юбілейных вечарын, прысвечаных як асобным аўтарам, так і значным літаратурным падзеям. Вылучу адзначэнне 80-годдзя нашай арганізацыі. Да гэтай падзеі мы падрыхтавалі і выпусцілі каляндар «Першапачатак», у якім у фальклорных вобразах былі сфатаграфаваныя нашыя вядомыя пісьменнікі, у тым ліку Рыгор Барадулін як Дамавік, Генадзь Бураўкін як казачнік Бай… Паводле фотаздымкаў, якія зрабіў паэт і фотамайстар Валеры Дубоўскі, прайшла фотавыстава ў Нацыянальным гістарычным музеі. Згадаю таксама вечарыны з нагоды юбілея нашага выдання «Літаратурная Беларусь», з нагоды 70-годдзя ўтварэння Гродзенскага аддзялення СБП, з нагоды 30-годдзя літаратурнага аб'яднання «Тутэйшыя», тыдзень Вярцінскага да 85-годдзя шаноўнага Анатоля Ільіча…

Апроч таго, праводзіліся і міжрэгіянальныя сустрэчы ды сумесныя фестывалі: паэтычны фестываль у вёсцы Маркава на Міншчыне, прысвечаны паэтцы Тацціяне Сапач, свята паэзіі ў Гарошкаве на Гомельшчыне — на радзіме паэта Анатоля Сыса, паэтычны фестываль у Вайцюшках «Салаўё» на Гродзеншчыне, «Вялікае Княства Паэзіі» ў Мінску, у Зэльве — у гонар Ларысы Геніюш, у Белаазёрску– памяці Ніны Мацяш. Мы вітаем таксама з'яўленне цікавых мясцовых ініцыятываў кшталту ўручэння штогадовай «Мядовай літаратурнай прэміі» ў Брэсце, Геніюшаўскіх чытанняў у Каложскай царкве ў Гродне, фестывалю «Пісьмянкоў луг» на Магілёўшчыне і па магчымасці прымаем у іх удзел.

У Мінску і рэгіёнах рэгулярна адбываліся прэзентацыі кніг, літаратурных альманахаў, сустрэчы з аўтарамі, юбілейныя вечарыны, вечарыны памяці. Усяго за справаздачны перыяд прайшло больш за 3000 такіх імпрэзаў у больш чым 130 гарадах і вёсках Беларусі, у якіх узялі ўдзел больш за 200 пісьменнікаў.

Аднак арганізаваць падобнае па-ранейшаму застаецца задачай няпростай. Той ліст, які быў накіраваны ў школы і бібліятэкі ад імя міністэрстваў культуры і адукацыі пра забарону правядзення сустрэч чытачоў з пісьменнікамі нашага Саюза па-ранейшаму дзейнічае. У гэтай справе шмат што залежыць ад пазіцыі кіраўнікоў ВНУ, школ, бібліятэк, музеяў, ад таго, могуць яны ўзяць адказнасць на сябе ці перастрахаваць і забараніць сустрэчу пісьменнікаў з чытачамі. Вельмі часта пасля пытання: «Які Саюз вы прадстаўляеце?» адразу ідзе адмова… На жаль, у Беларусі за апошнія 25 гадоў практычна не з'явілася незалежных асяродкаў, кнігарняў, кавярняў, залаў, будынкаў, дзе можна было б спакойна праводзіць нашыя мерапрыемствы. Такіх, як, да прыкладу, магілёўскае «Кола сяброў». У Мінску, у сталіцы Беларусі, у беларускіх пісьменнікаў фактычна няма месцаў, дзе без праблемаў можна было б наладзіць сустрэчу пісьменніка з чытачамі. Ёсць хіба толькі галерэя «Ў», культурніцкая прастора «Тартак» ды пара незалежных кнігарняў…

Асобна варта сказаць пра развітанні з нашымі творцамі. Гэты клопат апошнім часам лёг цалкам на супрацоўнікаў Саюза. Ці варта згадваць, як няпроста было арганізаваць праводзіны ў апошні шлях Рыгора Барадуліна, Ніла Гілевіча, Генадзя Бураўкіна, Івана Пташнікава і, зусім нядаўна, Леаніда Маракова… Беларуская дзяржава самаўхілілася ад арганізацыі пахавання сваіх лепшых сыноў. Так, вядома, прасцей — назваць творцаў апазіцыйнымі і адвярнуцца ад іх… І атрымліваецца, што апошнім часам вядомейшых літаратараў хаваюць недзе далёка за Мінскам, іх пахаванні губляюцца сярод тысячаў і тысячаў іншых магілаў. На Усходніх могілках цяпер каго толькі не хаваюць, а лаўрэатам дзяржаўных прэміяў, чые творы будуць жыць у вяках, будуць чытаць і вывучаць наступныя пакаленні беларусаў, — месца не знаходзіцца… Нашчадкі нам гэтага не даруюць. Але, спадзяюся, прыйдзе час, і ў Мінску паўстане велічны Пантэон, дзе будуць пахаваныя і куды будуць перапахаваныя найлепшыя сыны і дочкі беларускага народа.

Яшчэ адзін момант варта адзначыць у сувязі з гэтым: захаванне памяці пра нашых знакамітых творцаў. Прайшло амаль чатырнаццаць гадоў пасля смерці Васіля Быкава, а мы дагэтуль не маем у Мінску вуліцы яго імя. Ды што там — няма нават шыльды на доме, дзе ён жыў. Два гады таму, да 90-годдзя з дня

# аснова адзінства нашай нацыі

нараджэння народнага пісьменніка Беларусі пад Мінскам, у Ждановічах, быў адчынены музей Быкава на лецішчы, якое бязвыплатна перадала дзяржаве Ірына Міхайлаўна Быкава. Музей працаваў толькі адно лета — і быў зачынены, і невядома, ці запрацуе сёлета. Дзесяць гадоў ужо зачыненая, стаіць без рамонту знакамітая «Беларуская хатка» — філія музея Максіма Багдановіча, ды і галоўны Музей гісторыі беларускай літаратуры ўжо колькі гадоў на рамонце, экспазіцыі закрытыя. Развальваецца хата-музей Максіма Гарэцкага ў Малой Багацькаўцы, улады ніяк не знойдуць паразумення ў стварэнні музея ў доме, у якім нарадзіўся і жыў Алесь Адамовіч у Глушы...

Мы шматкроць звярталіся з лістамі да Савета міністраў і да гарвыканкамаў па ўшанаванні памяці пісьменнікаў, але атрымлівалі ў адказ толькі адмовы ды адпіскі. Нібыта шлейф так званай апазіцыйнасці цягнецца за нашымі творцамі і пасля іх адыходу. Практычна ні адна прапанова сакратарыята СБП па назве вуліцы ці ўстановы шыльды, адкрыцці музея не была падтрыманая рознага рангу чыноўнікамі.

Шаноўныя сябры! Ніводная літаратура не можа жыць без канкурэнцыі, без спаборніцтва ў добрым сэнсе гэтага слова. Вядома, літаратура — гэта не спорт, дзе ўсё можна вымераць секундамі, метрамі, галамі. Але, тым не менш, крытэрыяў, каб вылучыць той ці іншы мастацкі тэкст, нямала. Таму і арганізуюцца конкурсы на лепшы твор на тую ці іншую тэматыку, таму і з'яўляюцца прэміі. Так сталася, што беларуская дзяржава апошнім часам зусім перастала звяртаць увагу на пісьменнікаў. Фактычна адмененае ўганараванне пісьменнікаў рознымі званнямі, званне народнага пісьменніка апошні раз атрымаў Іван Навуменка дваццаць гадоў таму. Зніклі, быццам і не было, дзяржаўныя прэміі імя Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча... У апошнія гады пісьменнікаў, нават так званых праўладных, няма сярод лаўрэатаў прэзідэнцкай прэміі «За духоўнае адраджэнне». З ініцыятывы Саюза беларускіх пісьменнікаў і Беларускага ПЭН-цэнтра, а таксама з дапамогай спонсараў і мецэнатаў, такіх, як Павел Берагові́ч, узнікла адразу некалькі на сёння прэстыжных прэміяў — імя Ежы Гедройца за лепшы празаічны твор, імя Цёткі за лепшы твор для дзяцей, імя Карласа Шэрмана за лепшы пераклад, імя Максіма Багдановіча за лепшы дэбют у прозе, паэзіі і перакладзе, імя Стагановічаў за лепшы твор у жанры нон-фікшн. Разам з іншымі прэміямі, якія з'явіліся раней, — «Гліняны Вялес» і «Залаты апостраф», яны, і асабліва імя Гедройца і «Дэбют», унеслі той самы дух спаборніцтва ды ажывілі творчую прастору. Мы не дзелім пісьменнікаў на сваіх і чужых. Намінантамі на згаданыя прэміі могуць стаць усе літаратары... Як і ў любой справе, тут таксама з'яўляецца шмат крыткаў і незадаволеных. І гэта не дзіўна: так было заўсёды. Таму хочацца пажадаць арганізатарам прэмій цярпення і не заўважаць папрокаў, а рабіць сваю справу і надалей. Адзначым толькі, што прыемна было бачыць сярод лаўрэатаў прэмій літаратараў, чые кнігі выйшлі ў бібліятэчках Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка», «Пункт адліку», «Каляровы ровар». Прычым былі гады, калі ў шорт-лістах прэміяў большасць складалі менавіта нашыя кнігі. Гэта сведчыць пра тое, што ў гэтых серыях выходзяць сапраўды вартыя і годныя кнігі.

З новых накірункаў дзейнасці нашага Саюза трэба вылучыць працу па абароне аўтарскіх правоў. Дакладней, інфармацыйную і прапагандысцкую працу: што такое аўтарскае права і як яго пісьменнікі павінны прымяняць на практыцы. Вядома, цяжка гаварыць пра гэта ў дзяржаве, дзе ёсць цэнзура, ёсць «чорныя спісы», дзе выдавецтвы не зацікаўленыя ў ажыццяўленні аўтарскіх правоў, бо для іх галоўнае — выдаць кнігу, атрымаць грошы, а далей — трава не расці: хай аўтар сам займаецца распаўсюдам... Выгодная пазіцыя. А што ўжо казаць пра ганарар?.. Нашыя аўтары не бачаць яго... На сайце нашай арганізацыі быў створаны спецыяльны раздзел, прысвечаны аўтарскаму праву. Там можна атрымаць адказы на пытанні: «Што такое аўтарскае права і што яно абараняе?«, «Хто такі аўтар?«, «Якія правы мае аўтар?«, «Як абараняць свае правы?« і інш. Упершыню летась асветніцкія і практычныя мерапрыемствы па аўтарскім праве прайшлі ў рэгіёнах Беларусі. Да правядзення ў якасці партнёра далучылася інтэрнэт-бібліятэка «Камунікат». Семінары прайшлі ў Мінску і ва ўсіх абласных гарадах. На сустрэчах прысутнічалі сябры аддзяленняў СБП, рэгіянальныя журналісты, незалежныя выдаўцы. І хоць знаходзімся мы ў самым пачатку працы па прапагандзе і замацаванні ведаў у захаванні і выкананні аўтарскага права ў Беларусі, наша праца была заўважаная. У 2015-м годзе Саюз беларускіх пісьменнікаў стаў лаўрэатам Прэміі ALIS «Heroes of Copyright 2015» за актыўную дзейнасць у абароне аўтарскага права.

Напрыканцы хачу асобна адзначыць яшчэ адзін момант: увесь час я кажу пра справы, ініцыяваныя Саюзам беларускіх пісьменнікаў, арганізаваныя і праведзеныя намі. Але, лічу, па-за гэтай справаздачай не павінна застацца і тое, што робіцца сябрамі нашага аб'яднання пры мінімальным удзеле Саюза альбо цалкам па ініцыятыве саміх сяброў. А гэта вельмі і вельмі нямала, і гэта таксама наш агульны здабытак. Больш за тое — падобнага раней не было, бо было чаканне дапамогі ад дзяржавы. Як прыклад згадаю толькі кнігавыданне: працу выдаўца і перакладчыка Зміцера Коласа, які разам з Лявонам Баршчэўскім і Андрэем Хадановічам стварылі і ўжо выдалі 15 кніг серыі «Паэты Планеты», працу Уладзіміра Сіўчыкава, Лявона Баршчэўскага, Уладзімера Арлова, Міхася Тычыны, Пятра Васючэнкі па стварэнні і выданні ў выдавецтве «Папуры» серыі «Мая першая беларуская кніга» (выйшла ўжо больш за пяцьдзясят кніг з творамі нашых класікаў), працу Аляксандра Фядуты і выдавецтва «Лімарыус» па выданні мемуарнай літаратуры і альманаха «Асоба і час», працу Глеба Лабадзенкі і Сяргея Шапрана па выданні нецэнзураваных кніг Васіля Быкава і Уладзіміра Караткевіча, працу выдавецтваў «Кнігазбор», «Галіяфы», «Логвінаў», Зміцера Коласа, Віктара Хурсіка. Ці не гэтая актыўнасць незалежных выдаўцоў — згадаем яшчэ і названую вышэй колькасць кніг, выдадзеных нашым Саюзам, — дазволіла чыноўнікам ад літаратуры заявіць, што не так усё і кепска ў Беларусі з выданнем кніг на мове тытульнай нацыі?! Хоць мы на практыцы ведаем, што гэта зусім не так. Праблемаў з выданнем і распаўсюдам беларускіх кніг не меншае. І адна з самых важных: беларускамоўная кніга не можа на роўных спаборнічаць з рускамоўнай. Сабекошт нашых кніг вышэйшы з-за значна меншых накладаў, а таксама з-за агульнай дзяржаўнай палітыкі. Таму мы і прапануем беларускім уладам знізіць для беларускіх выдаўцоў падатак на дадатковую вартасць з 20-ці адсоткаў да 5 ці адмяніць яго зусім, а таксама ўвесці падатак на замежныя кнігі, якія ўвозяцца з мэтай продажу ў Беларусь у памеры 5 адсоткаў, каб атрыманыя сродкі ўкладаць у развіццё беларускай кнігі.

У Саюза беларускіх пісьменнікаў шмат сяброў за межамі нашай краіны. СБП уваходзіць у Еўрапейскую пісьменніцкую асацыяцыю, якая аб'ядноўвае больш за 60 пісьменніцкіх арганізацый Еўропы. СБП таксама з'яўляецца сябрам Асацыяцыі балтыйскіх пісьменнікаў і перакладчыкаў, у якую ўваходзяць творчыя саюзы з дзяржаў, што мяжуюць з Балтыйскім морам. Такім чынам Саюз беларускіх пісьменнікаў не застаецца па-за межамі міжнародных літаратурных працэсаў.

Бадай, самыя цесныя ўзаемаадносіны апошнім часам у нас склаліся са Шведскім саюзам пісьменнікаў. Гэта добрая спадчына, якая дасталася нам ад былога амбасадара Каралеўства Швецыя ў Беларусі Стэфана Эрыксана, якога мы заўсёды з удзячнасцю згадваем. Вельмі шкада, што беларуская дзяржава фактычна забараніла правядзенне ў Беларусі Дзён шведскай літаратуры і культуры, якія арганізоўвала шведская амбасада і шаноўная Марыя Сёдэрберг. Але, тым не менш, штогод на ўзроўні нашых творчых саюзаў адбываюцца дзясяткі розных мерапрыемстваў. Шведскія аўтары прыязджаюць на беларускія фестывалі, даюць майстар-класы ў нашай Школе маладога літаратара, сустракаюцца са сваімі чытачамі. Так — са сваімі чытачамі, бо за апошні час у нас выйшла цэлая бібліятэчка дзіцячых кніг шведскіх пісьменнікаў у перакладзе на беларускую мову.

Дзякуючы супрацы з Саюзам пісьменнікаў Швецыі сябры СБП маюць магчымасць адпачынку ў Доме творчасці на востраве Готланд, які наведала больш за 30 беларускіх пісьменнікаў з усіх рэгіёнаў і Мінска.

Цесныя сувязі ў нас і з творчымі згуртаваннямі беларусаў на Беласточчыне, бо менавіта там самая вялікая беларуская дыяспара. Ладзяцца сумесныя візіты аўтараў, штогадовыя сустрэчы беларускіх і польскіх творцаў на фестывалі «Бязмежжа», сумесныя праекты (кшталту семінараў па аўтарскім праве з бібліятэкай Kamunikat.org). На жаль, паводле заканадаўства мы не можам прымаць грамадзянаў іншых краінаў у сябры нашай арганізацыі, хоць яны беларусы і пішуць па-беларуску. Аднак ёсць магчымасць прыняць іх у ганаровыя сябры. За апошнія гады імі сталі Янка Запруднік, Зінаіда Гімпелевіч, Мікола Нікалаеў, Яўген Вапа, Міхась Андрасюк, Анхела Эспіноза Руіс ды іншыя.

У апошнія гады асабліва цесныя ўзаемадачыненні ў нас склаліся з найбліжэйшым нам суседам, чыю мову мы можам разумець без перакладчыкаў, — з Украінай і з Нацыянальным саюзам пісьменнікаў Украіны. Асабліва актывізаваліся нашыя кантакты пасля памятнага кіеўскага Майдану. Мы з трывогай сачылі за тым, што адбываецца ва Украіне і ўсімі магчымымі сродкамі імкнуліся выказаць салідарнасць з жаданнем украінскага народа захаваць сваю свабоду. У нас прайшло некалькі акцый салідарнасці, пісьменнікі пісалі і прысвячалі свае творы ўкраінскім сябрам. Павялічылася колькасць узаемаперакладаў. Менавіта — узаема. Ва Украіне выходзілі кнігі беларускіх аўтараў, у Беларусі — украінскіх. Упершыню на беларускую мову была перакладзена проза Тараса Шаўчэнкі і да 200-годдзя з дня нараджэння гонару ўкраінскай нацыі выйшаў асобны том яго твораў. З ініцыятывы старшыні Кіеўскай арганізацыі Нацыянальнага саюза пісьменнікаў Украіны Валадзімера Даніленкі ў 2015 годзе выйшла «Анталогія сучаснага беларускага апавядання», у якой надрукаваны творы 30 беларускіх празаікаў. Разам з Кіеўскай пісьменніцкай арганізацыяй мы заснавалі сумесную прэмію «Воін святла» імя Міхася Жызнеўскага — беларуса, які адным з першых загінуў за Украіну на Майдане. Лаўрэатамі гэтай прэміі сталі Анатоль Бароўскі і Міхась Скобла. Пры Саюзе беларускіх пісьменнікаў тры гады таму было створана Таварыства ўкраінскай літаратуры. Узначаліла яго Наталка Бабіна. Таварыства заснавала свой альманах пад назвай «Справа». Выйшла ўжо чатыры яго нумары, прэзентацыі прайшлі ў дзясятках беларускіх і ўкраінскіх гарадоў, а таксама на кніжных кірмашах у Кіеве і Львове...

Беларускія пісьменнікі ўдзельнічаюць ва ўкраінскіх фестывалях, а ўкраінскія ў нашых. А таму нельга абмінуць і падзеі апошняга па часе фестывалю імя Стральцова, падчас якога былі затрыманы вядомы ўкраінскі паэт, госць фестывалю Сяргій Жадан. Яго абвінавацілі ў «тэрарызме» паводле расійскіх спісаў і абавязалі пакінуць Беларусь са штампам у пашпарце з забаронай уезду ў нашую краіну. Пасля своечасовай заявы творчых саюзаў, арганізатараў фестывалю, улады на самым высокім узроўні адмянілі гэтае рашэнне, але розгалас пра яго пайшоў па ўсім свеце...

Шаноўныя сябры! Вярнуся да таго, з чаго пачынаў: да падзеі сусветнага маштабу. У 2016 годзе Саюзам беларускіх пісьменнікаў і Згуртаваннем беларусаў свету «Бацькаўшчына» быў абвешчаны пачатак кампаніі «Пяцісотгоднасць», прысвечанай юбілею беларускага кнігадрукавання. Мы паспелі правесці ў многіх гарадах краіны пазнавальныя, асветніцкія імпрэзы пра значэнне згаданай падзеі ў грамадска-культурным жыцці Беларусі. Аднак толькі асветніцкай працай усё не павінна скончыцца. Безумоўна, з'явяцца новыя даследаванні, прысвечаныя постаці Скарыны, выйдуць новыя кнігі, але — 500 гадоў бывае раз у... пяцьсот гадоў. І ў нас ёсць шанец цяпер замацаваць імя Скарыны ў свядомасці беларусаў назаўсёды. Дзеля гэтага мы прапануем уладам зрабіць некалькі важных крокаў. Першы — перанесці нацыянальны Дзень друку на 6 жніўня, калі і надрукаваў сваю першую кнігу Францыск Скарына; другі — надаць імя Францыска Скарыны Нацыянальнаму аэрапорту «Мінск-2», Нацыянальнай бібліятэцы і некаторым з тых абласных бібліятэк, якія дагэтуль маюць імя Леніна; трэці — час ужо шматлікія вуліцы Маркса, Леніна ды іншых рэвалюцыйных дзеячаў у гарадах і мястэчках краіны называць імёнамі нацыянальных дзеячаў, і пачынаць варта было б з таго, каб у большасці нашых гарадоў з'явіліся вуліцы беларускага першадрукара.

***

Сябры! Пяць гадоў таму я стаяў перад вамі на гэтай трыбуне, разгублены дарэмна, стаяў перад роспачу невядомага наперадзе жыцця, бо цудоўна ўсведамляў, што мяне чакае на гэтай пасадзе, якая і не пасада зусім, а толькі абавязкі. Я тады сказаў, у адрозненне ад сваіх папярэднікаў, што не буду нічога абяцаць. Галоўнае было — захаваць арганізацыю, прымножыць і развіць ужо зробленае. Наколькі гэта ўдалося — меркаваць і ацэньваць вам... А я хачу падзякаваць усім, хто быў гэтыя гады побач са мною, без каго ўсё, пра што казалася ў гэтай справаздачы, ажыццявіць не было магчымым. Перш за ўсё нашаму маленькаму калектыву супрацоўнікаў офіса Саюза, Радзе, нашым сябрам і партнёрам з кампаніі «Будзьма беларусамі», Беларускага ПЭН-цэнтра і ўсім-усім, з кім мы поруч ішлі гэтыя пяць гадоў. Дзякуй!.. Вялікі Дзякуй!!!

**Жыве беларуская літаратура!**
**Жыве Беларусь!**

# Нелюбімая лічба






Альжбета КЕДА

**Што б яна ні рабіла — заўсёды лі́чыць.**

Радочкі градаў, сарваныя яблыкі, слівы, памытыя для салаткі агуркі, памідоры. Каб атрымалася тры, можна чатыры, добра, як пяць. Са школьных гадоў любіць гэтую лічбу. У часы яе працы ў школе і першыя гады ва ўніверсітэце была пяцібальная сістэма. Вельмі любіла ставіць гэтую адзнаку. Яе пяцёркі былі круглыя, прыгожыя, з аздобным штрыхом да сярпочка…

Можа быць і сем. Але ніколі не любіла тое, што паміж імі. Лічыць, а лічбу гэтую мінае. Робіць тое аўтаматычна, не думаючы. Бо асацыюецца ў яе гэтая лічба са здрадай, даносам. Чаго баіцца страшэнна. Як таго, што поўзае. Гідкае, гадкае, гадзіна.

Адкуль у яе гэта? З дзяцінства. З Антанёва. Гэта вёска яе бабулі ў Налібоцкай пушчы. Здавалася б, лясныя антанёўцы не мусяць баяцца гадзюкаў. Дарослыя мо й не баяліся, а малыя не проста баяліся — жахаліся. Памятае, як угледзелі яны з сяброўкамі га́дзіну на сцяжыне ля лесу і лятом ляцелі да сваіх хатаў. Каб хутчэй схавацца, каб не дагнала. Менавіта ад антанёўскае бабулі па кудзелі Марыі Бандарык неаднойчы чула ў дзяцінстве показку пра грахі: калі ўгледзіш гадзіну і не заб'еш, то дададуцца табе 12 грахоў. Калі ж заб'еш — 75 адымецца. Лічбы вар'іраваліся, але нязначна. Ды нават такая спакуса — ачысціцца ад усіх грахоў, ніколі не прымусіла б яе гадзіну забіць. Такая яна была гадкая, страшная. Ратунак толькі праз уцёкі. Каб не бачыць.

А яшчэ гэтая нелюбоў з літаратуры. Заўсёды памятаўся ёй класічны эпізод: га́дзіна паўзе між Ганнаю і Васілём. Мележ выкарыстаў літаратурны прыём, падказаўшы, што прапаўзе між закаханымі гідкае: плёткі, нагавор, той жа данос, што знішчыць іх пачуццё.

Жыццё яна вымярае меркамі літаратурнымі. Бо жыццё чалавечае — хаос, які разляцеўся б у сусвеце без следу. Мо хіба смецце якое недзе бадзялася б. А літаратура, і культура наогул, уклалі ягоныя разрозненыя, разбэрсаныя факты ў рамкі, у вобразы, зафіксавалі, пакінулі іншым пакаленням, абессмяроцілі.

Яна верыць класікам як вышэйшым маральным аўтарытэтам. Зразумела, ведае, што ў жыцці яны былі рознымі. Ды гэта неістотна. Галоўнае, што праз іх творчасць прамаўляе да людзей Неба. А класічная літаратура выкрывае, асуджае здраду. Куды змясціў Дантэ ў «Боскай камедыі» здраднікаў? Так, у пекла. Але і пекла ў яго таксама мае сваю іерархію, дзевяць колаў. Вось жа, здраднікі — у самым страшным, самым апошнім. Бо правіна іхняя найцяжэйшая. На самым дне, у дзявятым коле на страшным ледзяным возеры Кацыт, дзе аддадзены яны на жахлівыя пакуты Дзіту.

Заўсёды згадвае яна нашых айчынных класікаў, іх стаўленне да здраднікаў. Фінал знакамітае Купалавай «Паўлінкі». Чаму падае гераіня, трацячы прытомнасць? Шляхцянка-сялянка, не нейкая кісейная паненка, што ўпадзе, прытомнасць страціўшы, ад слова недалікатнага. Што так узрушыла яе, чаму дзяўчына, «як сноп, валіцца на зямлю»? Да непрытомнасці яе даводзіць здрада, данос. Бо даведваецца, што бацька данёс на Якіма. На яе каханага, што сэрца яе заваяваў пяшчотаю, розумам, досціпам. Хай нават сучасныя даследчыкі (і яна таксама) паназнаходзілі ў вобразе героя шмат чаго, далёка не станоўчага, пачынаючы ад гаваркога прозвішча, што кідае на яго цень, падказвае, якога невысокага палёту ды з якім доўгім языком гэтая птушка.

З вуснаў гераіні, такое выхаванае, такое ласкавае, далікатнае, зрываюцца словы жорсткія, грубыя: «Звяры!!!» Так гідка ёй, што бацька — даносчык.

Вельмі балела вялікаму Паэту, што між людзьмі пануе разлад, страта людскасці, пра што пісаў у драматычнай паэме «Сон на кургане»:

*Людзі!.. Што людзі?*
*Ці ёсць дзе між іх*
*Годны адзін хоць у людзі:*
*Мутнасцяй, трупам нясе ад усіх,*
*Пошасцей поўныя грудзі.*

Нядзіўна, што здраджваюць яны Саму, які скарб дзеля іх шукае, у няроўную схватку з чорнымі сіламі кідаецца, бяздумна, беспадстаўна даносяць на яго, аддаюць на пакуты, на суд няправедны.

Чаму ідзе біцца на смерць з лесніком Васіль Падбярэзны з апавядання Якуба Коласа «Нёманаў дар»? Не проста помсцячы за каханую Ганну, за непрыстойны, грубы шантаж суперніка, што пагражае дзяўчыне, калі не стане ласкаваю з ім. Ідзе біцца, каб не данёс ляснік на Андрэя Зазуляка, які першым капцы казённыя ў Нёман выкідваць стаў. «Данясеш? Не данясеш!» — усё пратэстуе, крычыць у душы героя. Не суперніка ідзе знішчаць смелы хлопец, бо не страшны той яму: верыць у вернасць каханай. Ідзе біцца на смерць з іудам, даносчыкам.

Не абышоў матыў здрады і Ядвігін Ш., які ў апавяданні «Зарабіў» стварыў вобраз даносчыка. Гэта Сцёпка Тацюк, што «любіў, каб яды было, як на Дзяды, але хацеў, каб работы было, як у нядзелю». Таму і знайшоў спосаб зарабіць — данесці. Ягоныя пакуты нагадваюць пакуты першага здрайцы. Праўда, на асіне Сцёпка не засіліўся.

Нават там, у турме, куды нікчэмны герой твора трапляе з-за падставы, няма яму ні спакою, ні шкадавання ад іншых вязняў: «Думаў Сцёпка іх разжаліць сваёй доляй, тым часам — дзіва: злодзеі, рабаўнікі і тыя атрахнуліся ад яго: «Здраднік! Юда! Гад!» — іначай і не адзываліся да Сцёпкі». Тое ж пекла, тая ж іерархія: і тут даносчык у самым незайздросным становішчы. Ім пагарджаюць, яго цураюцца, быццам хворага на заразу.

У рамане-хроніцы «Саветы» гарадзенскага пісьменніка Янкі Трацяка створаны вельмі яскравы вобраз даносчыка Пуценькі, што выконваў гэтую ролю пры ўсіх уладах. Асабліва раскашавацца стаў пасля 39-ага, не хаваючыся рабіў сваю ганебную справу.

Зразумела, што ў часы сталінскага тэрору павуціна даносаў аплятала вельмі многіх, часам невінаватых, добрых людзей. Згадваецца ёй аповесць Лідзіі Арабей «Халодны май», якая калісьці вельмі ўсхвалявала чытачку. Галоўная гераіня Ніна Давыдоўская, сірата пры жывых рэпрэсаваных бацьках. Яна, студэнтка, амаль шчаслівая, бо і каханне сваё першае сустрэла. Але тут нагадалі пра сябе тыя злавесныя сілы, ад якіх ні схавацца, ні ўцячы нікуды нельга было. Дзяўчыне прапанавалі «супрацоўнічаць», даносіць. Ніякага, як падавалася гераіні, выбару ёй не пакінулі: калі «не будзеш з намі супрацоўнічаць — вылеціш з універсітэта». І першае заданне — сачыць за тым, каго яна кахала. Праўдзівая д'ябальская пастка, з якое Ніна ўсё ж выходзіць, не забрудзіўшы сваё сумленне, але страціўшы ўсё каштоўнае, што мела: універсітэт, каханне. Вырашыўшы з'ехаць, каб ніколі не вярнуцца…

А яшчэ пагарда гэтая да здрайцаў перадалася ёй ад Ларысы Геніюш. Нянавісць паэткі да «іудавага племені», лагерных надзорак шматкроць выказана ў «Споведзі», праз паэтычныя творы праходзіць. Верш Ларысы Геніюш «Стукачы» хіба самы яркі прыклад бескампраміснасці паэткі ў стаўленні да здрайцаў, даносчыкаў, якіх яна не проста жорстка асуджала, а лічыла сілай д'ябальскай. Бо здраджваюць людскасці, дабрыні, адкрытасці:

*Самім чортам быць трэба і злом,*
*Рогі чорныя мець і капыты,*
*каб сядзець за гасцінным сталом*
*і выслухваць, вынюхваць, выпытваць!*
*Каб сабраць матэр'ял на данос,*
*яны ў душы залазяць з нагамі,*
*ўсюды сунуць смярдзючы свой нос,*
*найсвяцейшае сэрцу — паганяць.*

Паэтка адмаўляе гэтым нелюдзям у праве называцца людзьмі: «Стукачы — не людскі гэта род, а сабачы, з пароды лягавых». Згадвае, што даносчыкамі ў нашым Краі заўсёды пагарджалі: «А таго, хто на брата данёс, у сяле за вярсту абміналі». Ларыса Геніюш заклікае адкінуць цярпенне, кідае сваё смелае «годзе!», выказвае патрабаванне, наказ:

*Годзе слёзам народным цячы!*
*Годзе кідаць нявінных на мукі!*
*Напіліся крыві стукачы,*
*прыйшоў час і па іх ужо стукнуць!*

«Зэльвенская непаслушніца» для яе ідэал. Амаль ва ўсім.

Хацела яна аднойчы тэму «Матыў здрады, даносу ў беларускай літаратуры» для дыпломнае працы студэнтцы прапанаваць. Памятае, як ад гэтага адгаворваў ейны былы калега: «Нельга такую тэму даваць». На яе настойлівае «чаму?» адказваў сваім не менш настойлівым «нельга».

Яна мае надзею, што яе студэнты на яе не даносілі. І што дажыве да часу, калі будуць адкрытыя тыя «даносныя» архівы. Калі ўсе ўбачаць, хто кім быў. Навошта ёй гэта? Каб не знайсці там даносаў яе студэнтаў.

А лічбу тую абмінае заўсёды.

# Радок Радзімы на полі памяці

Лейтматывам чарговага паэтычнага зборніка Лявона Валасюка «Вечаровы настрой» сталі словы, што адкрываюць першы раздзел кнігі:

*Галасы продкаў*
*Ахоўваюць мяне*
*Ад неспакою.*

Гэта яны, галасы прашчураў, не дазваляюць нам паддацца жыццёвым спакусам і суправаджаюць да апошняй мяжы. Хоць, здараецца, глухнуць і раней, калі чалавек упарта не жадае іх чуць, забываецца на тое, хто ён і адкуль, мітусіцца, кідаецца з адной крайнасці ў другую, дарэшты губляючы сябе самога.

Паслужлівая памяць вяртае паэта да вытокаў, да таго краю, дзе ранкам «вераснёвы туман плыве ў зялёны нябыт», а «паветра пасля навальніцы трымае ў сабе рэшткі грому і маланак».

Пра вяртанне да каранёў — і вершы, што сабраны ў раздзеле «Белы горад». Усяго адзін выразны малюнак:

*На золку*
*З тумаНоў выходзіць*
*Берасце…*
*Купец маўклівы*
*Трымае граматы,*
*Як абразы…*

Як і ў папярэдніх зборніках Лявона Валасюка, у «Вечаровым настроі» багатая колеравая палітра:

*Прадчуванне зімы:*
*Апошнія бітыя грушы*
*Даядаюць залацістыя восы.*



Па-ранейшаму ўлюбёнай формай аўтара застаецца гранічна сціслы верш з мінімальнай колькасцю слоў у радку. Паэтычныя штрыхі-зярняты клапатліва, здагадваюся, не без рэдактарскай дапамогі (дарэчы, да выдання зборніка прыклаў руку вопытны і не паблажлівы Алесь Каско) адабраны, пазбаўлены ад мякіны. Найбольш яскравыя з іх здольны ўразіць. Як, напрыклад, гэты:

*Палатно льняное —*
*Плашчаніца Беларусі.*
*Памяць стагоддзяў*
*Адбельваецца на паплавах.*

Упарадкаваныя храналагічна, важкія змястоўна, маляўнічыя штрыхі, вобразна названыя аўтарам фрэскамі жыцця, склалі раздзел з падзагалоўкам «Вершалёс». Тут яны — нібыта маячкі на пакручастай сцежцы памяці: ад першай усвядомленай усмешкі маці над калыскай да сталага, роздумнага сёння.

Верыцца, што паэтычныя радкі паэта і мастака — сляды жыцця «на белым полі памяці і веры» — будуць прыхільна сустрэты чытачамі.

**Мікола Сянкевіч**

# Падручнік сапраўднай гісторыі

**Пра трагічныя і гераічныя шляхі жыхароў ільянскага краю (што ў Вілейскім раёне) распавядае кніга Уладзіміра Кажамякі «Не пакідаюць нас белыя лебедзі».**

Кожнага героя кнігі (а ў ёй 34 артыкулы) аўтар стараецца вывесці па-за дужкі ідэалогій ды нацыянальных пытанняў і спрабуе зразумець іх у трагедыйных быццёвых абставінах.

Артыкул, які даў назву кнізе, — пра ільянку Ганну Сухую і яе мужа Леаніда Марцыёнка. Ганна нарадзілася ў Ільі ў міжваенныя гады, адвучылася ў Віленскім універсітэце, але на працу інжынерам у Варшаве ўладкавацца так і не змагла. Яе не ўзялі з-за веравызнання: Ганна была праваслаўнай беларускай. «А іх доля была нялёгкай у час польскай акупацыі», — піша Уладзімір Кажамяка. Як вынік — Ганна Сухая пайшла працаваць настаўніцай беларускай мовы ў Ільянскую школу.

У 1942 годзе (падчас акупацыі настаўніца засталася верная сабе — выкладала ў школе) яна на санях прывезла з Менска ў Ілью Леаніда Марцыёнка. У сталіцы працы ў яго, слухача вышэйшых курсаў беларусазнаўста Язэпа Лёсіка, не было, таму настаўнічаць у вёсцы сталася лепшым варыянтам. Але, як паказаў час, прывезла яна не толькі свайго калегу, але і свой лёс. У хуткім часе Ганна і Леанід ажаніліся...

Леанід Марцыёнак быў настаўнікам ад Бога. Ён кіраваўся ідэаламі беларускай дзяржаўнасці, як і Ганна. Неўзабаве сям'ю перавялі працаваць у горад, выкладаць у Вілейскай беларускай семінарыі. На гэтых працоўных месцах іх і заспела вызваленне Беларусі. Пасляваенную савецкую ўладу не цікавіла, што ты кіраваўся сваім абавязкам настаўніка. Працаваў пры немцах — здрадзіў саветам і павінен адказваць. Леаніду, калі можна так сказаць, пашанцавала: ён адседзеў толькі два гады. Пасля гэтага на працягу трох доўгіх гадоў ён чакаў сваю жонку: пра пачуцці мужа і жонкі сведчыць іх перапіска — частка лістоў змешчана ў артыкуле.

Цікавая асоба, пра якую таксама распавядае аўтар, настаўніца Ганны Сухой — Эмілія Кунавіч. Пасля вайны лёс закінуў яе ва Уроцлаў, дзе яна і пражыла другую частку свайго жыцця. Эмілія Кунавіч ліставалася з Ганнай і нават прыязджала ў Беларусь у 1969 годзе. Яна даўно пайшла з жыцця, але да гэтай пары вядомая як польская літаратарка.




Яшчэ адзін польскі аўтар з ільяншчыны, названы ў кнізе, — святар Вацлаў Сэнк, які ў пачатку вайны жыў у Батурыне і служыў пробашчам у касцёле. Ён памёр у Польшчы ў 1998 годзе, але засталася напісаная ім пра падзеі ў ільянскім краі кніга — «Пробашч з гарачага памежжа». Кніга выдадзена ў Любліне ў 2002 годзе.

Успамінае У. Кажамяка і таленавітага паэта Алеся Салаўя. Беларускі паэт з прыходам вайны кватараваў у Ільі, дзе чытаў вершы на паэтычных вечарах. Потым, у 1942–1944 гадах, быў намеснікам галоўнага рэдактара часопіса «Новы шлях», які выходзіў у Рызе. Праз лёсаломныя гады не схіліўся ні на бок Сталіна, ні на бок Гітлера, а пранёс у сэрцы агмень свабоднай незалежнай Беларусі. Другую частку свайго жыцця ён быў вымушаны пражыць у Аўстраліі, але і там Алесь Салавей напоўніцу аддаваўся беларушчыне...

Каб адказаць на пытанне «Хто такі беларус?» і расчысціць свае карані ад гістарычнага смецця (прыдумак, міфаў), аўтар сягае і ў глыбейшую гісторыю, знакі пра якую захоўвае Ільяншчына. Так, ён піша пра паўстанцаў 1863–64 гадоў, якія пахаваны каля вёскі Уладыкі. «Паўстанцаў паўсюдна вышуквалі і забівалі на месцы, як гэта было 16 траўня 1863 года ў Абадоўскай пушчы. Тут частка атрада пад камандваннем Козел-Паклеўскага была знішчана цалкам. Некалькі чалавек патанулі ў рацэ Іліі. Царскія войскі таксама пацярпелі... Усіх ацалелых змагароў за вольнасць <...> адправілі ў далёкую халодную Сібір».

Вялікая частка артыкулаў кнігі — пра Другую Сусветную вайну. Аўтар вядзе летапіс гераічнага і трагічнага змагання людзей, якіх у ваеннае дзесяцігоддзе «абклалі» з усіх бакоў. З аднаго — немцы, па начах — партызаны, а пасля вайны савецкая ўлада разбіралася, хто свой, а хто — чужы. «Страху ў людзей было шмат, — піша аўтар. — Многія баяліся немцаў і не жадалі служыць ім, гатовы былі змагацца з ворагам. Добраахвотна дапамагаць немцам ішлі толькі тыя, хто вельмі не любіў савецкую ўладу, не падтрымліваў яе і жадаў ёй хутчэйшай паразы. Былі людзі, якім новы нямецкі парадак спадабаўся. Астатнія чакалі, разважалі, на нешта спадзяваліся, як маглі, ухіляліся ад прымусу з боку немцаў. Некаторыя з іх пасля пайшлі ў партызаны».

Але эмоцыі помсты да ворага, якімі прасякнута амаль уся савецкая дакументалістыка і літаратура пра вайну, не засцяць крытычны погляд У. Кажамякі. «Насельніцтва вёсак аказалася паміж двума агнямі. Днём прыязджалі нямецкія карнікі, забівалі, рабавалі, здзекваліся з людзей, а ноччу прыходзілі партызаны, каб што-небудзь забраць».

Аўтар закранае дзве тэмы, пра якія пасля вайны не гаварылі. Першая з іх — Халакост.

«Яўрэяў заганялі ў гета, трымалі за калючым дротам, там яны былі ўжо не людзі: іх рабавалі, забіралі добрыя рэчы, грошы, расстрэльвалі на месцы. А потым учынялі яшчэ і масавыя расстрэлы за вёскай, дзе іх скідвалі ў ямы і палілі, падрывалі забітых у яме гранатамі». Згадвае У. Кажамяка і яўрэя Саламянскага, якому ўдалося збегчы. Пасля вайны ён апынуўся ў Ізраілі. Там напісаў кнігу, у якой успамінае Ілью.

**Няпросты і пакручасты шлях прайшла ды ідзе Беларусь да сваёй незалежнасці. І нашая задача — апісаць шлях мінулы, каб ясна бачыць, як крочыць у будучыню**

Другая «новая» тэма кнігі — пасляваенны антысавецкі супраціў. Аўтар распавядае пра яго ў артыкуле «Гэтым часам». У цэнтры ўвагі артыкула — лёс Сяргея Пятровіча Яноўскага, які ўваходзіў у падпольную антысавецкую арганізацыю «Чайка». Арганізацыя была выкрыта, а ейныя ўдзельнікі асуджаныя на розныя тэрміны лагераў...

Няпросты і пакручасты шлях прайшла ды ідзе Беларусь да сваёй незалежнасці. І нашая задача — апісаць шлях мінулы, каб ясна бачыць, як крочыць у будучыню. Уладзімір Кажамяка спраўляецца з гэтай працай.

**Аляксей Чубат**

# Ці народзіцца ў Беларусі Цмок?

**Водгук на раман Валерыя Гапеева «Ноч Цмока».**




Увогуле, я не з'яўляюся прыхільніцай дэтэктываў. Але менавіта гэты раман, на мой погляд, адрозніваецца ад таго, што традыцыйна лічыцца дэтэктывам.

Спачатку прыцягнула ўвагу незвычайная яркая вокладка з выявай таямнічага Цмока, які нагадвае месяц, што перараджаецца раз за разам ад маладзіка да поўні і наадварот.

І ці не першы раз убачыла сучасны дэтэктыў на роднай мове. Анатацыя сцвярджала, што перада мной «...эратычна-містычны дэтэктыў на тле беларускай правінцыі найноўшага часу». Вось такога я дакладна не сустракала!

«Зацягнула» з першых старонак. Аповед вядзецца ад першай асобы, маналогі і разважанні галоўнага героя дакладныя і выразныя, цудоўная жывая мова ў дыялогах. Як кажуць у такіх выпадках, чытаецца лёгка, на адным дыханні. Характары другарадных герояў выпісаны да дробязяў — ці то бойкая сакратарка Зіначка, ці бясхітрасны ўчастковы Тумар, ці балбатлівая вясковая пляткарка Сонька. У сюжэце перад намі паўстаюць сапраўдныя, жывыя людзі — кожны са сваім лёсам, са сваімі думкамі, меркаваннямі і адрознымі сістэмамі каштоўнасцяў.

Цікава, што кожная новая частка пачынаецца з трапнага выразу, гэтакай аўтарскай прымаўкі і сапраўднай жыццёвай перлінкі, якая нейкім чынам характарызуе далейшыя падзеі, кшталту:

«Калі непрыемнасці пачынаюцца з раніцы — значыць, гэта будуць вялікія непрыемнасці»,

«Найлепшае, што здараецца з намі, ніколі намі не прадбачылася»,

«Раніцы, як і жанчыны, бываюць непрадказальнымі»,

«Самаўпэўненасць грунтуецца не на ведах, а на няведанні» і інш.

Захапляльны сюжэт больш нагадвае трылер з таямнічым забойствам і дзіўнымі паганскімі рытуаламі, з сапраўднымі ведзьмакамі і мясцовымі сектантамі, — увесь гэты клубок даводзецца разблытваць маладому следчаму Васілю.

Хіба мог ён меркаваць, што следства завядзе яго зусім у іншы бок, прымусіць змяніць свае погляды на жыццё, пераглядзець адносіны да культуры, палітыкі, праблем сучаснага грамадства, матываў злачынстваў? Нават свае адносіны да жанчын і кахання. Апошняе, дарэчы, аўтар апісвае тонка, глыбока і шчыра (я б сказала, прыгожа і рамантычна) — не як банальныя пасцельныя сцэны, а як сапраўдную еднасць душ закаханых.

Але пакуль малады следчы не падазрае аб тым, жыве, па яго ж словах, як «...сляпы крот, які патрапіў у чужую, даўно закінутую нару. Поўзаю па ёй, падбіраю, што трапляецца. Ці маё гэта жыццё? Ці спрабаваў я хоць раз прарыць СВОЙ ход?..» Знаёмае многім пытанне...

Следчаму даводзяць, што містыка — заўсёды вакол нас, што гэта — катэгорыя пакуль неразгаданых сувязяў прычын і наступстваў, і што «самы бязглузды на першы погляд рытуал некалі быў асэнсаваным дзеяннем».

У часе следства і сустрэч з рознымі людзьмі і сведкамі перад следчым Васілём паўстаюць сур'ёзныя філасофскія пытанні, якія на першы погляд не маюць дачынення да містычнай справы і аб якіх ён ніколі не задумваўся. Чаму школьнікі захапляюцца чужой культурай і не ведаюць сваёй? Чаму лёгка распавядуць пра Зеўса, Апалона і Афрадыту, але не адкажуць пра Перуна, Вялеса і Лялю? Чаму ў краінах з высокім узроўнем жыцця літаральна пустуюць турмы? Чаму выпадковыя людзі займаюць адказныя пасады, і да чаго гэта прыводзіць? «А калі прыйшоў той, для каго помнік драўлянага дойлідства — усяго толькі старая царква, што далягляд псуе, вока мазоліць. Такі кіраўнік закамандуе тую царкву знесці ды пабудаваць новую, з сучасных матэрыялаў, па сучасным праекце, каб прыгожа (у яго разуменні)! Катастрофа для культуры краіны. І так ва ўсім. У сімволіцы, мове, літаратуры...».

Галоўны герой упершыню так блізка сутыкаецца з людзьмі, якія не проста жывуць і ўладкоўваюць свой асабісты куток, а якіх турбуе жыццё іншых, жыццё краіны цалкам. Пакрысе Васіль прыходзіць да высновы, што тая самая палітыка датычыцца ўсіх, што гэта — «штодзённае наша жыццё, а не толькі маніфестацыі і плошчы», і «адказнасць ляжыць не на тым, хто робіць, не разумеючы, а на тым, хто разумее, ведае, усведамляе, але не робіць».

«Мы слабыя, бо мы не верым самім сабе. Мы ніколі не рабілі нечага дзеля аддаленай будучыні, дзеля сваіх нашчадкаў, хіба што грошы адкладвалі на рахункі. У нас ніколі не было вялікай агульнай справы, такой, каб захапіла хоць частку нацыі...»

На жаль, гэтыя словы аднаго з герояў рамана — канстатацыя нашай сённяшняй рэчаіснасці. І пакуль няма адказу на пытанне: ці знойдзецца такая справа?..

**Юльяна Пятрэнка**

# Ахматава і Нобелеўская прэмія

**Ганна Ахматава вылучалася на Нобелеўскую прэмію па літаратуры двойчы, другі раз — у 1966 годзе. Звесткі аб тым і спісы намінантаў агучаны Шведскай акадэміяй.**



Узнагародзіць рускую паэтку прапанавалі прафесары славянскіх моў Гётэборгскага ўніверсітэта Гунар Якабсон і Гарвардскага ўніверсітэта Раман Якабсон. Аднак паколькі Г. Ахматава памерла 5 сакавіка 1966 года, на пазнейшых этапах абмеркавання Нобелеўскі камітэт яе кандыдатуру не разглядаў.

Пералік намінантаў трымаўся ў таямніцы 50 гадоў, у ім 72 прозвішчы, сярод іх — Уладзімір Набокаў, Канстанцін Паўстоўскі, Сэмюэл Бэкет, Хорхэ Луіс Борхес, Пабла Неруда ды іншыя.

Упершыню Ганна Ахматава была намінаваная на Нобелеўскую прэмію па літаратуры ў 1965 годзе, але тады большасць акадэмікаў выступілі за яе ўручэнне пісьменніку Міхаілу Шолахаву.

Па правілах прапанаваць кандыдатуру на самую прэстыжную літаратурную ўзнагароду могуць да 31 студзеня сябры Шведскай акадэміі і падобных устаноў іншых краін, прафесары літаратуры і лінгвістыкі, лаўрэаты прэміі мінулых гадоў і пісьменніцкія арганізацыі. На працягу вясны шведскія акадэмікі спачатку выбіраюць 20 лепшых кандыдатаў, а затым скарачаюць спіс да пяці прозвішчаў. На працягу лета сябры Шведскай акадэміі грунтоўна знаёмяцца з творчасцю намінантаў і ўвосень збіраюцца на абмеркаванне кандыдатур. Імя будучага ўладальніка да моманту ўручэння прэміі трымаецца ў строгай таямніцы, самі сябры Нобелеўскага камітэта па літаратуры, абмяркоўваючы патэнцыйных пераможцаў, называюць іх не сапраўднымі імёнамі і прозвішчамі, а псеўданімамі.

# Архан Памук і прэмія «Ясная Паляна»

**Турэцкі пісьменнік, нобелеўскі лаўрэат Архан Памук атрымаў літаратурную прэмію «Ясная Паляна» ў Маскве, гаворыцца ў прэс-рэлізе («Газета.Ru»).**

Цырымонія ўручэння адбылася 24 лютага. А. Памук атрымаў узнагароду ў намінацыі «Замежная літаратура» за кнігу «Мае дзіўныя думкі».

На афіцыйнай цырымоніі пісьменнік прысутнічаць не змог. 20 лютага ён прыехаў у Расію з шасцідзённым візітам для наведвання Санкт-Пецярбурга, Масквы і музея-сядзібы Льва Талстога «Ясная Паляна». Як адзначыў Архан Памук, паездка ў Расію і магчымасць убачыць дом Талстога былі яго даўняй марай.

# Дом-музей Цвятаевай

**Усе пакоі Дома-музея Марыны Цвятаевай у Барысаглебскім завулку ў Маскве будуць адчынены ў траўні пасля рамонту, паведаміла РІА «Навіны».**

«Сто адсоткаў памяшканняў падлеглі рамонту і абнаўленню. Абнаўленне мемарыяльнай кватэры — гэта не прыгожая канцылярская фраза. Упершыню з 1992 года яна паўстане цалкам», — заявіла заснавальнік музея Алена Жук.

Паводле А. Жук, у склад мемарыяльнай кватэры вяртаецца «пакой-адшчапенец», як называла яго сама Цвятаева. Там ствараецца фондавая выстава пра гасцей дома. На кухні і ў афіцэрскай мансардзе з'явіцца экспазіцыя, дзе можна будзе ўбачыць прадуктовую картку на імя М. Цвятаевай, арыгінальныя аўтографы паэткі і калекцыю лістоў да сям'і Богенгардт.

Ключавой падзеяй у абноўленым музеі будзе юбілейная выстаўка «Дзе мой дом».

Сёлета адзначаецца 125-годдзе з дня нараджэння Марыны Цвятаевай. Як распавёў намеснік кіраўніка дэпартамента культуры Масквы Уладзімір Філіпаў, адной з асноўных тэм Маскоўскага культурнага форуму, які адкрыецца 24 сакавіка, стане юбілей паэткі.

Актыўна ўдзельнічаць у правядзенні святочных мерапрыемстваў будуць маскоўскія бібліятэкі ды іншыя ўстановы культуры.

# Што было чутна ў бункеры «фюрэра»?

**Нямецкі пісьменнік Марсэль Байер (Marcel Beyer) стаў лаўрэатам прэміі імя Бюхнера 2016 года. Ён стаў вядомым, перш за ўсё, як аўтар рамана «Лятучыя сабакі» і зборніка навелаў «Паштовая скрыня Пуціна».**



Тое, што менавіта М. Байер атрымаў прэмію імя Бюхнера, адну з самых прэстыжных літаратурных прэмій Германіі і буйную ў грашовым вымярэнні (50 тысяч еўра), мала каго здзівіла. Ужо некалькі гадоў ён «выклікае захапленне крытыкаў спелым майстэрствам і арыгінальнымі сюжэтамі». А прадстаўнічае журы прэміі адзначыла, што М. Баер «гэтак жа віртуозна стварае эпічныя панарамы, як і паэтычны мікракосмас».

50-гадовы празаік працуе ў многіх жанрах: ён піша раманы, навелы, п'есы, эсэ. Практычна кожны год выходзяць яго новыя кнігі. Не ўсе яны аднолькавага ўзроўню. Але лепшыя «атрымліваюць вельмі добрую крытыку» і самыя розныя літаратурныя ўзнагароды. Так было і са зборнікам навел «Паштовая скрыня Пуціна», які выйшаў у 2012 годзе ў выдавецтве «Suhrkamp». Штуршком да напісання дзесяці гісторый, якія ўвайшлі ў кнігу, паслужылі ўражанні, якія пісьменнік вынес са сваіх паездак па краінах Усходняй Еўропы, у тым ліку па Украіне і Беларусі. А назву зборніку дала «напалову» дакументальная навела, лірычны герой якой шукае на вуліцы ў Дрэздэне, Radeberger Straße, на фасадзе дома 101 паштовую скрыню. У тым доме, на трэцім ці на чацвёртым паверсе (немцы і рускія лічаць па-рознаму), жыў у другой палове 1980-х гадоў Уладзімір Пуцін з сям'ёй. Колер гэтай паштовай скрыні — калісьці ярка-жоўты, а цяпер зялёны — цікавіць, складваецца ўражанне, героя навелы больш, чым маркотныя рэаліі гэдээраўскага акружэння Пуціна і сумныя шпіёнска-чэкісцкія будні капітана, а потым падпалкоўніка КДБ.

Насамрэч, аўтара цікавіла нешта трэцяе, а менавіта: тыя каласальныя перамены, якія адбыліся з Дрэздэнам і з людзьмі, якія жылі там, з часу аб'яднання Германіі.




Але, безумоўна, самая «спелая» кніга М. Байера — раман «Лятучыя сабакі», які выйшаў тры гады таму. Лятучыя сабакі ці крыланы — гэта прадстаўнікі рэдкага сямейства малакакормячых, нешта накшталт велізарных, з размахам крылаў больш за паўтара метра, кажаноў з мордай, якая нагадвае морду сабакі. Аднаго з галоўных герояў рамана, ахоўніка, акустыка па прафесіі і збіральніка гукаў Германа Карнау, крыланы ўразілі з дзяцінства — у прыватнасці, таму, што яны пазбаўленыя слыху і, такім чынам, абаронены ад гукаў чужога свету.

Герман Карнау — рэальны гістарычны персанаж. Як ахоўнік ён быў у падземным бункеры Гітлера ў апошнія тыдні вайны, сведчыў аб яго самагубстве і дажыў да нашых дзён. Але яго ролю як археолага гуку, які запісваў у бункеры галасы салдат ды іх перадсмяротныя хрыпы, балбатню дзяцей Гебельса, якіх пазней атруцяць іх бацькі, прамовы правадыра, яго кашаль і буркатанне яго страўніка, — мастацкая выдумка. Раманны Карнау ў 1992 годзе выпадкова выяўляе ў сваім архіве гэтыя запісы. Успаміны і нараджаюць аповед...

Акрамя Карнау, падзеі ў бункеры апісвае ў рамане «Лятучыя сабакі» яшчэ адзін чалавек — дачка Ёзэфа Гебельса 12-гадовая Хэльга. Яе спалоханы дрыготкі галасок, поўны надзей і страшных прадчуванняў (а чытач ведае, што гэтыя прадчуванні рэальныя), і сухаваты, перасыпаны тэхнічнымі дэталямі ўнутраны маналог ахоўніка-акустыка ўяўляюць вельмі моцны і з мастацкага пункту гледжання ўражлівы кантраст.

Але «Лятучыя сабакі» — не гістарычны раман пра апошнія дні "трэцяга рэйха». Гэта аповед пра тое, як змяняе чалавека і грамадства медыйная культура, пастаўленая на службу прапагандзе.

# Салман Рушдзі і кніга пра Абаму і Трампа

**Лаўрэат Букераўскай прэміі пісьменнік Салман Рушдзі напіша кнігу пра жыццё ў ЗША пры папярэднім і цяперашнім прэзідэнтах краіны Бараку Абаме і Дональдзе Трампу, паведаміла «Associated Press».**




Цяпер пісьменнік працуе над творам, у якім апісваецца панарама амерыканскага жыцця, пачынаючы з прыходу ў Белы дом Барака Абамы ў 2009 годзе.

Раман будзе называцца «Залаты дом», а яго прэзентацыя запланавана на верасень 2017 года.

Згодна з анонсам, у кнізе, у прыватнасці, будзе апісана жыццё ўплывовага ў медыясферы чалавека — «злыдня з фарбаванымі валасамі».

Раней паведамлялася аб выхадзе фрагмента з тэлефільма «Бары», прысвечанага маладосці Барака Абамы.

# Прэмія амерыканскага ПЭН-клуба

**Актрыса Мэрыл Стрып уручыць кампазітару, паэту і драматургу Стывену Сондхайму прэмію амерыканскага ПЭН-клуба, паведамляе «Associated Press».**

Сондхайм — аўтар вядомых брадвееўскіх мюзіклаў, лаўрэат «Оскара». Ён прымаў удзел у стварэнні пастановак «Вестсайдская гісторыя», «Суіні Тод, дэман-цырульнік з Фліт-стрыт», «У лес».

Цырымонія ўручэння прэміі адбудзецца 25 красавіка ў Амерыканскім музеі натуральнай гісторыі ў Нью-Ёрку. С. Сондхайм атрымае ўзнагароду за «літаратурную службу».

Літаратурная Беларусь

Кіраўнік праекта «ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» Алесь ПАШКЕВІЧ. Рэдактар Барыс САЧАНКА.
Тэлефон для даведак: (8-017) 200-80-91. Адрас электроннай пошты: sbp@tut.by

# Прэзідэнт + віцэ-прэзідэнт = ?

Алег НОВІКАЎ

**Не толькі Азербайджан, але і ўвесь свет абмяркоўвае ўказ кіраўніка Ільхама Аліева пра прызначэнне сваёй 51-гадовай жонкі Мехрыбан Аліевай (у народзе Мехрыбан-Ханум) першым віцэ-прэзідэнтам Азербайджана. Сваімі думкамі з гэтай нагоды з «Новым Часам» падзяліўся азербайджанскі эколаг Намік Мамедаў.**



Фота www.spletnik.ru

***— Што прымусіла кіраўніка Азербайджана ўвесці сваю жонку ў вышэйшае палітычнае кіраўніцтва?***

— Па словах азербайджанскага лідара, першая лэдзі «заслужыла гэта (пасаду віцэ-прэзідэнта) сваёй шматгадовай працай на карысць краіны». Аднак нават афіцыйная прэса лічыць, што новая пасада Мехрыбан — пралог нейкай глабальнай акцыі. Прызначэнне на пасаду першага віцэ-прэзідэнта Мехрыбан Аліевай можа быць абумоўлене хуткім запускам непапулярных эканамічных рэформаў. Для такіх крокаў уладзе патрэбны крэдыт даверу, а Мехрыбан, якая шмат займалася філантропіяй, з'яўляецца ўвасабленнем гэтага даверу. Другая версія — пасля няўдалага дзяржаўнага перавароту ў Турцыі рэгіён уваходзіць у паласу турбулентнасці. Таму трэба загадзя цэментаваць вертыкаль.

***— Якія функцыі ў віцэ-прэзідэнта Азербайджана?***

— Інстытут віцэ-прэзідэнта з'явіўся ў Азербайджане летась, пасля рэферэндуму аб унясенні адпаведных паправак у Канстытуцыю. Пасада першага віцэ-прэзідэнта да прызначэння Аліевай была вольнай. Збольшага, у віцэ-прэзідэнта функцыі прадстаўнічыя, аднак ён, згодна з Канстытуцыяй, можа замяняць кіраўніка дзяржавы ў выпадку немагчымасці таго выконваць свае паўнамоцтвы. У гэтым плане Мехрыбан-Ханум становіцца вельмі важнай фігурай.



***— Жанчына на пасадзе віцэ-прэзідэнта — выглядае вельмі па-еўрапейску. Аднак большасць азербайджанцаў — мусульмане-шыіты. Ці не выклікае прызначэнне жанчыны на такую высокую пасаду нараканняў у соцыуме?***

— Якраз наадварот. Некаторыя лічаць, што захоп Аліевым усіх пасадаў выглядае як адыход ад еўрапейскіх каштоўнасцяў, трансфармацыю краіны ў класічны блізкаўсходні нафтавы рэжым. У любым выпадку, негатыўнай рэакцыі на гендэрны аспект прызначэння чакаць не варта. Азербайджанская гісторыя, у тым ліку і найноўшага перыяду, ведае шмат прыкладаў, калі высокія пасады ў дзяржаве займалі жанчыны. У нас да гэтага ставяцца спакойна. Грамадства рэагуе, хутчэй, жартамі. Маўляў, толькі ў нас прэзідэнт можа спаць з віцэ-прэзідэнтам. Жартуюць, што хутка цешча Аліева ўзначаліць дэпартамент Мінабароны.

***— Як каментуе гэта прызначэнне апазіцыя?***

— Крытыкі Ільхама Аліева абвінавацілі яго ў фармаванні сямейнага ўкладу асабістай улады. Такой думкі трымаецца, напрыклад, галоўная апазіцыйная партыя «Мусават». Паводле яе лідараў, віцэ-прэзідэнцтва Мехрыбан канчаткова замацоўвае прынцып сямейнасці ў сістэме ўлады. Адначасова Аліеву прапануюць адмяніць пастанову, і ўвогуле адмовіцца ад зменаў у Канстытуцыю, па выніках якіх была ўведзена пасада віцэ-прэзідэнта. Прынятыя папраўкі, на думку дысідэнтаў, сур'ёзна парушылі баланс улады. Праўда, апазіцыя вельмі маргінальная, і наўрад ці прымусіць уладу ўспрымаць свае заявы ўсур'ёз.

***— Ці здольная новы віцэ-прэзідэнт аўтаномна ад мужа прымаць палітычныя рашэнні? Ці ўласцівыя Мехрыбан уладныя амбіцыі?***

— Хаця Мехрыбан — вельмі дынамічная асоба, была апаратчыкам аліеўскай партыі «Новы Азербайджан» і дэпутатам парламента, яе суб'ектнасць у палітычным працэсе вельмі спрэчная. Яе функцыі заўжды былі ў тым, каб надаваць рэжыму адценне чалавечнасці і нармальнасці — яна займаецца выхаваннем сваіх дзяцей, актыўна падтрымлівае спорт і культуру ў межах Фонду Гейдара Аліева.

***— Ці паўплывала пастанова Аліева на міжнародны імідж Баку?***

— Узлёт Мехрыбан на палітычны алімп прывітала Масква, а вось экс-пасол Злучаных Штатаў у Баку кажа, што гэта яўны трэнд на стварэнне дынастыі. Затое армянская прэса лічыць, што прызначэнне Мехрыбан робіць непазбежным рост канфрантацыі ў Карабаху. Маўляў, цяпер увесь Каўказ будзе лічыць Ільхама «падкаблучнікам». Каб давесці, што ён сапраўдны мужчына, Аліеву давядзецца рабіць нейкія ваяўнічыя крокі. Прызначэнне жонкі першым віцэ-прэзідэнтам краіны выклікала негатыўны водгук у Турцыі, дзе назіраецца паступовая ісламізацыя. Адзін з дэпутатаў партыі Эрдагана заявіў, што прызначэнне было памылкай. Незадаволеная і турэцкая дэмакратычная апазіцыя, якая непакоіцца, што кумаўство Аліевых будзе прыкладам для Эрдагана.

***— Вядома, што ў Ільхама ёсць сын Гейдар. Кажуць, што менавіта яго рыхтуюць у пераемнікі. Аднак яму каля 20 гадоў. Ці магчымы варыянт, што спачатку прэзідэнтам Азербайджана будзе Мехрыбан-Ханум?***

— Адказаць на гэтае пытанне, не будучы сябрам клану Аліевых, немагчыма. Аднак, гледзячы па выніках інтэрнэт-апытанняў, прыкладна 60 працэнтаў грамадзян лічаць, што наступным прэзідэнтам сапраўды будзе Мехрыбан.

**Армянская прэса лічыць, што прызначэнне Мехрыбан робіць непазбежным рост канфрантацыі ў Карабаху. Маўляў, цяпер увесь Каўказ будзе лічыць Ільхама «падкаблучнікам». Каб давесці, што ён сапраўдны мужчына, Аліеву давядзецца рабіць нейкія ваяўнічыя крокі**

## ЯНЫ ПРА НАС. ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

Лукашэнка хоча паказаць, што ён не ходзіць на ланцужку Масквы. Рашэнне аб бязвізавых паездках для еўрапейцаў прымусілі Пуціна нервавацца. Крэмль не хоча, каб Беларусь пайшла па шляху Украіны. Праўда, такі шанец невялікі.

**«Elsivier» (Нідэрландцы)**

Расія не пацерпіць сыходу краіны з яе геапалітычнай і эканамічнай арбіты. Асабістая непрыязнасць паміж былым старшынёй калгаса і былым агентам КДБ уяўляе сабой яшчэ адну рызыку. Захаду не варта прымаць у свае абдымкі Лукашэнку, які кіруе былой савецкай рэспублікай з 1994 года. Але ЗША і Заходняя Еўропа могуць даць зразумець, што яны ўсё бачаць і прызнаюць незалежнасць і тэрытарыяльную цэласнасць Беларусі. Напружанасць у Беларусі зноў паказвае, што нават бліжэйшыя да Расіі краіны не хочуць уваходзіць у гэтую сферу.

**«The Wall Street Journal» (ЗША)**

Аляксандр Лукашэнка ў сваіх знешнепалітычных кроках да гэтага часу імкнуўся захоўваць максімальную свабоду дзеянняў. Але ў яго дзяржавы мала шанцаў атрымаць новыя імпульсы ў межах Усходняга партнёрства і прасунуцца ў перамовах аб заключэнні дагавора аб асацыяцыі з ЕўрАсаюзам. Усё ж такі трэба глядзець скептычна, бо Беларусь застаецца і застанецца вельмі залежнай ад Расіі і палітычна, і эканамічна. Расія дамінуе ў стратэгічных і эканамічных сектарах Беларусі, а менавіта ў энергетыцы, не кажучы ўжо пра пытанні бяспекі. Свабода знешнепалітычных манеўраў вельмі абмежаваная.

**«Телеграф» (Латвія)**

Хваляванні імітаваў сам Лукашэнка. Вы спытаеце: для чаго? О, прычын у яго цэлае мноства. Па-першае, гэта праверка празаходняга крыла палітыкаў і іх лідара, Уладзіміра Макея. У апошні час Макей рэзка «ўзмацніўся», і ў яго, відавочна, з'явіліся амбіцыі. А ну калі раптам прэзідэнцкія? Па-другое, гэта магчымасць вылічыць тых, хто гатовы «памайданіць». Шушкевіч, Статкевіч і Саннікаў – з імі даўно ўсё зразумела. Па-трэцяе, імітацыя «майдана» – выдатная магчымасць, каб «выпусціць пару». Народ бяднее? Расце незадаволенасць? Ідзіце на мітынг. Але абавязкова своечасова разыдзіцеся – і прыбярыце там за сабой.

**«Наша версия» (Расія)**

Няма ні найменшага сумневу, што «тактычная любоў» Парашэнкі да Лукашэнкі і беларусаў на справе – падступнае «мазепінства». Цяперашняе абвастрэнне расійска-беларускіх адносін Кіеў і яго замежныя натхняльнікі спрабуюць выкарыстоўваць, правакуючы Бацьку на новыя крызісныя кульбіты. Пры гэтым, прымаючы Бацьку ў шэрагі сваіх раптоўных саюзнікаў, Парашэнка не можа растлумачыць, чаму ж Кіеў дазваляе на сваёй тэрыторыі практычна ўсяму актыву апазіцыйных беларускіх партый і груповак займацца падрыўной дзейнасцю супраць Лукашэнкі і існуючага дзяржаўнага ладу Беларусі.

**«Одна родина» (Расія)**

Расіі будзе не так проста арганізаваць дзяржаўны пераварот у Беларусі. У Беларусі ёсць грамадства. І не так даўно гэтае самае грамадства паказала, што яно яшчэ жывое, выйшаўшы на мітынгі. Бенефіцыяр перавароту павінен мець нейкую легітымнасць. Калі ў Беларусі ў якасці «спадчынніка» вылезе нейкі чорт з табакеркі, дык альбо народ яго прыме, альбо не. Гарантый няма, і чым гэта скончыцца, невядома.

**«Обозреватель» (Украіна)**

З выступаў Аляксандра Лукашэнкі вынікае, што Беларусь і Расія, быццам бы, пачалі новую барацьбу. Аднак на самай справе гэта ўсё той жа самы стары бой. На працягу гадоў Лукашэнка спрабуе выкарыстаць ЕўрАсаюз і Расію, падманваючы іх.

**«Foreign Policy» (ЗША)**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### РАСІЯ. Вярнуць літару «яць»!

Заснаваны Маскоўскай патрыярхіяй тэлеканал «Спас» шакаваў грамадства новай ініцыятывай. У адной з праграмаў вядучыя прапанавалі весці ў школах выкладанне паводле рускай арфаграфіі, якая існавала ў царскай Расіі. Руская дарэформавая арфаграфія (ці дарэвалюцыйная арфаграфія) дзейнічала да 1918 года і захоўвалася пазней на тэрыторыях белых урадаў у Расіі і ў белаэмігранцкіх выданнях. Да рэвалюцыі руская азбука налічвала 35, а не 33 літары, як цяпер. У азбуку ўваходзілі 4 скасаваныя літары «і», «ѣ», «ѳ», «ѵ», але не было літар «ё» і «й». Праўда, на першым этапе аўтары ідэі вяртання да старой арфаграфіі згодныя абмежавацца эксперыментам у некаторых школах. Адначасова на «Спасе» патрабавалі ад кніжных выдавецтваў «у парадку пакаяння… сабе ў страту» выдаваць кнігі з выкарыстаннем старой арфаграфіі. За што павінны пакаяцца выдаўцы, незразумела. Цікава, што заклікаць патрыярха Кірыла і іншых лідараў РПЦ заняцца падобным выдавецтвам за свой кошт «Спас» чамусьці не рызыкнуў.

**Паводле расійскай прэсы**

### КАЗАХСТАН. Елбасы зноў хоча Нобеля

На днях Нурсултана Назарбаева намінавалі на Нобелеўскую прэмію міру. Гэта ўжо сёмая спроба Елбасы — прычым нярэдка ініцыятывы намінавання зыходзілі ад даволі нечаканых арганізацый. Напрыклад, у 2009 годзе прадстаўнікі дзіцячага дома ў Чачні палічылі, што Назарбаеў варты гэтай прэміі за «падтрымку асобаў, якія падпалі пад сталінскія рэпрэсіі». У 2011 годзе ініцыятарам надання Елбасы прэміі выступіла нарвежская арганізацыя «Веласіпед за мір», якая праводзіла ў тым годзе велапрабег па Казахстане. У 2013 годзе з падобнай прапановай выступіў Вярхоўны атаман Саюза казакоў Казахстана, які высунуў Назарбаева «за прапаганду міру і згоды». Гэтым разам Назарбаева намінуюць за «дасягненні ў галіне ядзернага раззбраення». Пры гэтым выкарыстоўваецца незвычайны прыём: Назарбаеў намінаваны ў кампаніі з мастаком-інвалідам. Стаўка яўна зроблена на тое, што на Захадзе заклапочаныя правамі людзей з абмежаванымі магчымасцямі. Аднак, мяркуючы па каментарах пад гэтым паведамленнем, казахі зусім не адчуваюць захаплення ад прапановы.

**Паводле казахскай прэсы**

### ФРАНЦЫЯ. Вандалы вяртаюцца

У незвычайную сітуацыю трапіў парыжскі муніцыпалітэт, які з 2014 года праводзіць цікавы эксперымент. Парыжанам прапануюць галасаваннем у інтэрнэце вызначыць, як мэрыя павінна выкарыстаць 5 працэнтаў гарадскога бюджэту. На гэты раз жыхары французскай сталіцы падтрымалі ідэю выдаткаваць грошы на тое, каб… знесці царкву Святога сэрца. Царква, або базіліка Святога сэрца, знаходзіцца ў папулярным турыстычным квартале Манмартр. Аб'ект будаваўся ў 1875–1914 гадах, у тым ліку як манументальны знак пакаяння за ўдзел парыжан у славутай Парыжскай камуне — адным з першых сацыялістычных выступаў у гісторыі. Менавіта на гэты момант звяртаюць увагу аматары дэканструкцыі царквы. Калі ім верыць, царква Святога сэрца — гэта алегорыя рэпрэсій супраць парыжан, якія патрабавалі справядлівасці. Ідэя разбурыць царкву пакуль не знайшла падтрымкі ў ратушы, хаця там засядаюць сацыялісты. Цікава, што гэта не адзіны замах у Еўропе на гістарычную спадчыну. У Лондане, дзе вельмі моцны дэфіцыт жылля, усё гучней чуваць заклікі знесці Букенгемскі палац — рэзідэнцыю манарха. Паводле падлікаў аматараў праекту, на месцы комплексу можна пабудаваць новы квартал, дзе будуць жыць каля 8000 чалавек.

**Паводле французскай прэсы**

### ЗША. Жарсці па прыбіральнях

Адміністрацыя Трампа дырэктыўна адмяніла скандальную пастанову папярэдняга прэзідэнта наконт правоў трансгендэраў у школьных установах. Паводле папярэдняга рашэння, трансгендэрам дазволена карыстацца прыбіральнямі і душавымі згодна з асабістым выбарам. Ідэя не спадабалася на месцах: шматлікія дырэктары школ і нават урады шэрагу штатаў заявілі, што гэта будзе спрыяць росту сексуальнага гвалту. Тым не менш, юрыстам Абамы ўдавалася навязаць інструкцыю пра трансгендэраў за кошт федэральнага суду. І вось Дональд Трамп той дакумент скасаваў. Праўда, вайна за і супраць права для трансгендэраў наведваць прыбіральні на гэтым не скончылася. Вярхоўны суд узяўся за разгляд справы 17-гадовай дзяўчынкі з Вірджыніі, якая лічыць сябе хлопчыкам. Затое так упарта не лічыць кіраўніцтва яе школы, якое забараніла дзяўчыне-трансгендэру наведваць пакой з выявай літары «М» на дзвярах. Пакольк у ЗША дзейнічае прэцэдэнтнае права, вердыкт суда па яе справе можа вызначыць канчатковы лёс пастановы пра прыбіральні.

**Паводле нямецкай прэсы**



Фота www.HallPic.com

# Загадкавая радыяцыя

*Алег НОВІКАЎ*

**Над Еўропай плавае радыяцыйнае воблака, якое нагадвае чарнобыльскае. Навукоўцы не могуць растлумачыць гэты феномен і толькі разводзяць рукі.**

Адразу супакоім чытача: па-першае, радыяцыя ў тым воблаку невялікая і не ўяўляе пагрозы для здароўя. А па-другое, хаця воблака рухалася з усходу на захад, яго маршрут, падаецца, абмінуў Беларусь. Воблака прайшло паўночней, і наўрад ці ўжо вернецца ў нашы шыроты. Зараз яго прапіска — Заходняя Еўропа, адкуль у гэты час яно імклівa рухаецца ў напрамку Вялікабрытаніі.

Пра гэта паведаміла Міністэрства абароны здароўя Вялікабрытаніі, адначасова заклікаўшы суайчыннікаў не панікаваць. У міністэрстве адзначаюць, што праз згаданую атмасферную з'яву ў паветры будзе большая канцэнтрацыя радыенуклідаў, аднак рымейк Чарнобылю брытанскім выспам не пагражае.

Гледзячы на каментары ў прэсе, падобныя заклікі аўдыторыя ўспрымае трошкі скептычна. Як сведчыць гістарычны досвед, першы запавет чыноўніка ў выпадку праблемы з мірным атамам — казаць, што нічога асаблівага не здарылася. Акрамя таго, у паведамленнях чыноўнікаў адносна радыяцыйнага воблака ёсць прабел. Ніхто не можа даць зразумелы адказ на пытанне, адкуль жа ўзнікла тая радыяцыя.

Упершыню пра яе паведамілі 13 лютага, калі IRSN (Французскі інстытут радыяцыйнай бяспекі) апублікаваў адпаведную справаздачу. Паводле тэксту, яшчэ ў студзені «ў нізкіх слаях атмасферы над Еўропай былі зафіксаваныя радыенукліды антрапагеннай (штучнай) прыроды». Як сцвярджаюць у IRSN, упершыню радыенукліды заўважылі нарвежскія вучоныя (гэта адбылося 2 студзеня). Хутка тая ж з'ява была ў Фінляндыі, Польшчы, Чэхіі, Германіі і Іспаніі. Аднак, зноў жа, ніводнай версіі пра крыніцу радыяцыі не прагучала.

19 лютага падавалася, што вучоныя, быццам, трапілі на след. У фінскай прэсе прайшла інфармацыя, што нібыта ў Лапландыю воблака прыйшло з боку Кольскага паўвострава, то бок з Расіі. «У перыяд, калі праводзіліся вымярэнні, было кепскае надвор'е, таму мы не можам прасачыць дакладную крыніцу радыяцыі. Вымярэнні з некалькіх месцаў у Еўропе могуць азначаць, што яна рухалася з Усходняй Еўропы», — заявілі нарвежскія спецыялісты. Адначасова іншыя навукоўцы паведамілі, што загадкавае воблака нагадвае чарнобыльскае.

На падставе агучанай заявы нарадзілася тэорыя пра тое, што воблака з'яўляецца следствам тэстаў ядзернай зброі ў Расіі. Нейкім чынам спрабавалі звязаць феномен радыяцыі з 42 атамнымі эксперыментамі, якія, быццам, правяла Паўночная Карэя. Нарэшце, узгадалі пра заклікі Кіева аднавіць ядзерны статус Украіны нават насуперак міжнароднаму праву. Агучаныя тэорыі, магчыма, і някепскія, аднак усе арганізацыі, якія займаюцца маніторынгам выпрабаванняў атамнай зброі, аднзіныя ў катэгарычнай высновe — ніякіх выбухаў у апошні час у Расіі, і ўвогуле ў еўрапейскім рэгіёне, не адбывалася. Нездарма маўчыць на гэты конт Пентагон, які вельмі ўважліва сочыць за амерыканска-расійскім балансам атамнага арсеналу.

Затое ў сваім каментары супрацоўнікі вельмі аўтарытэтнай Падрыхтоўчай камісіі па забароне атамных іспытаў намякаюць, што, хутчэй за ўсё, адбылася аварыя на якім-небудзь рэактары. Як следства, на інтэрнэт-форумах прайшоў нефармальны адбор, на якім усім народам вызначалі краіну, дзе мог адбыцца падобны інцыдэнт.

У конкурсе з вялікім адрывам фінішуюць Францыя і Бельгія. У тым ліку таму, што ў іх вельмі актыўнае ісламскае тэрарыстычнае падполле, якое разглядае атамны сектар як патэнцыйную мішэнь. Аматары канспіратыўных тэорый тыражуюць байкі пра тое, што тэрарыстам удалася дыверсія супраць АЭС, на інфармацыю пра якую, мауляў, наклалі грыф «сакрэтна».

Яшчэ далей ідуць аматары тэорый пра лятаючыя талеркі. Паводле іх версіі, загадкавае воблака — зброя іншапланецян. Цікавая версія пра тое, што воблака ўзнікла праз тое, што радыяцыя з Фукусімы, якая трапляе ў паветра і мора, праз нейкія фактары канцэнтруецца на Поўначы Еўропы.

Свае слова сказалі і тыя, хто сочыць за эксперыментамі на адронным калайдары — самым вялікім у свеце паскаральніку зараджаных часціц (напрыклад, пратонаў), створаным для вывучэння вынікаў іх сутыкненняў, які знаходзіцца ў Еўрапейскім савеце ядзерных даследаванняў каля Жэневы. На іх думку, апаратары калайдара не маюць ідэальных сродкаў блакавання радыяцыйнага выпраменьвання, якое з'яўляецца падчас эксперыментаў. Нейкім чынам яно трапляе ў паветра.

Пакуль інтэрнэт-форумы фантанавалі самымі смелымі ідэямі, даследнікі з NASA 10 лютага высветлілі, што пры палёце самалётаў праз воблака з павышанай радыеактыўнасцю пасажыры падвяргаюцца ўдвая большаму апраменьванню, чым звычайна на вялікіх вышынях. Іанізуючае апраменьванне здольнае выклікаць такія цяжкія праблемы са здароўем, як ракавыя хваробы і пасьлабленне рэпрадуктыўнай функцыі. Паводле вучоных, аблокі з павышанай радыеактыўнасцю з'яўляюцца ў выніку касмічных штормаў. Магчыма, загадковае воблака, якое зараз блукае над Еўропай, не штучнае, а прадукт падобнай з'явы.

Чым бы ні скончылася цяперашняе падарожжа воблака з радыенуклідамі па Еўропе, яно, безумоўна, давяло сур'ёзнасць радыяцыйнай пагрозы, асабліва ў часы кліматычных зменаў з іх непрадказальнымі наступствамі. Некаторыя вучоныя баяцца, што воблака сапраўды мае не штучную прыроду. Гэта значыць, што ёсць падстава чакаць цыклічнасці падобных з'яў. Ужо зараз у Злучаных Штатах думаюць, як выявіць з'яўленне новага падобнага воблака на першай стадыі.

# Ад палявання на вядзьмарак да палявання на Трампа

Алег НОВІКАЎ

**Канфлікт паміж праціўнікамі і прыхільнікамі Трампа набыў фармат рэлігійнай вайны.**



Фота www.bbc.com

Мінулы тыдзень апынуўся вельмі напружаным для прадстаўнікоў нячыстай сілы. Вядзьмаркі і чараўнікі ў ЗША і іншых краінах правялі рытуалы з мэтай адхіліць ад пасады Дональда Трампа. Адначасовы сеанс магіі выглядаў наступным чынам: з надыходам ночы прапаноўвалася спаліць фота Трампа на аранжавай свечцы, спяваючы пры гэтым: «Хай будзе так!»

Напэўна, першая спроба зваліць Трампа за кошт чараў аказалася няўдалай. Інакш бы чараўнікі ні заявілі, што маюць намер праводзіць свае рытуалы зноў і зноў, аж да таго часу, пакуль Трамп не пакіне прэзідэнцкую пасаду.

На першы погляд, усё гэта выглядае медыя-жартам або рэкламным шоў з мэтай прыцягнуць увагу да сваёй бізнэс-карпарацыі. Але на самай справе тут ёсць сур'ёзны падтэкст. Нездарма акцыю з аранжавай свечкай асвятлялі вельмі аўтарытэтныя заходнія СМІ.

Справа ў тым, што эрозія хрысціянскай ідэнтычнасці сярод амерыканцаў кампенсуецца за кошт іншых культаў, у тым ліку паганскіх. Лепшай ілюстрацыяй, безумоўна, служыць папулярнасць Хэлоўіна, які, паводле сацыёлагаў, нават на постсавецкай прасторы імкліва становіцца «народным» святам.

Акрамя таго, касцяк аматараў нехрысціянскіх культаў складае актыўная частка грамадства. Напрыклад, вобраз вядзьмаркі папулярны сярод феміністак. Апошняе шмат у чым тлумачыцца некаторымі аспектамі амерыканскай гісторыі — доўгі час кожную грамадска актыўную жанчыну вінавацілі ў занятках чорнай магіяй.

Таму палітызацыі нячыстай сілы трэба было чакаць, што і давялі апошнія прэзідэнцкія выбары. Падчас выбарчай кампаніі лагер паганцаў радыкальна падзяліўся. Супраць Трампа выступілі жанчыны-феміністкі з Сусветнай арганізацыі вядзьмарак (World Ad-Hoc Association of Witches). Аднак і Трамп не застаўся без падтрымкі магаў. Супраць Хілары Клінтан мабілізаваліся мужчыны з групы «Амерыканскія паганцы за Трампа» (American Pagans for Trump), якіх пазней падтрымалі і шматлікія кабеты.

Вядзьмаркі і паганцы не шкадавалі магічных сродкаў, каб дапамагчы сваім улюбёнцам-кандыдатам. Вядзьмаркі масава збіраліся на свае шабашы, каб спяваць чароўныя тэксты, якія павінны былі адарадзіць Клінтан ад нападкаў Трампа і яго прыхільнікаў. На тых шабашах была выцягнутая нават нейкая цуда-зброя пад назвай «астральнае люстэрка», якое павінна было разбурыць розум Трампа. На гэта паганцы адказалі сваімі мантрамі, за кошт якіх Трамп мусіў зрабіць Амерыку вялікай. Асабліва радыкальныя паганцы прамаўлялі асабістыя праклёны на адрас «вядзьмаркі Хілары».

**Цяжка сказаць, чые малітвы і праклёны будуць эфектыўнейшымі. Але відавочна: за акіянам ідзе палітызацыя грамадства, якая ахоплівае практычна ўсе формы паўсядзённай актыўнасці**

Сюрпрызам кампаніі стала тое, што тэзісы ведзьмакоў зацікавілі піяр-тэхнолагаў. Дэмакраты выцягнулі рашэнне суда 1692 года па справе «жорсткага, сварлівага мужчыны», характар якога, па іх словах, нібыта спісаны з Трампа. Той, аказваецца, валодаў мастацтвам маніпуляцыі і меў кантакты з д'яблам. Нездарма яго павесілі.

Арэнай барацьбы дзвюх фракцый стаў інтэрнэт, дзе пачаліся нежартоўныя баталіі на форумах. У прынцыпе, яны і засведчылі, што амерыканскае паганства — гэта поўная каша ў мазгах. Аматары Клінтан згадваюць, што ў народзе кандыдата ад дэмакратаў празвалі «вядзьмаркай». Небяспеку, якую нясе Трамп, яны аргументуюць наборам банальных фраз пра тое, што трэба ратаваць жывы свет.

У сваю чаргу, аматары Трампа кажуць пра паранармальныя здольнасці свайго куміра са спасылкай, у тым ліку, на апошнія падзеі ў Швецыі. Падчас мітынгу ў Фларыдзе 18 лютага Трамп ляпнуў: «Толькі паглядзіце, што адбываецца ў Германіі! Паглядзіце на тое, што здарылася мінулай ноччу ў Швецыі! Швецыя, хто б мог падумаць?» Паколькі нічога незвычайнага ў тую ноч у Швецыі не здарылася, гаспадар Белага дому імгненна стаў ахвярай прыколаў і здзекаў. Аднак іранізаваць палітыкам і журналістам давялося нядоўга: не прайшло і 48 гадзін, як у Стакгольме сапраўды пачаліся беспарадкі, за якімі сталі выхадцы з Блізкага Усходу. Наступствамі беспарадкаў сталі не толькі разрабаваныя крамы, пацярпелыя мінакі, спаленыя машыны і запраграмаваны палітычны крызіс, аднак і плёткі пра паранармальны талент прэзідэнта ЗША.

Няма ніякіх сумневаў, што кампанія вядзьмарак — праціўніц Трампа выклікае парытэтную рэакцыю яго сімпатыкаў. Між тым, у незвычайную спірытуальную вайну ўцягнуліся і хрысціяне. Так, амерыканская арганізацыя «Хрысціянскі нацыянальны альянс» абвясціла дзень малітвы, калі ўсе павінны стаць «жаўнерамі Хрыста» і прачытаць адпаведную малітву, якая разбурыць чары праціўнікаў Трампа. Цяжка сказаць, чые малітвы і праклёны ў выніку будуць эфектыўнейшымі. Відавочна адно: за акіянам ідзе дынамічная палітызацыя грамадства, якая захоплівае практычна ўсе формы паўсядзённай актыўнасці.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Пол Эндру Натал



Лідар Партыі за незалежнасць Аб'яднанага Каралеўства (UKIP) — вядучай еўрафобскай структуры ў Брытаніі, якая выступіла ініцыятарам рэферэндуму пра выхад краіны з ЕС, прайграў выбары ў парламент на адной з мажарытарных акруг паўночна-заходняй Англіі. Яго перамог кандыдат ад лейбарыстаў, што выклікала канфлікт унутры партыі. Частка кіраўніцтва патрабуе адстаўкі старшыні.

Спрэчкі паміж аднапартыйцамі дасягнулі такога ўзроўню, што фактычна ў структурах пануе поўны хаос. Паўсталі дзве тэндэнцыі — першая, якую прадстаўляе Натал, лічыць, што партыя мусіць заставацца ў радыкальнай апазіцыі. Другая, што групуецца вакол Дугласа Карсвела, адзінага парламенцкага дэпутата UKIP, бачыць партыю як частку істэблішменту, якая будзе фармавацца за кошт кансерватараў-еўраскептыкаў. Якія будуць наступствы канфлікту, сказаць немагчыма, аднак, безумоўна, гэта паўплывае на ўсю правапапулісцкую сцэну Еўропы, дзе UKIP лічылася нейкім эталонам.

Між тым, разборкі сярод «незалежнікаў» не дапамаглі прыхільнікам сяброўства Вялікабрытаніі ў ЕС. Палата лордаў парламента Вялікабрытаніі аспрэчыла ініцыятыву абавязаць урад вынесці на рэферэндум канчатковае пагадненне аб выхадзе краіны са складу ЕС. Не дапамог нават Тоні Блэр, які абвясціў пра вяртанне ў палітыку з тэмай блакавання Brexit.

### Уладзімір Пуцін



Калі верыць незалежным медыя, з 1 сакавіка пры крамлёўскай адміністрацыі пачаў працаваць пакуль яшчэ нефармальны выбарчы штаб Пуціна. Задача штабу — прывесці кіраўніка Расіі да перамогі на наступных прэзідэнцкіх выбарах, якія адбудуцца 12 сакавіка 2018 года. Істотна, што выбарчы штаб пачаў працу яшчэ да афіцыйнага вылучэння Пуціна на пасаду прэзідэнта.

Нагадаем, што дзеючы прэзідэнт РФ да гэтага часу не рабіў ніякіх заяў пра вылучэнне на наступны тэрмін і не дзяліўся з выбаршчыкамі сваімі прэзідэнцкімі планамі. Што тычыцца канцэпцыі кампаніі, то на гэты конт дакладнай інфармацыі няма. Вядома толькі тое, што вялікая ўвага будзе надавацца праблемам эканомікі. Адміністрацыя прэзідэнта даручыла профільным міністэрствам фармаваць штомесячныя справаздачы пра эканамічныя падзеі, якія здольныя паўплываць на настрoі электарату.

Таксама невядома, каго Крэмль, які маніпулюе апазіцыяй, зробіць галоўным апанентам Пуціна. Пытанне вельмі важнае, паколькі Пуціну трэба не толькі відавочная перамога, аднак і актывізацыя грамадства.

### Яхья Сінвар



Новы лідар ураду ў сектары Газа і, адпаведна, радыкальнай групоўкі ХАМАС, якая кіруе раёнам, упершыню выйшаў на людзі. Яго прамова не выклікала захапленне ў міжнароднай супольнасці, паколькі кіраўнік Газы адкрыў мячэць у гонар аднаго з вядомых тэрарыстаў.

У прынцыпе, такога трэба было чакаць — новы прэм'ер, якому 62 гады, належыць да заснавальнікаў баявога крыла партыі ХАМАС. Ён нясе адказнасць за мноства тэрактаў і пакаранні дзясяткаў жыхароў Газы, абвінавачаных у супрацоўніцтве з ізраільскімі спецслужбамі. Больш за тое, у яго асабістых рахунку з Ізраілем. У 1988 годзе ён быў арыштаваны ізраільскімі спецслужбамі і прысуджаны да 450 гадоў турмы. Але з-за кратаў ён выйшаў дзякуючы незвычайнай дамове, калі Ізраіль пагадзіўся абмяняць 1027 палесцінскіх вязняў на аднаго жаўнера, якога экстрэмісты трымалі ў закладніках.

Яхья Сінвар — асоба моцнай волі. Будучы за кратамі, ён прымусіў ізраільскіх хірургаў выдаліць яму пухліну мозгу ў кепскіх для такой аперацыі абставінах. А з улікам таго, што ў Тэль-Авіве зараз пры ўладзе таксама «ястрабы», можна смела чакаць новай серыі канфрантацыі на Блізкім Усходзе. Таксама прэса звяртае ўвагу, што афіцыйны Егіпет, упершыню пасля вяртання да ўлады вайскоўцаў, пачаў кантакты з ХАМАС.

# Яе дапытваў асабіста Цанава

Сяргей ЧЫГРЫН

**На могілках у вёсцы Яглевічы Івацэвіцкага раёна пахавана Еўдакія Антонаўна Казлова (сапраўднае прозвішча Козел). У роднай вёсцы і ў наваколлі людзі добра памятаюць яе да сённяшніх дзён. Усё жыццё Казлова адпрацавала настаўніцай роднай мовы і літаратуры, атрымаўшы адукацыю ў канцы 1930-х гадоў у Вільні.**



Маладая Еўдакія Казлова



Малады Рыгор Зыбайла, 1943 г.

## Знаёмства

Сям'я ў бацькоў Дусі Козел (пазней яна памяняла сваё прозвішча на Казлову) была даволі вялікая — шасцёра дзяцей. Але бацьку Антону Фёдаравічу Козелу дастаўся ў спадчыну ладны кавалак зямлі, ён яе прадаў, каб за атрыманыя грошы вучыць дзяцей. Дуся нарадзілася ў бежанстве ў Самары. А калі бацькі вярнуліся на Бацькаўшчыну, дзяўчынка паступіла вучыцца ў Віленскую беларускую гімназію, якую ўзначальваў Радаслаў Астроўскі.

Вучыцца было нялроста. Неяк дырэктар Астроўскі выклікаў Еўдакію да сябе ў кабінет і, ведаючы слабое матэрыяльнае забеспячэнне гімназісткі, спытаў, чаму яна не напісала прашэнне аб дапамозе. Дзяўчына прамаўчала.

Яе любімым настаўнікам быў Хведар Ільяшэвіч. Любіла Дуся Казлова заняткі, якія праводзілі Барыс Кіт, Габрыелія Касіньская, Станіслаў Глякоўскі, Вольга Русак, Алёна Лекант-Сакалова, Пётр Шчасны і іншыя выкладчыкі. З ёй на адным курсе вучыліся В.Дук, Б.Сладкоўскі, А.Таўлай, Ю. Чатырка, В.Першукевіч, В.Новік, А.Бразоўскі, М.Лётка, Ю.Мацук, Н.Макоўская, М.Друцька, А.Беласік, Я.Карэтнікава, Я.Бузук.

Некаторыя з яе аднакурснікаў пасля заканчэння гімназіі адразу паступілі ў Віленскі ўніверсітэт. Напрыклад, Васіль Новік паступіў на матэматычны факультэт, туды ж паступіла і Еўдакія Казлова. Але ўсе планы гэтых шчырых беларусаў і іх выкладчыкаў перакрыжавала Другая сусветная вайна.

Еўдакія Казлова вярнулася дамоў. Спачатку працавала ў пачатковай школе ў Яглевічах, а потым — у Косаве. Калі родныя мясціны занялі немцы, дзяўчына зусім засталася без працы.

## У роднай вёсцы

У першыя месяцы вайны на ўскраіне Івацэвіч размясціўся лагер ваеннапалонных. Еўдакія Казлова разам з сяброўкамі збірала ў зямлякоў цёплае адзенне і харчаванне, а потым непрыкметна адносіла гэта за калючы дрот. А восенню 1941 года ёй нават удалося вывесці з лагера каля дваццаці палонных, сярод якіх быў і Сяргей Зорын.

Хутка ў тутэйшых лясах з'явіліся партызанскія атрады. І Дуся стала сувязной. Яна сустракалася з тым самым Сяргеем Зорыным і перадавала яму інфармацыю пра немцаў і нямецкі гарнізон у Івацэвічах. А таксама прыносіла медыкаменты, перавязачныя матэрыялы, харчаванне. За дзяўчынай хутка пачалі сачыць немцы, і нават сплананавалі засаду ў вёсцы Яблонцы. Івацэвіцкія падпольшчыкі пра гэта даведаліся і хутка яе папярэдзілі.

Таму Казлова неўзабаве пакінула родную вёску і пераехала ў Слонім. Там праз знаёмых ёй удалося ўладкавацца на працу ў Слонімскую прагімназію. Але Дуся часам наведвала родную вёску і землякоў. З Яглевічаў у Слонім яна дабіралася цягнікамі. Спачатку з Івацэвіч да Баранавічаў, а потым з Баранавічаў да Слоніма.

Аднойчы, калі дзяўчына села ў вагон, на яе звярнуў увагу высокі мужчына: «Здаецца, Казлова?» Еўдакія таксама пазнала былога дырэктара Віленскай беларускай гімназіі Радаслава Астроўскага. Астроўскі пацікавіўся, куды яна едзе. А даведаўшыся, прапанаваў: «Кідай працу ў Слоніме і пераязджай у Мінск. Я ствараю Беларускую цэнтральную раду. Будзеш працаваць у школьным аддзеле». Еўдакія шчыра падзякавала за прапанову і сказала, што падумае.

Па прыездзе ў Слонім Казлова сустрэлася з Іванам Міско (паэтам Анатолем Іверсам), якога асабіста ведала даўно, і распавяла пра нечаканую сустрэчу і прапанову. У той час Міско ўзначальваў Слонімскую падпольную антыфашысцкую арганізацыю, і прапанова Астроўскага яму спадабалася. Сам Іван Міско не любіў Астроўскага, які некалі выгнаў яго з Віленскай беларускай гімназіі. А цяпер тым больш — за тое, што пайшоў служыць да немцаў.

Міско падзяліўся навіной з сакратаром падпольнага Слонімскага райкама партыі Міхаілам Анішчыкам. І той даў загад, каб Казлова неадкладна ехала ў Мінск і вяла разведку ў Беларускай цэнтральнай радзе (БЦР).

## У Беларускай цэнтральнай радзе

Казлова такой прапановы спалохалася, але іншага выйсця ўжо не было. Яна напісала пісьмо Астроўскаму і хутка атрымала адказ — прыязджай. І дзяўчына напрыканцы 1943 года выправілася ў Мінск. У БЦР яе сустрэлі шчыра, выдалі часовае пасведчанне № 57. На ім было напісана, што Еўдакія Казлова працуе ў школьным аддзеле статыстам. Год нараджэння — 1920, месца нараджэння — Самара, № пашпарту АВ 25737. Год нараджэння чамусьці напісаны памылкова, бо яна нарадзілася ў 1917 годзе.

Жыла дзяўчына на тэрыторыі БЦР. Натуральна, бачыла, што адбываецца там і вакол. Імкнулася ўсё запомніць. На сувязь да яе прыязджаў падпольшчык са Слоніма Мікалай Ціхан. А калі 27 чэрвеня 1944 года ў зале Мінскага гарадскога тэатра адбываўся Другі Усебеларускі кангрэс, Казлова дастала дакументы для некалькіх падпольшчыкаў, якія таксама пабывалі на гэтым мерапрыемстве. З БЦР дзяўчына падпольшчыкам перадавала друкаркі, паперу, сакрэтныя дакументы. Для сустрэчы з падпольшчыкамі і партызанамі яна і сама прыязджала ў родную вёску Яглевічы да бацькоў, а адзін раз — у вёсцы Размеркі Івацэвіцкага раёна сустракалася з Міхаілам Анішчыкам і Іванам Міско.

Разам з тым Казлова, карыстаючыся прыхільнасцю прэзідэнта БЦР Радаслава Астроўскага, садзейнічала адкрыццю беларускіх школ не толькі, напрыклад, у Косаўскім раёне, але і ў сумежных раёнах. У вёсцы Яглевічы настаўніцай пачатковай школы працавала яе малодшая сястра Кацярына Козел, якая вучыла дзетак чытаць і пісаць па-беларуску. І ёй на ніве беларускага школьніцтва шмат дапамагала Еўдакія.

## Вяртанне дамоў

Калі немцы пачалі адступаць на Захад, з імі сабраліся ў дарогу і многія сябры БЦР. Яны селі ў цягнік і з'ехалі ў заходнім кірунку. Сярод работнікаў БЦР была і Еўдакія Казлова, але яна па дарозе ўцякла ў родную вёску. Аднак у першыя ж дні знаходжання дома Казловай прыйшлося перажыць шмат непрыемных момантаў. Аднойчы вечарам у іх хату забег сусед Аляксей Прымак і са злосцю закрычаў: «Прыехала ўсё-ткі дамоў! Ах ты, нямецкая сука!..». Ён ускінуў вінтоўку. Маці з плачам засланіла сабой дачку, а бацька кінуўся да суседа. «Ты што, здурэў! — закрычаў ён. — Гэта такая падзяка за тое, што Дуся аднойчы выратавала табе жыццё?» Прымак апусціў вінтоўку...

І гэта быў не адзіны выпадак, калі вяскоўцы скоса глядзелі на сваю зямлячку, і нават адкрыта казалі, што яна служыла немцам. Не было спакойнага жыцця ёй і ў школе, куды яна пайшла працаваць адразу пасля вайны. Некаторыя настаўнікі ў вочы жанчыну называлі здрадніцай. Еўдакіі Антонаўне прыходзілася апраўдвацца, казаць, што ў Мінску выконвала партыйнае заданне. А ёй казалі: калі выконвала заданне, пакажы даведку. А даведкі не было.

Казлова вырашыла звярнуцца па пацвярджэнне да сваіх слонімскіх сяброў-падпольшчыкаў. Былы камісар партызанскага атрада імя Дзяржынскага Ракасоўскай брыгады Іван Дабрыян і былы сакратар Слонімскага міжраённага антыфашысцкага камітэта Іван Міско напісалі, зацвердзілі ў натарыўсаў і хутка даслалі пацвярджэнні, а вось былы сакратар Слонімскага падпольнага райкама партыі Міхаіл Анішчык просьбу Казловай выконваць не спяшаўся. Аказалася, што інфармацыю разведвальнага характару лягчэй здабыць у ворага, чым даведку аб падпольнай рабоце ў таго, хто пасылаў на гэтую работу.

Зацкаваная настаўніца з вёскі Яглевічы не адзін раз ездзіла да Анішчыка. А ён пад рознымі надуманымі прычынамі ў даведцы адмаўляў.

Аднойчы Іван Міско сустрэў Еўдакію Казлову ў Слоніме. Жанчына шчыра павіталася і была нечым задаволеная. Іван Міско спытаўся:

— Пэўна ў школе адчапіліся ад цябе?

— Даў Анішчык нумар вайсковай часткі, куды перадаваліся па рацыі мае разведдадзеныя.

— Злітаваўся?

— Нічога дарма не робіцца, — дыпламатычна ўсміхнулася Еўдакія Антонаўна. — Праўда, даведку на рукі я не атрымала, яе даслалі ў райана. І адтуль ужо прыйшла каманда ў школу, каб спынілі пераслед...

Пасля дасланых пацвярджэнняў больш ніхто Еўдакію Казлову ні ў чым не папракаў. Яна спакойна працавала настаўніцай роднай мовы, яе, як ветэрана вайны, запрашалі на сустрэчы, да яе пісалі пісьмы з розных куткоў Беларусі настаўнікі, вучні, сябры, выкладчыкі ВНУ, простыя людзі.



Вучні Віленскай беларускай гімназіі, другая справа Дуся Казлова, 1937 г.

## Загадка Еўдакіі Казловай

У 1946 годзе Казлову, якая ўжо працавала настаўніцай, арыштавалі супрацоўнікі МДБ і прывезлі ў Мінск на допыт. Дапытваў асабіста міністр дзяржбяспекі БССР Цанава. Пасля некалькіх сустрэч з Цанавам Казлову выпусцілі на волю. Нават цяжка прыгадаць яшчэ выпадкі, каго, пасля сустрэч з Цанавам, выпускалі дамоў, а не адпраўлялі ў ГУЛАГ ці проста расстрэльвалі.

Еўдакія Казлова не трапіла ў ГУЛАГ, а апынулася на свабодзе. І тут прыгадваецца адзін факт з ліста Ларысы Геніюш да Часлава Найдзюка. 27 ліпеня 1947 года беларуская паэтка пісала яму з Прагі: «Акцыю» на беларусаў у Празе праводзіла Казлова са Слоніма — член ведамай Вам жудаснай установы (пры помачы беларусаў тутэйшых)...» З гэтага вынікае, што нібыта былую студэнтку Віленскай беларускай гімназіі завербавала савецкая дзяржбяспека, каб вылоўліваць беларускіх патрыётаў у Чэхіі ў другой палове 1940-х гадоў. Хаця стопрацэнтных доказаў гэтаму няма. Усе кропкі над «і» можна будзе паставіць толькі тады, калі будуць адкрытыя архівы КДБ.

Калі Еўдакія Казлова падчас вайны працавала настаўніцай у Слонімскай прагімназіі, яна пазнаёмілася з Рыгорам Зыбайлам. Так, з тым самым Рыгорам Зыбайлам — сябрам ЦК Беларускай незалежніцкай партыі, удзельнікам Першага штурмавога звязу, афіцэрам Беларускай краёвай абароны, намеснікам старшыні Беларускай самапомачы, удзельнікам дэсантнага батальёна «Дальвіц»... Падчас вайны ён знаходзіўся ў Слоніме і працаваў на пасадзе старшыні акруговага камітэту БНС. У Казловай і Зыбайлы ўзнікла каханне, і маладыя марылі пра сямейнае жыццё. На адным са сваіх здымкаў, падараваных Казловай, Рыгор па-беларуску напісаў: «Дарагой Дусі на памяць з часоў супольнай працы ў Слоніме. Ад Рыгора, Слонім, 1943 г.».

Пасля вайны Рыгор Зыбайла быў арыштаваны і асуджаны на 10 гадоў лагераў. А калі ён вярнуўся дамоў, то зноў спаткаўся з Еўдакіяй, і яны пажаніліся. І разам пражылі да самай смерці. Зыбайла і Казлова пахаваны побач на могілках у вёсцы Яглевічы на Івацэвіччыне.

**Фота з архіва аўтара.**
**Друкуюцца ўпершыню**



Палонныя жаўнеры Войска Польскага ля Млавы



Нямецкая памежная ахова ля Брэста, 1941 год



Палонныя жаўнеры Войска Польскага з Брэсцкай крэпасці

# З няволі ў няволю



Ігар МЕЛЬНІКАЎ

**У выніку разгрому Польшчы ў Вераснёўскай кампаніі 1939 года ў германскім палоне апынуліся тысячы жаўнераў і афіцэраў Войска Польскага. Значную колькасць з іх складалі беларусы, якія спрабавалі збегчы з нямецкіх лагераў і вярнуцца дадому. Аднак у БССР гэтых людзей арыштоўвалі і накіроўвалі ў Сібір.**

## Падзел Польшчы

Адразу пасля заканчэння баявых дзеянняў немцы і Саветы праводзілі абмен ваеннапалоннымі. Гэта рабілася паводле рашэння СНК СССР, прынятага 14 кастрычніка 1939 года. Паводле гэтага дакументу, савецкія ўлады перадалі нацыстам 37 133 польскіх вайскоўцаў, што нарадзіліся на тэрыторыі, якая ў выніку падзелу Польшчы засталася за Рэйхам. У сваю чаргу, 13 544 польскія жаўнеры, якія нарадзіліся на тэрыторыі Заходняй Беларусі ці Заходняй Украіны, трапілі ў рукі НКУС.

Пэўная частка (у асноўным, шарагоўцы) была вызвалена. Іншых накіравалі ў лагеры. Аднак і пасля абмену польскімі ваеннапалоннымі ў нямецкіх лагерах і зборных пунктах заставалася даволі шмат беларусаў. Урэшце, ім самім давялося вырашаць свой лёс. За Бугам іх чакала сям'я і родныя. Яны лічылі, што вайна ўжо скончылася і савецкая ўлада не будзе караць іх за тое, што яны служылі ў «панскім войску».

У такой сітуацыі сярод іншых аказаўся ўраджэнец вёскі Швэплі, што ля Крулеўшчыны, Уладзімір Бука. Да вайны ён паспеў разам з роднымі папрацаваць у Францыі і, дзякуючы гэтаму, зарабіць грошы на куплю зямлі. У 1932 годзе сям'я Бука вярнулася ў Заходнюю Беларусь і пачала апрацоўваць уласныя 12 гектараў зямлі. У сакавіку 1938 года Уладзіміра Уладзіміравіча прызвалі на тэрміновую службу ў Войска Польскае. Беларусу давялося служыць у 33-м пяхотным палку ў Ломжы. Падчас Вераснёўскай кампаніі 1939 года гэтая вайсковая адзінка ўваходзіла ў склад 18-й пяхотнай дывізіі, якая, у сваю чаргу, была часткай Аператыўнай групы «Нараў».

У кровапралітных баях з немцамі пад Замбравым 18-я дывізія была разбітая, і рэшткі 33-га палка адступілі ў раён Чырвонага Бору, дзе білісь з ворагам да пачатку кастрычніка. Пасля заканчэння баявых дзеянняў шматлікія жаўнеры з гэтага польскага вайсковага злучэння аказаліся ў нямецкім палоне. У рукі нацыстаў трапіў і Уладзімір Бука. Хутка яго накіравалі на працу да нямецкага гаспадара. Учорашні беларускі селянін ператварыўся ў бясплатную працоўную сілу.

З такой сітуацыяй Уладзімір Уладзіміравіч не стаў мірыцца і ў ліпені 1940 года разам з таварышамі вырашыў бегчы дадому. Былым польскім жаўнерам удалося незаўважана перайсці новую савецка-германскую мяжу, і праз некалькі дзён Бука быў ужо дома. Аднак свята не атрымалася. Хутка беларуса забралі ў НКУС, а пазней адвезлі ў гродзенскую турму. Былому жаўнеру давялося сядзець з польскімі крымінальнікамі.

На допытах супрацоўнікі НКУС збівалі беларуса, дамагаючыся прызнання ў супрацы з нямецкай выведкай. Але селянін трымаўся і, урэшце, атрымаў «менш меншага». «Тройка» абвінаваціла былога жаўнера ў незаконным пераходзе дзяржаўнай мяжы і прысудзіла яго да трох гадоў турэмнага зняволення.

Увосень 1941 года Уладзіміра Буку вызвалілі з лагеру ў Архангельску і накіравалі ў распараджэнне Войска Польскага ў СССР. Але беларус... адмовіўся ад працягу вайсковай службы. Да 1943 года Уладзімір Бука ціха працаваў, а калі з-за Катыні ўрад Сікорскага разарваў дыпламатычныя стасункі з Крамлём, былога польскага падданага зноў арыштаваў НКУС. Суд прысудзіў селяніна да пяці гадоў турэмнага зняволення, якія ён правёў у Пермскай турме.



Палонныя жаўнеры польскага войск, верасень 1939 года

## Ішоў дадому, прыйшоў у турму

Не менш трагічнай была і гісторыя Івана Вікенцьевіча Ляшэвіча. Вось вытрымка з абвінавачага заключэння, складзенага 3 снежня 1940 года старшым следчым УНКУС Вілейскай вобласці Маскалёвым:

«11 верасня 1940 года за нелегальны пераход мяжы з Германіі ў СССР быў затрыманы і прыцягнуты да адказнасці І.В. Ляшэвіч. Праведзенае па справе следства выявіла, што ён падчас польска-нямецкай вайны ў жніўні 1939 года (так у дакуменце. — І.М.) быў мабілізаваны на вайну, а ў верасні 1939 года нямецкімі жаўнерамі быў забраны ў палон. Знаходзячыся ў палоне, Ляшэвіч І.В. працаваў на розных працах у памешчыка да верасня 1940 года, а 8 верасня збег з палону ў СССР. Свой нелегальны пераход мяжы тлумачыць тым, што ішоў да пастаяннага месца жыхарства, да сваіх родных, якія пражываюць у Ашмянскім раёне. На падставе выкладзенага Ляшэвіч Іван Вікенцьевіч, 1917 года нараджэння, ураджэнец і жыхар вёскі Павяжы Ашмянскага раёна, Вілейскай вобласці, беларус, пісьменны, абвінавачваецца ў тым, што нелегальна перайшоў мяжу з Германіі ў СССР, г.зн. у злачынстве, прадугледжаным артыкулам 120 УК БССР. Следчая справа № 79748 падлягае разгляду асаблівай нарадай пры НКУС СССР».

Што ж гэта за 120-ы артыкул? У Крымінальным кодэксе БССР ад 1 студзеня ад 1940 года на старонцы 35 чытаем: «Артыкул 120. Пункт «а». Выезд за мяжу ці ўезд у СССР без устаноўленага пашпарта ці часовых пасведчанняў асобамі, якія прыязджаюць у мясцовасці, дзе ўведзена пашпартная сістэма, цягне папраўчыя працы на тэрмін ад аднаго года. Пункт «б». Пражыванне ў мясцовасцях, дзе ўведзена пашпартная сістэма, асоб, не маючых пашпарту ці часовага пасведчання, цягне пазбаўленне свабоды да двух гадоў». Большасць былых польскіх жаўнераў, якія беглі ў БССР, абвінавачваліся адразу па двух пунктах, таму і тэрмін турэмнага зняволення звычайна складаў тры гады.



Верасень 1939 года. Трагедыя палону

У красавіку 1941 года маці Івана Ляшэвіча напісала ліст на імя пракурора Вілейскай вобласці, у якім прасіла вызваліць яе сына. «Мой сын быў узяты на прымусовую панскую вайсковую службу ў сакавіку 1939 годзе (падчас прыхаванай мабілізацыі. — І.М.). Трапіў у нямецкі палон, дзе быў да таго моманту, пакуль не даведаўся, што яго радзіма стала вольнай і шчаслівай. [...] Я маці, і спадзяюся, што Савецкая ўлада пашкадуе нас і вызваліць нашага сына». Аднак прысуд пакінулі без зменаў.

## Без віны вінаватыя...

Парушальнікам дзяржаўнай мяжы стаў і Іван Паўлавіч Мыцка з вёскі Пузыры Вілейскага павету. У міжваенны час ён удзельнічаў у падпольнай дзейнасці КПЗБ, дапамагаў знаёмым, якія ратаваліся ад рэпрэсій з боку польскай паліцыі, пераходзіць польска-савецкі кардон. У 1934–1935 гадах беларус быў прызваны на тэрміновую службу ў адзін з палкоў артылерыі Войска Польскага. Напярэдадні Другой сусветнай вайны Івана Паўлавіча зноў мабілізавалі. Полк, у якім ён служыў, быў накіраваны на мяжу з Германіяй і адным з першых уступіў у бай з ворагам.

Пазней было адступленне, а ў канцы верасня 1939 года беларус трапіў у нямецкі палон. Мыцку накіравалі ў лагер для польскіх ваеннапалонных ля Сувалак, з якога пяхотнік разам з некалькімі калегамі збег у сакавіку 1940 года. На мяжы ўцекачоў схапілі памежнікі савецкага 86-га Аўгустоўскага атраду памежных войскаў НКУС БССР. Беларусаў даставілі на заставу, дапыталі, а пазней павезлі ў гродзенскую турму, дзе трымалі некалькі тыдняў. У ліпені 1940 года былога польскага жаўнера Івана Мыцку прысудзілі да 3 гадоў турэмнага зняволення паводле ўсё таго ж 120 артыкула Крымінальнага кодэксу БССР.

Такіх трагічных гісторый у савецкай Беларусі ў 1940–1941 гадах было даволі шмат. Бацькі, жонкі, сваякі пісалі лісты ў міліцыю, НКУС, пракуратуру і прасілі, умольвалі працоўна-сялянскую ўладу вызваліць іх сыноў, братоў, мужоў. Самі былыя жаўнеры польскага войска, седзячы ў савецкіх турмах, не разумелі, за што ж іх туды накіравалі. Яны ж проста ішлі дадому, у Беларусь. Аднак бальшавікі ў іх бачылі ворагаў. Сёння цяжка сказаць, колькі дакладна беларусаў, былых жаўнераў польскага войска, было асуджана за пераход савецка-германскай мяжы. У пачатку 1990-х гадоў большасць з іх была рэабілітавана рашэннем Пракуратуры ўжо незалежнай Беларусі.




# Мікалай Дзядок прэзентаваў свой паралельны свет

Жанна ГЕМБІЦКАЯ

**У крэатыўнай прасторы «Punkt» зайгралі рознымі колерамі фарбы паралельнага свету. Адбылася прэзентацыя кнігі экс-палітвязня, удзельніка анархісцкага руху і аўтара НЧ Мікалая Дзядка «Фарбы паралельнага свету».**

Паслухаць Мікалая Дзядка і набыць кнігу сабралася не менш за 50 чалавек, што можна лічыць поспехам для маладога аўтара.

«Турэмная аналітыка» — так называе Мікалай Дзядок свой зборнік з трынаццаці апеведаў, прыкладна палова з якіх напісаная падчас пяцігадовага зняволення ў турмах і калоніях Беларусі.

Мікалай Дзядок — адзін з арыштаваных па «справе анархістаў»: у 2010 годзе, калі ўлады, выкарыстаўшы ў якасці нагоды напад на расійскую амбасаду, пачалі маштабную зачыстку анархісцкага руху. Мікалай быў затрыманы і пазней атрымаў 4,5 гады пазбаўлення волі. За некалькі дзён да заканчэння тэрміну суд дадаў яму яшчэ год па артыкуле 411 КК РБ («Злоснае непадпарадкаванне адміністрацыі папраўчай установы»).

У кнізе былы вязень аналізуе тое, як працуе сістэма і якімі інструментамі карыстаецца для падаўлення асобы.

Распавядаючы пра кнігу, Мікалай Дзядок зрабіў асаблівы акцэнт на «дэсакралізацыі метадаў апаратыўнікаў». Супрацоўнікі карнага апарату акружылі сябе і свае практыкі арэолам таемнасці, што дазваляе ім дзесяцігоддзямі і нават стагоддзямі перамолваць людскія лёсы. «Сарваць фіранку з гэтых метадаў, каб пазбавіць людзей страху» — і ёсць, паводле аўтара, адна з мэтаў кнігі.

Мікалай Дзядок таксама адказваў на пытанні прысутных. Калі ў яго пацікавіліся, ці будзе ў гэтай кнізе працяг, аўтар заўважыў, што хаця турэмная тэматыка не адпусціць яго ўжо да канца жыцця, наступная кніга, якую ён напіша, не будзе датычная непасрэдна карных структур, аднак канкрэтную тэму не назваў.

На такой інтрыгуючай ноце прэзентацыя скончылася. А тыя, хто набыў твор, пайшлі дамоў, каб акунуцца ў атмасферу таго паралельнага свету, які лепш за ўсе спасцігаць толькі з кніжных старонак.

# Адроджаны «Народны альбом» вярнуўся да свайго народу

Валярына КУСТАВА

**У сталічным «Prime Hall», на адной з найбуйнейшых сцэнічных пляцовак сталіцы, першы раз больш чым за дзесяцігоддзе ў Беларусі прайшоў канцэрт-мюзікл «Народны альбом» — культавы праект 1990-х гадоў.**












На сцэну ў адзін вечар выйшлі ці не ўсе зоркі беларускага андэграўнду, якія ўвасобілі гасцей карчмы шматкультурнага памежнага «мястэчка Ракаў пры панскай Польшчы» ў 1920–1930-я гады мінулага стагоддзя, — Лявон Вольскі, Кася Камоцкая, Зміцер Вайцюшкевіч, Вераніка Круглова, Аляксандр Памідораў ды іншыя ўдзельнікі «зорнага» складу «Народнага альбому».

Сёлета праект адзначыў сваё 20-годдзе. «Народны альбом» быў запісаны яшчэ ў 1997 годзе ў былой студыі радыё «101.2». Адроджаная версія «Народнага альбома», паказаная ў Мінску, была створана летась па замове польскага тэлебачання «TVP S.A.» і пры падтрымцы Нацыянальнага Цэнтра Культуры (Польшча). Прэм'ера спектакля «Народны альбом. 20 год» адбылася 4 верасня 2016-га ў зале Падляшскай оперы ў Беластоку (Польшча) у межах фестывалю «Усход культуры. Іншае вымярэнне». Пастаноўку новафарматнай версіі зрабіў польскі рэжысёр Конрад Смуга, дэкарацыі і касцюмы — беларуская сцэнограф Алена Ігруша.

Арганізатарам канцэрта ў Беларусі выступіў Уладзімір Шаблінскі («Агенцтвам «Шаблі» атрымана гастрольнае пасведчанне), а партнёрамі сталі Польскі Інстытут у Мінску, Інстытут Адама Міцкевіча. Гэта значыць, што канцэрт быў афіцыйна дазволены. Па сутнасці — гэты быў першы буйны афіцыйна разбаронены выступ на вялікай сцэне такіх беларускіх выканаўцаў, як Лявон Вольскі і Зміцер Вайцюшкевіч.

Гэткай канцэнтрацыі беларусаў са стажам у беларускасці цяжка было ўявіць у якім-кольвек іншым месцы: вядомыя журналісты, музыкі, пісьменнікі, бізнесоўцы, дактары, палітыкі, грамадскія актывісты... Таксама на канцэрце прысутнічала і дырэктарка тэлекана «Белсат» Агнешка Рамашэўская-Гузы.

У «Prime Hall» быў аншлаг. Танцпол ламіўся, ён быў шчыльна запоўнены ва ўпор да партэру. Моладзь жартавала: «Навошта ўсе тыя, хто набыў месцы за столікамі, прыйшлі пастаяць на наш танцопол? Мы ж не ходзім пасядзець на іх крэслы!» Напраўду, усе хацелі як глыбей насалодзіцца дзеяй і імкнуліся бліжэй да сцэны.

Гучалі песні на беларускай, польскай, рускай мовах і нават на ідыш. Заля спявала разам з выканаўцамі ўсё, і перадусім легендарныя «Простыя словы», «Край, ты мой край», «Кантрабандыст», «Паляўнічы ты мой, паляўнічы», трылогію пра Казіка і Юзіка і іншыя песні на словы Міхала Анемпадыстава.

У залі можна было заўважыць 3 пакаленні беларусаў — тыя, што гадаваліся на песнях «Народнага альбому», тыя, хто на іх сталелі, і тыя, хто нарадзіўся ў тых, хто пасталеў і выгадаваўся пад песні альбому.

Артыстаў выклікалі «на біс» зноў і зноў. Публіка выходзіла з залі адухоўленая, задаволеная. Мне ж успомніўся вераснёўская прэм'ера ў Беластоку — людзі плакалі і былі папросту шчаслівыя. І, магчыма, нават на каліўца больш (калі шчаслівасць увогуле можна вымяраць). Бо ў Беластоку сабраліся перадусім эмігранты і беларусы замежжа, для якіх кожнае слова і нота па-нашаму было як вяртанне на Радзіму, да сваіх вытокаў, да сябе. Так хочацца, каб і беларусы тут, дома, — мы ўсе — не прашчоўкалі вяртанне сябе. «Жыве Беларусь!» — крычала заля «Prime Hall» артыстам «Народнага альбому», а Вольскі адказваў: «Жыве!».

Мая фрэндстужка забітая фотаздымкамі з прэм'еры «Народнага альбому», тэгамі #narodnyalbom #народны і фотаздымкамі каля вогнішча і намётаў з Курапатаў (#курапаты). Невымоўна добра, што беларусы ведаюць, навошта і куды ісці, каб захаваць сваё, важнае. І гэтае важнае — яны ствараюць і бароняць самі. Мы вярнулі «Народны альбом» у Беларусь. Можам вярнуць і астатняе. Галоўнае, як казала бабуля, не шчоўкаць дзюбай і выкарыстоўваць усе шансы.

**Фота: Павел Аксіновіч**



Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17268-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. Замова № 210

Падпісана да друку 03.03.2017. 8.00. Наклад 3000 асобнікаў. Кошт свабодны.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая. Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.